Чарняўскі М. М.

З глыбінь тысячагоддзяў. Мн., «Нар, асвета», 1978. 126 с, (Школьнікам аб гісторыі БССР),

У кнізе ў папулярнай форме расказваецца пра жыццё першабытнага чалавека на тэрыторыі Беларусі ў каменным веку, пра яго заняткі, быт, вераванні, матэрыяльную культуру, творы старажытнейшага маетацтва.

## РЫДЛЁЎКАЙ, НАЖОМ І ПЭНДЗЛЕМ

— А навошта нам ведаць, як жылі нашы вельмі далёкія продкі? — запярэчыць хто-небудзь.— Гэта ж сівая даўнасць, непатрэбшчына, а мы жывём у век найвялікшых навуковых адкрыццяў і вынаходстваў, небывалых касмічных палётаў.

Яно-то так, але ўсё пазнаецца ў параўнанні і, толькі азірнуўшыся ў паўзмрок тысячагоддзяў, можна паўней адчуць і зразумець дасягненні цывілізацыі.

Чалавек павінен прадбачыць будучае, правільна ацаніць той шлях, па якім прайшлі яго продкі.

Вам, напрыклад, цікава ведаць, што ў дзяцінстве або ў маладосці бачылі і перажылі вашы бацькі? Аб гэтым можна спытаць у іх саміх. Яны ахвотна раскажуць пра вашага дзеда, можа нават успомняць і прадзеда. Пра мінулае роднай мясцовасці, горада, рэспублікі можна даведацца з кніжак, напісаных вучонымі-гісторыкамі. Матэрыял для сваіх прац яны ўзялі з розных дакументаў, старадаўніх летапісаў. Але пісьменнасць на тэрыторыі сучаснай Беларусі распаўсюдзілася толькі ў X стагоддзі. Адкуль жа даведацца пра ранейшую гісторыю нашай Бацькаўшчыны? І тут на дапамогу прыходзяць археолагі. Яны адкопваюць у зямлі рэшткі жыццядзейнасці чалавека — яго прылады працы, рэчы хатняга ўжытку, жыллё, і на падставе гэтых знаходак вывучаюць мінулае.

А рэчы могуць сказаць не менш, а часам нават і больш, чым старадаўнія рукапісы, бо ў апошніх паведамляецца часцей за ўсё пра паходы ды войны розных князёў, а пад час раскопак можна даведацца, як жылі і чым наогул займаліся нашы продкі, можна ўявіць іх побыт і характар гаспадаркі. Калі, напрыклад, на даўнім паселішчы сустрэнецца зерняцёрка, ды не адна, а калі яшчэ натрапіцца крамянёвы серп, то ўжо можна не сумнявацца, што мясцовыя жыхары займаліся земляробствам. Кручкі, гарпуны, косткі рыб сведчаць аб рыбацтве. Вось у раскопцы знойдзена некалькі чалавечых костак і ў гэтым нічога дзіўнага — можа, тут рэшткі разбуранага ў пазнейшы час пахавання. Але калі косткі, і асабліва трубчастыя, патрушчаныя — гэта ўжо сведчанне людаедства. О, рэчы гавораць шмат, трэба толькі ўмець на іх глядзець і правільна падумаць!..

У архіве беларускага археолага В. Р. Тарасенкі натрапіўся ліст аднаго бульдазерыста з Магілёўшчыны. Ён пісаў, што каля суседняй вёскі маецца гарадзішча, і прапаноўваў раскапаць яго з дапамогай бульдозера. Маўляў: дзень працы — і гарадзішча як не было... Але так археалагічныя раскопкі не праводзяцца. І вось чаму. За стагоддзі

побыту жыхароў на якім-небудзь паселішчы ўтварыўся культурны пласт, гэта значыць, пласт зямлі з рэшткамі жыццядзейнасці чалавека, яго культуры. Здаралася, што ў засяленні наступалі перапынкі, бывалі пажары, месца захоплівала чужое племя. Ва ўсіх такіх выпадках адкладалася некалькі пластоў, розных па характару і знаходках. Пры гэтым найбольш старажытныя матэрыялы апынуліся ў самым нізе. Акрамя таго, на паселішчах захаваліся рэшткі пабудоў, сустракаюцца розных часоў пахаванні. А ўявіце сабе, калі б усё гэта разрыць бульдозерам альбо хоць проста перакапаць рыдлёўкай, то якая б утварылася мешаніна. А колькі б патрушчылася знаходак, бо некаторыя рэчы і самі па сабе за прайшоўшы доўгі час моцна разбурыліся і ледзь трымаюцца, гаршкі даводзіцца расчышчаць па сантыметру і кожны ўчастачак іх паверхні замацоўваць клеем.

Археолаг капае помнік[1] асцярожна здымаючы рыдлёўкай тонкія пласточкі зямлі, расціраючы пальцамі кожную грудку, каб не прапусціць якую-небудзь знаходку. Затым на кожнай рэчы, здабытай у раскопцы, запісваецца, дзе была яна знойдзена і на якой глыбіні. Калі знаходак шмат або калі трапляецца зямлянка, пахаванне ці развалены пасудзіны, рыдлёўка адкладваецца ўбок. Тут ужо трэба дзейнічаць нажом або шуфлем, а часам і вострай іголкай адкалупваць камочкі зямлі, асцярожна счышчаць пясок і пыл пэндзлікам.

Пасля таго як у раскопцы выбраны культурны пласт, дно яе зачышчаецца, каб можна было заўважыць шэрыя плямы ямак або пахаванняў. Затым выбіраюцца і гэтыя плямы. На іх месцы часам можна знайсці цікавыя рэчы. У Гродна, напрыклад, непадалёку ад Каложскай царквы, даследаваўся пласт сярэдневяковага горада. Праца была закончана, засталося толькі зачысціць зямлянку. І тут у яе сценцы ўдалося заўважыць малапрыкметную плямку. Асцярожна пачалі даследаваць гэтае месца, і аказалася, што тут знаходзілася схованка, а ў ёй ляжала некалькі жалезных наканечнікаў і сярпоў — цэлы скарб! Відаць, гаспадар рэчаў перад нейкай небяспекай прыхаваў іх да лепшага часу, але па невядомай нам прычыне вярнуцца забраць захаванае яму не давялося... Магчыма, ён загінуў на гарадской сцяне, адбіваючы варожы націск.

Зімой, калі за акном бываюць халодны вецер і снег, археолаг сядзіць ва ўтульным кабінеце і вывучае здабытае за лета. З асобных чарапкоў склейваюцца гаршкі, якія потым замалёўваюцца і фатаграфуюцца, касцяныя рэчы замацоўваюцца спецыяльнымі раство-

[1] Археалагічнымі помнікамі з'яўляюцца рэшткі старажытных паселішчаў, могільнікаў, майстэрань, горназдабываюных выпрацовак і г, д.

рамі. Пад рукою ў даследчыка ёсць розныя інструменты, павелічальнае шкло, а то і мікраскоп. Непадалёку кніжкі, чарцяжы, палявыя дзённікі.

Раскапаць даўняе паселішча або могільнік — гэта толькі палова справы. Знойдзены матэрыял трэба старанна даследаваць, дакументальна аформіць яго, параўнаць з раней здабытым.

Знойдзеная старадаўняя рэч недасведчанаму чалавеку амаль нічога не гаворыць. Нават вопытны археолаг адразу не шмат можа расказаць пра новую, дагэтуль невядомую знаходку. У такім выпадку даводзіцца пераглядзець шмат матэрыялаў з суседніх тэрыторый, каб уявіць прызначэнне знаходкі, час яе вырабу, зразумець, якому народу гэта рэч належала.

Важнае месца ў археалогіі займае датаванне. Якая карысць з раскапанага, хай сабе і цудоўнага помніка, калі невядома, да якой эпохі ён належыць. Датаванне — справа складаная, але не безнадзейная. Для гэтай мэты існуе з дзесятак розных метадаў.

Пры вызначэнні ўзросту знаходак вельмі дапамагаюць выяўленыя разам з імі старадаўнія рэчы: манеты з выразнымі гадамі іх чаканкі, аздоба, бытавыя прадметы блізкаўсходняга, егіпецкага, грэчаскага і рымскага паходжання, бо, як вядома, антычная храналогія дасканала распрацаваная. Аднак на тэрыторыі Беларусі ўвогуле мала сустракаецца рэчаў са старажытнага Міжземнамор'я, ды і то яны ў сваёй пераважнай колькасці адкопваюцца на помніках больш позняга часу.

Датаванню паселішчаў і знаходак каменнага веку дапамагае параўнанне іх з матэрыяламі суседніх тэрыторый, асабліва больш паўднёвых, храналогія якіх ужо вызначана.

У сучасны момант распрацаваны і шэраг метадаў больш дакладнага датавання з дапамогай розных складаных машын і прыбораў. Так, па знойдзеных вугалях можна вызначыць, калі гарэла вогнішча, па абломках глінянага гаршка — калі ён абпальваўся, па рэштках печкі — калі ў ёй гатавалі страву.

Апрацаваўшы падобным чынам усе здабытыя за лета матэрыялы, археолагі затым робяць на іх падставе розныя цікавыя вывады пра жыццё першабытных людзей.

А ў маі, калі расквітнее зямля, сцяжынкі зноў клічуць у нязведанае, у чароўную краіну Археалогію, дзе кожны прырэчны грудок хавае таямніцу, дзе гісторыя народа запісана не на пажоўклым пергаменце, а на старонках вялікай кніжкі — Зямлі.

Чалавечая гісторыя, як вядома, падзяляецца на пяць перыядаў, якія характарызуюцца ўзроўнем сацыяльнаэканамічнага развіцця

грамадства: першабытнаабшчынны, рабаўладальніцкі, феадальны, капіталістычны і сацыялістычны лад. Эпоха, якую вывучаюць археолагі, займае ўвесь перыяд першабытнаабшчыннага, рабаўладальніцкага і частку феадальнага ладу і працягваецца некалькі соцень тысяч гадоў. У сваю чаргу яна мае археалагічную перыядызацыю: каменны, бронзавы і жалезны век. Для некаторых тэрыторый выдзяляецца яшчэ і медны век, які папярэднічаў бронзаваму.

Як сведчаць самі назвы, за аснову перыядызацыі быў узяты матэрыял, з якога выраблялісся прылады працы. гэты падзел не такі ўжо і фармальны, калі ўлічыць, што прылады адлюстроўваюць узровень гаспадарчага развіцця грамадства.

На ўроках гісторыі вы даведаліся, што ў каменным веку прылады выраблялісся з каменю, у бронзавым — з бронзы, хоць і камень яшчэ не выйшаў з ужытку; у жалезным — з жалеза. Дарэчы, жалезны век працягваецца па сённяшні дзень. Хоць мы выкарыстоўваем і электрычнасць і атамную энергію, але без жалеза яшчэ амаль нідзе нельга абысціся.

Каменны век працягваўся каля мільёна гадоў. За такі доўгі час і ў вырабе прылад працы і ў развіцці самога першабытнага грамадства адбываліся значныя змены, таму археолагі каменны век у сваю чаргу падзяляюць на асобныя эпохі: палеаліт, мезаліт і неаліт.

Палеаліт — гэта значыць, старажытны каменны век (з грэчаскай мовы: «палайас» — старажытны, «літас» — камень).

У палеаліце чалавек авалодаў агнём і навучыўся вырабляць прылады працы. На пачатку гэта былі пераважна каменныя ручныя секачы і адшчэпы. Пазней людзі сталі ўжываць крамянёвыя вастраканечнікі, скрэблы, вырабы з пласткоў. У канцы эпохі з'явіўся амаль увесь асартымент вырабаў з каменю, костак і рагоў, характэрных для каменнага веку: скрабалкі, разцы, наканечнікі стрэлаў і дзід, праколкі, іголкі, гарпуны і г. д. Пахаладанне клімату ў палеаліце вымусіла старажытнага чалавека будаваць сабе жытло, вынайсці вопратку і абутак. Вынікам развіцця чалавека, як сацыяльнай істоты, з'явіўся пераход ад першабытнастаткавай грамады да родавага ладу. У сярэдзіне эпохі зараджаюцца першыя рэлігійныя вераванні і мастацтва.

У познім палеаліце значная частка тэрыторыі Беларусі ўжо была асвоена першабытным чалавекам, а ў самым канцы эпохі ён заеяліў берагі буйнейшых рэк і азёр амаль усёй прасторы, якую займае наша рэспубліка.



*Раскопкі рэштак жытлана палеалітычнай стаянцы каля вёскі Юдзінава. (Бранская вобласць, РСФСР.)*

Каля 10 000 гадоў таму назад пачаўся мезаліт — сярэдні каменны век (па-грэчаску «месас» — сярэдні). У гэты час чалавек пранік на драбнейшыя рачныя прытокі і на берагі меншых азёр, адным словам — уся тэрыторыя сучаснай Беларусі ўвайшла ў склад так званай айкумены[2]. Людзі мезалітычнай эпохі пачалі ўжываць масіўную крамянёвую сякеру і цяслу, акрамя ўжо шмат якіх вядомых раней прылад, а таксама дробныя апрацаваныя крамянёвыя пласткі, якія былі або наканечнікамі стрэлаў, або ўкладышамі да нажоў і гарпуноў. Лук і стрэлы, вынайдзеныя ў канцы папярэдняй эпохі, у мезаліце распаўсюдзіліся паўсюдна.

Апошні перыяд каменнага веку — неаліт (па-грэчаску «неас»— новы), характарызуецца велізарнымі зменамі ў чалавечым грамадстве.

У неаліце чалавек упершыню навучыўся ляпіць гліняны посуд, пачаў вырабляць новыя прылады працы — шліфаваныя сякеры і цяслы. Адначасова з раней вядомымі практыкуюцца новыя спосабы апрацоўкі каменняў — шліфаванне, пілаванне і свідраванне. У гэту эпоху пачынаецца распрацоўка шахтавым спосабам крэмненосных радовішчаў, зараджаюцца і развіваюцца якасна новыя, вытворчыя формы гаспадарання — земляробства і жывёлагадоўля, якія дапаўняюцца вядомымі і раней паляваннем, рыбацтвам і збіральніцтвам. Такі далека не поўны пералік дасягненняў новага каменнага веку, які

---

[2] Айкумена (грэч.) — заселеная чалавекам тэрыторыя зямнога шара.

на нашай тэрыторыі пачаўся ў V тысячагоддзі і закончыўся ў канцы III — пачатку II тысячагоддзя да н. э., калі наступіла эпоха бронзавых прылад — бронзавы век.

Світанку гісторыі — каменнаму веку на тэрыторыі Беларусі — прысвячаецца гэтая кніжка.

## ПРЫРОДА — І МАЦІ І МАЧЫХА

Якія ж былі клімат, раслінны і жывёльны свет у каменным веку? Што акружала нашага вельмі далёкага продка? Ведаць гэта надзвычай цікава і важна, паколькі старажытны чалавек знаходзіўся ў непасрэднай залежнасці ад прыроды.

Сучасны чалавек — гаспадар свету, ён змяняе прыроду і стараецца прыстасаваць яе да сваіх патрэб. Дзікун жа каменнага веку, асабліва ў палеаліце і мезаліце, быў бяссільны перад ёй і задавальняўся тым, што яна давала ежу, вопратку, жыллё. Першабытны чалавек, як кажуць, не вытвараў сабе прадукты для жыцця, а спажываў гатовыя, беручы іх у наваколлі, у прыродзе. А прырода не заўсёды была добрай маці, часам яна станавілася і злоснай мачыхай...

Вучоныя ўжо маюць некаторыя звесткі аб тым, што старажытны чалавек упершыню пачаў пранікаць на тэрыторыю сучаснай Беларусі каля 100 тысячагоддзяў таму назад у так званую мусцьерскую эпоху сярэдняга палеаліту. Гэта падзея супала з вялікім абледзяненнем нашай планеты.

— Пры чым тут абледзяненне? — можаце здзівіцца вы.— Беларусь — не нейкія там высокія Альпы, дзе на горных вяршынях заўсёды зіхацяць пад сонцам снягі, а ў даліны павольна спаўзаюць ледавікі. Справа ў тым, што ў гісторыі Зямлі былі перыяды асаблівых пахаладанняў, калі горныя ледавікі не паспявалі раставаць, як гэта адбываецца цяпер, і пачыналі спаўзаць у прадгор'і, а затым распаўсюджваліся на аддаленыя за сотні і нават тысячы кіламетраў тэрыторыі.

Больш як 300 тысяч гадоў таму назад у паўночным паўшар'і пачалося адно з такіх абледзяненняў, якое ў навуцы атрымала назву рыскага або дняпроўскага. А калыскай для яго стала Скандынавія.

Для росту ледавіка неабходны холад і багатыя ападкі. Менавіта ў Скандынавіі і склаліся ў той час такія ўмовы. На гарах стала выпадаць шмат снегу. Ён не паспяваў раставаць за кароткае і халаднаватае лета і яго назапашвалася ўсё больш і больш. Пад уздзеяннем талай вады, пары і ціску з снегу пачаў утваоацца лёд, таўшчыня якога дасягала некалькі кіламетраў.

І вось пад уздзеяннем вялікага ціску вышэй ляжачых пластоў на ніжэйшыя лёд пачаў расплывацца ў бакі.

Лёд ды расплывацца — дзіўна гучыць.

Мы прывыклі да выразу: «лёд цвёрды як камень», асабліва гэта адчуваецца, калі сам упадзеш на коўзанцы... Але ў вялікіх масах пад уздзеяннем нагрузак ён набывае ўлэсцівасці цякучасці. Канечне, не як вала, а як, напрыклад, смала. І рухаецца ён не з быстрынёй імклівага горнага патоку, а паволі — пры надта спрыяльных умовах прасоўваецца на некалькі дзесяткаў метраў у суткі. Але мае сілу непамерна большую, чым самы бурлівы паток. На сваім шляху знішчае ўсё жывое: крышыць і руйнуе горы, засыпае сваімі адкладамі нізіны, рэкі і азёры, непазнавальна змяняе наваколле.

У максімальную стадыю свайго існавання ледавік заняў усю плошчу сучаснай Беларусі і нават прасунуўся па даліне Дняпра далей на поўдзень, ажно да месцазнаходжання сённяшняга Днепрапятроўска. І вось на гэтай мяжы, на адносна цёплых геаграфічных шыротах ледавік дасягнуў той раўнавагі, пры якой яго прырост паспяваў раставаць. Да таго ж велізарны ледавік, што пакрыў значную частку паўночнага паўшар'я, утоймліваў у сабе такое мноства вільгаці, што клімат зрабіўся вельмі сухім і сам ледавік пачаў «задыхацца», не маючы для свайго росту ападкаў. І, растраціўшы ўсю сваю сілу, ён пачаў паступова адступаць.

Каля 150 тысяч гадоў таму назад пачалося пацяпленне, і мяжа ледавіка пачала паступова адсоўвацца на поўнач. Але гэтае адступленне не было раўнамерным. Як толькі выпадалі халаднейшыя перыяды, лёд зноў ішоў у наступ. Але чарговае пацяпленне вызваляла з-пад яго ўлады велізарныя плошчы тэрыторыі. І так паўтаралася неаднаразова, аж пакуль уся паверхня, якую займае сучасная Беларусь, не вызвалілася з-пад ледавіковага палону.

Зямля з адкладзенымі на ёй пяском, глінай і жвірам, што пакідаў адступаючы ледавік, праз пэўны час пакрывалася расліннасцю. Гэта былі пераважна разрэджаныя бярэзнікі, сярод якіх часам пракідаліся хвоі і яліны. Ніжэйшыя мясціны зарасталі хмызняком з карлікавых бярозак, з вольхаў і вербаў. Паміж зараснікамі распасціраліся вялікія ўчасткі зямлі з тундравай або стэпава-тундравай расліннасцю.

З пацяпленнем клімату ўсё большае месца ў лесе пачала займаць яліна, а затым і хвоя. У больш паўднёвых раёнах выраслі дубы, вязы, ліпы і грабы.

У эпоху рыскага абледзянення ва ўмовах халоднага клімату існаваў своеасаблівы жывёльны свет, характэрны як для тундры — паўночныя алені, мускусныя авечкабыкі, пясцы, палярныя мышы;

стэпу і лесастэпу — дзікія коні, тушканчыкі, суслікі; так і лясныя жывёлы — высакакародныя алені, бурыя мядзведзі, дзікі, расамахі, бабры і г. д. Сустракаліся тут таксама ваўкі, лісіцы, зайцы. Шмат было мамантаў і валасатых насарогаў. Сярод птушак сустракаліся палярныя совы, белыя курапаткі. Летам прыляталі і больш цеплалюбівыя — качкі, гусі.

Вось такі клімат, раслінны і жывёльны свет сустрэў чалавек, калі ён упершыню ў далёкім мінулым пранік на тэрыторыю сучаснай Беларусі.

Не паспеў першабытны чалавек асвоіць яе поўдзень, як зноў пачалося пахаладанне. Прыйшлі ў рух ледавікі далёкай Скандынавіі і, як белая пачвара, папаўзлі яны на поўдзень. Так 80-90 тысячагоддзяў таму назад пачалася эпоха апошняга абледзянення, якое вучоныя называюць вюрмскім або валдайскім.

Апошні ледавік здолеў дасягнуць толькі паўночных абласцей сучаснай Беларусі, але яго халодны подых адчуваўся на ўсёй яе тэрыторыі. Вечная мерзлата скавала зямлю. Зноў утварыліся тундра, лесатундра і халодныя стэпы. Раслінны і жывёльны свет быў такі ж, як і ў час папярэдняга абледзянення.

Пастулова зноў пацяплела, і каля 14 тысяч гадоў таму назад ледавік адступіў з тэрыторыі Беларусі, а праз некалькі тысячагоддзяў растаў і ў Скандынавіі. Пачалася пасляледавіковая эпоха... На месцы шматмятровай лёдавай тоўшчы засталіся крутабокія ўзгоркі ды безліч азёр, на дне многіх з якіх яшчэ захоўваліся велізарныя адорвені лёду. І толькі з далейшым пацяпленнем яны расталі канчаткова.

Уся пасляледавіковая эпоха атрымала ў геалогіі назву — галацэн. У сваю чаргу ён падзяляецца на ранні (10 000-7 000 гадоў назад), сярэдні (7000-3300 гадоў назад) і позні галацэн (3300 — і аж да нашых дзён).

Сярэдні каменны век (мезаліт) прыпадае на ранні галацэн, а новы каменны век (неаліт) па часу займае амаль увесь сярэдні галацэн.

У раннім галацэне адбывалася паступовае пацяпленне клімату. У пачатку эпохі былі распаўсюджаны бярозавыя і бярозава-хваёвыя лясы, з цягам часу ўсё больш пашыраюцца хваёва-шыракалістыя змешаныя лясы.

У першую палову сярэдняга галацэну клімат на тэрыторыі Беларусі стаў цёплы і вільготны. Тады сярэднегадавая тэмпература была вышэйшая на некалькі градусаў, чым цяпер.

Мяккія кароткія зімы, гарачыя з частымі дажджамі летнія месяцы спрыялі росту хваёва-шыракалістых лясоў з падлескам.

Відавы склад старажытнага лесу вызначаецца шляхам аналізу дрэвавага пылку і насення, якое адкладалася ў тарфяніках, Такія аналізы праведзены ў многіх кутках нашай рэспублікі. Таму мы сёння можам дакладна ўявіць характар лясоў нават у паасобных раёнах. Земляробства на тэрыторыі Беларусі ў неаліце толькі пачыналася, лясы не высякаліся, і тыя даўнія краявіды ўяўлялі суцэльнае зялёнае мора, а ўзгоркі былі як застыглыя хвалі. У той час вельмі многа было хвойнікаў. Асабліва вялікія масівы складалі яны на Палессі, а пад сучаснымі Гомелем і Гродна хвоя займала пераважную большасць лясоў.

Затое для яліны, якая не любіць гарачыні і якая сёння заваёўвае сабе ўсё большае месца, робячы нашы лясы змрочнымі, у сярэднім галацэне былі цяжкія часы. На поўдні ў тарфяніках яе пылку амаль не знайшлі. І нават на крайнім паўночным усходзе рэспублікі яліна толькі ў выключных выпадках займала да чвэрці ўсіх лясоў. А вось бяроза адчувала сябе добра і на Дзвіне і на Прыпяці. Яе пылок у аналізах нярэдка займае 30 і больш працэнтаў. Вольха любіць вільгаць, цяпло ёй таксама не шкодзіць. Вось чаму альховыя зараснікі былі неад'емнай часткай старажытнага ландшафту. Напрыклад, у сярэднім і ніжнім цячэнні Прыпяці яны часам займалі пераважную частку лясной плошчы. Да чвэрці лясоў прыпадала на вольху і на Віцебшчыне.

Сярэдні галацэн — найбольш спрыяльны час для шыракалістага лесу. Ніколі раней гэтай эпохі, ды і пазней, так часта на тэрыторыі сучаснай Беларусі не сустракаліся ду~ бовыя, грабавыя і букавыя лясы, ляшчэўнікі.

Багатыя ападкі прывялі да ўтварэння балот, павысіўся ўзровень азёр. У цёплых водах хутка развівалася расліннасць і адкладаўся торф.

У познім неаліце адбылося яшчэ большае пацяпленне, але дажджоў стала выпадаць менш, і клімат значна пасушэў. Як вынік гэтага — пачалі мялець рэкі і азёры, а ў лясах узніклі паляны.

Калі для характарыстыкі галацэнавага расліннага свету ў вучоных маецца шмат рэчавых сведчанняў — пылок і насенне раслін, то пра жывёльны свет у мезаліце і неаліце даных менш.

На некаторых стаянках Паазер'я і Палесся сустракаюцца косткі тых жывёл, птушак і рыб, на якіх палявалі і якіх лавілі нашы продкі. Але гэтых знаходак мала, да таго ж аб'ектамі палявання былі не ўсе дзікія жывёлы. Усё ж, разглядаючы гэтыя матэрыялы і ведаючы, што клімат з таго часу карэнным чынам не змяніўся, стаў толькі некалькі больш халодны, можна без памылак сказаць, што відавы склад жывёлін, птушак і рыб у неаліце ў асноўным быў такі ж, як і цяпер. Канечне, пэўныя змены адбыліся: зубры і туры жылі на Беларусі

спрэс, сёння ж зубры ёсць толькі ў Белавежскім запаведніку, а апошні ў свеце тур быў забіты некалькі стагоддзяў назад. Затое раней не было некаторых звяроў і рыб, якія завезены цяпер да нас з іншых краін і нават кантынентаў.

Мінулы жывёльны свет быў значна багацейшы на дзічыну і рыбу, чым сучасны. гэта тлумачыцца тым, што яны заўсёды бываюць у адваротнай прапорцыі колькасці людзей і дасканаласці рыбалавецкіх і паляўнічых прылад.

Цёплы клімат у новым каменным веку, мноства дзічыны і рыбы, ці не рай гэта? — падумаеце вы. Можа, гэта быў і сапраўды рай, пра які пісаў Гесіёд? У такім выпадку вы памыліліся. Гэта было ўпартае змаганне за існаванне, быў часты голад, хваробы.

Асабліва вялікія няшчасці чалавеку прыносілі хваробы. І не толькі ўласныя хваробы. Здараліся эпідэміі сярод лясных жывёл, дохла дзічына, здань голаду паўставала перад людзьмі. У першую чаргу паміралі дзеці і старыя. Сярод знясіленага насельніцтва ўспыхвалі эпідэміі воспы, чумы...

Урачамі быў даследаваны шкілет з пахавання каля пасёлка Красносельскага Ваўкавыскага раёна, якое датуецца пачаткам II тысячагоддзя да н. э. Выявілася, што чалавек пры жыцці меў некалькі хвароб. Ён пакутаваў запаленнем зубоў, меў адклады солей у хрыбетніку, а памёр ад захворвання костак. Гэта толькі тыя хваробы, якія ўдалося выявіць па паталагічных змяненнях шкілета.

Тагачасны чалавек меў і іншыя бядоты са здароўем, выкліканыя прастудамі, віруснымі захворваннямі і перыядычнымі недаяданнямі.

Не, гэта было зусім не райскае жыццё.

Дарэмна шукаць рэшткі паселішчаў каменнага веку дзе-небудзь пасярод поля або лесу, далека ад вады. Іх там вы не знойдзеце. Старажытны чалавек сяліўся чым бліжэй да возера або ракі. Тут была рыба, вада для піцця (калодзежаў тады яшчэ не капалі — не было рыдлёвак), заўсёды побач рос лес. Лодкай было зручна з'ездзіць у суседнія вёскі, яны ж таксама стаялі на самым беразе.

Але не кожнае месца каля вады падыходзіла для засялення. Галоўнае, каб яно не залівалася паводкай, каб была выгода для рыбацтва і палявання.

Стаянкі размяшчаліся пераважна на сухіх берагах і грудах на поплаве, ля берагоў старыц і затокаў, дзе было асабліва шмат рыбы. Рыбныя месцы меліся і каля ўпадзення невялікіх прытокаў.

На такіх зручных участках можна знайсці цэлыя групы даўніх помнікаў. Так, у ваколіцах вёскі Добры Бор Баранавіцкага раёна іх

было звыш пяці. Шмат стаянак каля старыц Прыпяці, на берагах Сожа і іншых рэк.

На сучаснай беларускай Поўначы сяліліся пераважна там, дзе ў азёры ўпадалі або выцякалі з іх невялічкія рэчкі і пратокі, а вось непасрэдна на Заходняй Дзвіне надзвычай мала слядоў жыцця людзей каменнага веку. У гэтай ракі стромкія берагі і малая колькасць старыц.

Крэмень быў асноўнай сыравінай для вырабу прылад працы. Таму яго залежы з'яўляліся як бы своеасаблівымі стратэгічнымі пунктам!, дзе стараліся пасяліцца розныя плямёны. Напрыклад, багатае на крэмень сярэдняе цячэнне Шчары і Зальвянкі, таму тут і шмат старажытных паселішчаў.

Некаторыя асабліва багатыя крамянёвыя залежы былі аб'ектамі дамаганняў розных, часам варожых між сабою, плямёнаў. Тут часта адбываліся ўзброеныя сутычкі, таму тубыльцы, наадварот, стараліся трымацца чым далей ад такіх неспакойных раёнаў. Яскравы прыклад таму — крэмнездабываючыя шахты на Росі каля Краснасельскага пасёлка ў Ваўкавыскім раёне. Хоць у іх ваколіцах і знойдзена мноства майстэрань па апрацоўцы крэменю, але слядоў сталых пасяленняў сустракаецца мала.

Паселішчы чалавека каменнага веку былі невялікія — некалькі наземных жытлаў або паўзямлянак і ям для харчовых запасаў. Калі дазваляў рэльеф мясцовасці, то межы паселішча з цягам часу перамяшчаліся. У такіх мясцінах знаходкі рассеяны па вялікай плошчы, якая іншы раз займае некалькі гектараў. На некаторых невялікіх грудках або на мысах каля вусцяў рэчак жыццё працягвалася няспынна часам цэлыя тысячагоддзі. Таму тут утварыўся тоўсты і насычаны знаходкамі культурны пласт.

Найбольш магутны пласт, які сустрэлі археолагі ў Беларусі на помніку каменнага веку, знаходзіцца паблізу стаянкі Асавец у Бешанковіцкім раёне. Гэты пласт дасягае ў таўшчыню амаль паўтара метра.



*Крамянёвы наканечнік дзіды з Крывінскага тарфяніка Бешанковіцкага раёна.*

Палеалітычны чалавек, мусіць, не быў асабліва пераборлівым у час палявання і здабываў усё, што бегала, поўзала, плавала і лятала. Але заўсёднай марай старажытнага паляўнічага быў мамант. Калі

аглядаеш безліч цэлых і патрушчаных костак гэтай жывёліны на палеалітычных стаянках, разумеет, што дапамагло выжыць нашым продкам у суровых умовах ледавіковага часу. Мамант — гэта гара смачнага мяса, якая дасягае 2500 кілаграмаў. Яго шкурамі накрывалі жыллё. З костак маманта будавалі сцены памяшканняў. Косткі ж гэтай жывёлы ішлі і на паліва. З іх выраблялі розныя прылады працы.

Мамант вонкава быў вельмі падобны на сучаснага слана, але меў надта густую і доўгую бурага колеру поўсць. Магутныя іклы — біўні дасягалі часам даўжыні болей як 3 метры. У гарбе, які знаходзіўся на спіне, жывёліна назапашвала на зіму тлушч.

На сённяшні дзень у Беларусі вядома каля 150 мясцін, дзе сустрэліся косткі маманта, пераважна зубы і біўні. Цэлыя ж шкілеты трапляюцца надзвычай рэдка. Вядома, што ў 1893 годзе быў знойдзены шкілет маманта каля вёскі Сухары Магілёўскага раёна, але ў пісьмовых крыніцах значыцца, што першы на нашых землях шкілет маманта быў адшуканы ў 1589-1604 гадах у Міры (цяпер Карэліцкі раён). Ён быў змешчаны ў мясцовым касцёле, мабыць, паказваўся парафіянам як шкілет нейкага «грэшніка» або «дапатопнай жывёліны».

У Сібіры ва ўмовах вечнай мерзлаты сустракаюцца не толькі шкілеты, але нават трупы мамантаў. Найбольш вядомая знаходка была зроблена ў 1900 годзе на рацэ Бярозаўцы, прытоку Калымы. Труп, хоць і праляжаў у зямлі некалькі тысячагоддзяў, але так добра захаваўся, што экспедыцыйныя сабакі з апетытам узяліся за мамантаў хобат, і людзі ледзь паспелі іх адагнаць. Цяпер бярозаўскі мамант знаходзіцца ў Ленінградзе, у заалагічным музеі.

Безумоўна, старажытныя людзі маглі знаходзіць замёрзлыя трупы загінуўшых жывёлін, рассякаць іх на часткі і прыносіць для спажывання ў паселішча. Але цяпер на паселішчах пад час раскопак пераважна сустракаюцца косткі маладых мамантаў, часам ва ўзросце 1-2 гадоў. А гэта значыць, што асноўным сродкам здабывання мамантавага мяса было паляванне. Стараліся паляваць на меншых ды слабейшых, бо паспрабуй ты забіць каменем або дзідай дарослага маманта, гэтага волата з тоўстай шкурай і магутнымі мышцамі.


*Статуэтка маманта з палеалітычнай стаянкі Пжэдмосце. (Чэхаславакія.)*

Пры раскопках позне палеалітычнага паселішча на Сожы, каля вёскі Бердыж, былі знойдзены рэшткі 50 мамантаў, на стаянцы каля вёскі Юдзінава

Бранскай вобласці — болей 100, а каля Пжэдмосця ў Чэхаславакіі — каля 1000 жывёлін.

Паўстае пытанне: а можа маманты не самі вымерлі ў канцы палеаліту са змяненнем клімату, можа іх вынішчыў чалавек?

У мезаліце і неаліце лясы ўжо распаўсюдзіліся спрэс.

Лес быў асноўным карміцелем нашага далёкага продка. У ім ён збіраў ягады, грыбы, плады дзікарослых дрэў і кустоў. Лес даваў чалавеку драўніну для жылля і розных вырабаў хатняга ўжытку, дровы для вогнішча, але галоўнае — дзічыну. У гэты час палявалі на самых розных звяроў. Напрыклад, у позненеалітычным пласце аднаго з тарфянікавых паселішчаў Віцебшчыны былі знойдзены косткі зубра, тура, лася, высакароднага аленя, касулі, дзіка, мядзведзя. Найчасцей здабычай паляўнічага станавіўся лось, шмат мяса давала і паляванне на дзіка. Забівалі і звяроў , якія мелі добрае футра — барсукоў, куніц, выдраў, баброў. Мяркуючы па тым, што на паселішчы знойдзены косткі гэтых жывёлін, іх мяса часам таксама ўжывалі ў ежу. У адваротным выпадку не было б сэнсу цягнуць усга здабычу дахаты, калі шкурку можна было зняць у лесе, а тушку кінуць.

Мяркуючы па знаходках з аднаго старажытнага паселішча на Палессі, тут першынство сярод паляўнічай здабычы займаў дзік— больш 41%. На другім месцы быў лось, затым — зубр, высакародны алень, бобр, касуля, мядзведзь. Пры раскопках былі знойдзены таксама косткі барсука і пясца.

Паляванне давала не толькі мяса. Са шкур забітых жывёл шылі вопратку і абутак, розныя мяхі і сумкі, ёю часам нават пакрывалі стрэхі жылля. З сухажылляў выраблялі ніткі, з костак і рагоў — прылады працы. Тлушч спальваўся ў каганцах для асвятлення.

Немалое значэнне мела паляванне і на птушак. Іх косткі таксама часта сустракаюцца на старажытных помніках.

Дзічыну забівалі або ранілі стралой з лука, дзідай і дроцікам, рознымі самастрэламі. Выкарыстоўваліся пасткі і сеткі.

Рыбацтва ў некаторых месцах давала мяса не менш, чым паляванне. Найбольш спрыяльнымі для гэтага занятку былі раёны з густой сеткай невялікіх рэчак, азёры са шматлікімі затокамі, старыцы на паплавах.

Харчовыя запасы шмат чым папаўняла збіральніцтва. У не кранутых сякерай навакольных лясах, у неабсяжных балотах меліся невычарпальныя запасы ягад, грыбоў, арэхаў. Іх збіралі як мага больш, каб у доўгія зімовыя месяцы, калі рыбныя вадаёмы скоўваў лёд, а замеценыя снегам лясы менш давалі здабычы паляўнічым, можна было перабіцца з аднаго на другое.

У культурных пластах на неалітычных пасёлішчах сустракаюцца жалуды. Жалуды, як вядома, гэта добры корм для свіней, але калі іх пераварыць, то яны трацяць сваю гаркаватасць і могуць спажывацца чалавекам. Сушаныя жалуды таўкліся на муку, з якой пяклі хлеб. Знаходзяць археолагі і шалупінне вадзяных арэхаў — смачных і высокакаларыйных пладоў расліны, якая расце ў азёрах. Яна цеплалюбівая і цяпер на Беларусі сустракаецца рэдка, у асноўным на паўднёвым усходзе рэспублікі. У неаліце, калі клімат быў цяплейшы, вадзяныя арэхі раслі паўсюдна.

Паляванне ў старажытнасці — занятак цяжкі і небяспечны. Ён патрабаваў вынослівасці, спрыту і вялікай фізічнай сілы. Першабытны чалавек быў вымушаны паляваць — гэта давала яму магчымасць не памерці з голаду. Узброены лукам і дзідай, ён уступаў у адзінаборства са зверам. І дзе была гарантыя, што пераможцам з гэтай барацьбы выйдзе чалавек!

Вось чаму паляванне было пераважна справай мужчыны. А рыбнай лоўляй паспяхова займаліся і жанчыны, асабліва, калі трэба было лавіць вудай, а не сеткай. У збіральніцтве незаменнымі былі і жанчыны і дзеці.

У канцы неаліту з развіццём земляробства і жывёлагадоўлі значэнне палявання і рыбацтва стала меншаць. Збіральніцтва ж яшчэ доўгі час працягвала існаваць.

У старажытнасці на тэрыторыі Беларусі, як і на суседніх землях, амаль не было дзікарослых раслін, прыдатных для акультурвання. Яны сустракаліся ў Міжземнамор'і і на Блізкім Усходзе, дзе і ўзнікла найстаражытнейшае земляробства. Адсюль яно паступова пранікла ў Еўропу. У паўднёвай частцы сучаснай Беларусі пачатак земляробства датуецца не раней, чым першымі стагоддзямі III тысячагоддзя да н. э., у паўночнай — другой паловай або нават канцом гэтага тысячагоддзя.

Старажытныя земляробы Еўропы вырошчвалі пераважна пшаніцу і ячмень. Значэнне гэтых культур у розныя часы і на розных тэрыторыях было неаднолькавым. Напрыклад, на Брытанскіх астравах, у Цэнтральнай Еўропе і ў Даніі ў неаліце асноўнае месца на полі займала пшаніца, у наступную эпоху, калі пахаладнела, яна ўступіла сваё месца ячменю. На тэрыторыі сучаснай Беларусі, дзе больш суровы клімат, у асноўным вырошчваўся ячмень. Адбіткі яго зярнят былі знойдзены на гаршках неалітычных плямёнаў з тэрыторыі паўночнай Украіны і паўднёваўсходняй Беларусі. На адным з тарфянікаў Віцеб-

шчыны ўдалося знайсці насенне льну. Значыць, і гэта культура ў познім неаліце вырошчвалася нашымі продкамі.

Спачатку земляробства было вельмі прымітыўным. Дарэчы, тут нават сам тэрмін «земляробства» не пасуе, бо глебу тады часам амаль зусім не «абраблялі».

Земляробства найперш развівалася не толькі ў раёнах з больш цёплым кліматам, але і там, дзе былі ўрадлівейшыя і падатнейшыя для апрацоўкі землі. Цяжкія гліністыя глебы! Віцебшчыны разам з халаднейшым кліматам, мусіць, сталі прычынай таго, што тут вырошчваць культурныя расліны сталі пазней, чым на астатняй тэрыторыі сучаснай Беларусі.

Спачатку пад пасевы займаліся невялікія ўчасткі зямлі. Таму палі хутчэй нагадвалі градкі, якія ўзрыхляліся завостранымі палкамі або матыкамі. Каменныя і рагавыя матыкі часам сустракаюцца на старадаўніх помніках нашай рэспублікі. У познім неаліце і ў бронзавым веку распаўсюджвалася ляднае земляробства, якое вымагала высякання і спальвання лясоў. Ускосна аб гэтым сведчыць значнае павелічэнне колькасці сякер, асабліва шліхтаваных, якія часта сустракаюцца на паселішчах і за іх межамі.


*Рагавая матыка з стаянкі каля вёскі Зацэнне Лагойскага раёна.*

Калі ячмень або пшаніца спелі, каласы жалі рознымі сярпамі. Спачатку сярпамі маглі служыць доўгія крамянёвыя пласткі з зазубранымі краямі. Пазней такім прыладам надавалася спецыяльная серпападобная форма. Найбольш складанымі былі састаўныя сярпы, аснова якіх выраблялася з дрэва або рогу, а лязо з многіх зазубраных крамянёвых пласткоў, што ўкладваліся ў паз асновы.

Яшчэ на зары чалавечага грамадства паляўнічыя, бывала, прыносілі на стаянку дзіцянят забітых звяроў. З цягам часу звяркі прывыкалі да людзей. Людзі забаўляліся імі, лашчылі і падкормлівалі іх. Гэта была яшчэ не жывёлагадоўля, а толькі прыручэнне дзікіх жывёл, але першы крок на шляху да жывёлагадоўлі быў зроблены. Калі прыручаныя жывёлы сталі размнажацца ў няволі і калі чалавек пачаў спецыяльна імкнуцца да павелічэння гэтых «жывых» запасаў мяса, тады і ўзнікла сапраўдная жывёлагадоўля.

Калі ўзнікненне земляробства было звязана з адносна невялікімі тэрыторыямі, то ўмовы для асвойвання жывёл існавалі паўсюдна,

нават у тундры, дзе свойскім стаў паўночны алень. У тагачаснай Еўропе — у лясах, лесастэпах і стэпах, у гарах вадзіліся дзікія свінні, быкі, коні, козы і авечкі. Многія з гэтых жывёл жылі і на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Такім чынам, калі звычай вырошчвання культурных раслін быў запазычаны з поўдня і паўднёвага захаду ад суседніх земляробчых плямёнаў, то да жывёлагадоўлі нашы продкі маглі дайсці і самастойна.

Свойскімі сталі не ўсе жывёлы, а толькі тыя, якія давалі чалавеку найбольш мяса і шкур і якія мелі больш «ласкавы» нораў. Пры жаданні можна было б выгадаваць і пароду свойскіх ваўкоў, але ў гэтым чалавеку не было ніякай гіатрэбы — ён і ад дзікіх хацеў пазбавіцца. Застаецца пакуль загадкай, чаму не былі прыручаны лось і алень. Можа таму, што цяжкавата было рыхтаваць ім на зіму ежу.

Дарэчы, у тыя далёкія часы на нашай тэрыторыі былі два віды дзікіх быкоў — туры і зубры. Зубр, відаць, меў вельмі няўжыўчывы характар, бо яго не ўдалося зрабіць свойскім. Што ж датычыць тура, то ён стаў роданачальнікам усёй нашай буйной рагатай жывёлы. І хоць сам тур вынішчаны чалавекам да рэшты, затое яго шматлікія акультураныя нашчадкі і сёння прадаўжаюць жыць і паспяхова размнажаюцца.

Лічыцца, што першай прыручанай жывёлай быў сабака. Дзікі сабака і чалавек, відаць, з самага пачатку даволі цярпіма адносіліся адзін да аднаго. У параўнанні з іншымі драпежнікамі гэтая жывёла не была для чалавека небяспечнай. Сабакі яшчэ ў палеаліце прывыкалі жыць каля паселішчаў, дзе падбіралі розныя адкіды. Людзі не праганялі іх, бо гэтыя жывёлы сваім брэхам папярэджвалі набліжэнне чужынцаў або дзічыны. Затым сабакі сталі зусім свойскімі і найбольш прывязанымі да чалавека жывымі істотамі. Сабака быў незаменны на паляванні, незаменны як сторож.

Каб сказаць, які быў статак у нашага продка з канца новага каменнага веку, трэба было даследаваць касцявыя матэрыялы раскапаных помнікаў. На паселішчах Крывінскага тарфяніку (Віцебшчына) былі знойдзены рэшткі кароў, коней, дробнай рагатай жывёлы, свіней і сабак. Такіх жа жывёлін гадавалі і неалітычныя жыхары Палесся, толькі ў іх значна болей было свіней. Гэта і не дзіўна, бо тут у шматлікіх дубняках можна было збіраць для іх корму жалуды.

Калі б чалавек не навучыўся здабываць агонь і не авалодаў ім, то ён і цяпер заставаўся б дзікуном. Значэнне агню немагчыма пераацаніць.

У жыцці старажытнага чалавека агонь прысутнічаў непасрэдна ў выглядзе вогнішча. На ім смажылі мяса, ля яго грэліся халодным часам, каганцом асвятлялі жыллё; агонь выкарыстоўвалі для паходняў. З агнём можна было бараніцца ад найстрашнейшага драпежніка.

Агонь з'яўляўся сябрам першабытнага чалавека, але часам ён рабіўся і яго ворагам. калі грымотны пярун пасылаў на Зямлю свае асляпляльныя стрэлы, калі загараліся лясы і паселішчы. Агонь лашчыў, але калі з ім абыходзіліся неасцярожна, то ён кусаў, бы раз'юшаны звер.

Людзі любілі агонь і разам з тым баяліся яго, уражаныя яго надзвычайнай сілай і таямнічасцю нараджэння — з нічога. Яму маліліся як богу і прыносілі ахвяры. Да нядаўняга часу засталіся адгалоскі такога абагаўлення агню — да вогнішча нельга было паварочвацца спіной, пляваць на яго, заліваць яго брудам, класці ў агонь вострыя рэчы.

Адхіляючыся ад тэмы і забягаючы ў часе далека наперад, тут нам хочацца сказаць, што ў нашу эру, а менавіта ў 1820 годзе, было вынайдзена падабенства сучасных запалак — драўляныя пруточкі з сумессю розных хімічных рэчываў на канцы. Калі такі пруточак мачылі ў серную кіслату, галоўка з невялікім выбухам загаралася. Хоць гэта і было вялікае вынаходства, але з тымі выбухамі часта здараліся непрыемнасці. У 1827 годзе англічанін Джон Уолкер змайстраваў запалкі, якія загараліся трэннем аб шорсткую пзперу — «маску». Пасля гэтага яны яшчэ неаднойчы ўдасканальваліся, ажно пакуль не набылі сучаснага выгляду і якасці.

А як жа запальвалі вогнішчы нашы продкі?

Першыя людзі на Зямлі пазнаёміліся з агнём пад час лясных і стэпавых пажараў, якія ўзнікалі ад маланак або пры самаўзгаранні тарфяных балот. Агонь можна было ўзяць і ад дзеючых вулканаў, актыўнасць якіх у пачатку каменнага веку была ў дзесяць разоў большая, чым цяпер. Ад гэтых натуральных крыніц агню і запальваліся першыя вогнішчы.

Агонь падтрымліваўся незгасальным вельмі доўга, таму пры раскопках старажытных помнікаў археолагі часам знаходзяць велізарныя пласты вугалёў ад такіх даўгавечных вогнішчаў.

Бяда, калі агонь згасаў. Цемра і холад прыходзілі да людзей. Добра было, калі непадалёку жыў прыязны народ, які мог даць у доўг часцінку гэтага прыручанага сонца. Вораг жа ніколі агню не даваў. Наадварот, пры ўзброеным нападзе адной арды на другую стараліся патушыць чужы «вечны агонь».

Часам такі незгасальны агонь падтрымліваўся і ў пазнейшыя эпохі, хоць людзі ўжо маглі здабываць яго самі. Але гэта рабілася пераважна ў рытуальных мэтах, бо такому «вечнаму агню» прыпісваўся свяшчэнны характар. Такі звычай існаваў у старажытных грэкаў і рымлян, у славян, германцаў і ў іншых народаў. У Старажытным Рыме свяшчэнны агонь гарэў у храме Весты і ахоўваўся асаблівымі святаркамі — вясталкамі, якія караліся смерцю, калі ён згасаў па іхняй віне. У Грэцыі такая мясціна знаходзілася на востраве Дэлас.

Да распаўсюджання хрысціянства былі «вечныя агні» і ў язычніцкіх бажніцах на тэрыторыі сучаснай Беларусі.

Яшчэ не так даўно на Беларусі ў некаторых сялянскіх печах трымаўся звычай пастаяннага незгасання вуголля, ад якога кожную раніцу запальваўся новы агонь. Нават пры перасяленні ў новую хату людзі пераносілі ў яе агонь сваіх дзядоў і прадзедаў.

Несумненных прылад, якімі наш далёкі продак здабываў агонь, пры раскопках помнікаў каменнага веку на тэрыторыі Беларусі не захавалася. Аб іх характары мы можам толькі здагадвацца, вывучаючы этнаграфічныя матэрыялы.

Першабытным людзям было вядома шмат спосабаў здабывання агню, сярод якіх найчасцей ужываўся спосаб трэння дрэва аб дрэва.

Відаць, яшчэ ў палеаліце пры свідраванні розных адтулін і пры іншых работах было заўважана, што трэнне выклікае награванне рэчаў. Так чалавек на практыцы пазнаёміўся з вядомым нам фізічным законам. І вось пры нейкіх асабліва спрыяльных умовах ад трэння і адбылося ўзгаранне дрэва.

Ніколі мы не даведаемся, хто першы здабыў агонь, дзе і калі канкрэтна гэта адбылося. Мы можам толькі ўявіць сабе радасць першабытнага чалавека, калі ён стаў уладаром агню, Гэта падзея была чарговай, але надзвычай важнай прыступкай у той лесвіцы развіцця грамадства, па якой чалавецтва падымалася да цывілізацыі.

З дапамогай свідравання агонь здабывалі паўсюдна. Зазначым, што найбольш прымітыўны і, мабыць, нязручны прыём — свідраванне з дапамогай далоняў рук, якімі круціўся пруток, строма пристаўлены да дошчачкі. Так цяпер здабываюць агонь, напрыклад абарыгены Аўстраліі і некаторых астравоў Ціхага акіяна.

Больш дасканалым з'яўляўся спосаб «высвідроўвання» агню з дапамогай лучка, цеціва якога абкручвалася вакол строма стаячага прутка, што з дапамогай каменнай або касцяной муфты прыціскаўся да гарызантальнай дошчачкі з выдзеўбанымі ямкамі. Часам для ўзмацнення трэння ў ямку клалася некалькі пясчынак. Цікава адзна-

чыць, што сярод некаторых эскімоскіх плямёнаў меўся звычай прыціскаць муфту не рукой, а зубамі.

Калі з лучком можна было абыходзіцца і аднаму, то для здабывання агню спосабам раскручвання прутка вяровачкай патрабаваліся не меней як два чалавекі. Адзін утрымліваў дошчачку і строма прыцiснуты да яе пруток, другі ў супрацьлеглыя бакі пачаргова тузаў вяровачку, на канцах якой былі прывязаны костачкі.

Не менш дасканалае прыстасаванне ўжывалі індзейцы і малайцы. Яны строма прыстаўлялі да дошчачкі пруток, а потым яго раскручвалі гарызантальнай рухомай перакладзінкай, прывязанай да вяршыні прутка, і драўляным або каменным махавічком. Карацей кажучы, гэта было вельмі падобна да «помпавага свярдзёлка», які ўжывалі еўрапейскія рамеснікі да нядаўнага часу. Некаторыя падарожнікі сцвярджаюць, што з дапамогай такога гірыстасавання можна распаліць вогнішча за некалькі секунд.

Іншыя спосабы здабывання агню трэннем былі менш распаўсюджаны. Сярод іх вядома выпілоўванне, калі тонкім, як нож, кавалкам дрэва пілавалі ўздоўж іншага кавалка. Для такога спосабу найбольш прыдатны быў бамбук, бо яго вонкавая абалонка вельмі цвёрдая і мае шмат крэменязёму, што спрыяе мацнейшаму награванню пры трэйні, асяродак жа бамбука рыхлы і лёгка загараецца.

На многіх ціхаакіянскіх астравах ужываўся так званы «агнявы плуг». Грэба было церці канцом прутка, нахіленага пад вуглом у 30-35° у пазе, выразаным на дошцы. Пад час трэння ў канцы паза ўтвараліся апілкі, затым тут успыхвалі іскры і нарэшце гарэў агонь. Яшчэ радзей ужывалася «агнявая помпа». Яна складалася з цыліндра і шчыльна дастасаванага да яго поршня. Пры гэтым спосабе выкарыстоўвалася з'ява награвання паветра пры моцным сцісканні. А загараўся трут, які ўмацоўваўся на канцы поршня.

У Старажытнай Грэцыі і Рыме ўмелі запальваць агонь і ад сонечных зайчыкаў, канцэнтругачы іх двухвыпуклай лінзай або ўвагнутым люстэркам. Ёсць сведчанне, што Архімед спаліў рымскі флот у затоцы пад Сіракузамі, накіраваўшы на драўляныя караблі ворага «зайчыкі» ад начышчаных да бляску медных шчытоў грэчаскіх воінаў.

З выкаходствам жалеза ўсе прыстасаванні для здабывання агню трэннем пачалі выцясняцца металічным крэсівам, ударамі якога аб крэмень высякаліся іскры. Гэты спосаб дзе-нідзе, нягледзячы на распаўсюджанне ў XIX стагоддзі запалак, праіснаваў ажно да самага апошняга часу.

У старажытную эпоху, калі жалеза яшчэ не ўмелі выплаўляць, некаторыя першабытныя плямёны ўжывалі ў якасці крэсіва знай-

дзеныя кавалкі сернага калчадану. Напрыклад, высякалі агонь індзейцы, некаторыя эскімоскія плямёны, туземцы Вогненнай Зямлі. Знойдзены сведчанні здабывання агню з дапамогай сернага калчадану і ў некаторых пячорных жытлах палеалітычнага чалавека.

Еўрапейскія падарожнікі здзіўляліся, як хутка амерыканскія або аўстралійскія абарыгены маглі распаліць вогнішча з дапамогай такіх, здавалася б, прымітыўных драўляных прыстасаванняў.

Археолаг не можа ўявіць сабе рэштkaў паселішча каменнага веку без знаходак крамянёвых вырабаў — сякер, нажоў, скрабалак і інш. Часам іх набіраецца мноства, сотні экземпляраў, не лічачы ўжо розных папсаваных рэчаў, абломкаў, неапрацаваных адшчэпаў і пласткоў. Як ужо нам вядома, у каменным веку большасць прылад працы выраблялася з камянёў.

Праўда, не кожны камень надаваўся для гэтай справы. Крышталічныя пароды былі прыдатныя толькі для сякер і цяслаў. А вось з крэменю можна было змайстраваць амаль любую прыладу.

Крэмень — асадкавая горная парода, назва яго паходзіць з грэчаскай мовы. У беларускіх народных гаворках кавалкі крэменю называюць па-рознаму — «скалкі» ў паўночнай Міншчыне, «гегі» — на Панямонні, у некаторых іншых месцах — «грамушкі» і інш.

Крэмень пераважна ўтвараецца ў выніку асядання краМенязёму з марской вады на дне вадаёмаў або ў трэшчынах і порах горных парод — вапнякоў, даламітаў, радзей глін і пясчанікаў. Ен залягае ў выглядзе лінзаў, пластоў або канкрэцый самых розных формаў і памераў ад некалькіх міліметраў да паўметра і больш.

У Беларусі самыя багатыя запасы крэменю знаходзяцца ў крэйдавых адорвенях, дзе ён, як правіла, залягае цэлымі пластамі. Шмат галечных крамянёў маецца і ў бліжэйшых ад адорвеняў адкладах пяску і жвіру. Такія крамeняносныя раёны займаюць заходнюю і паўднёва-ўсходнюю часткі нашай рэспублікі. Крэмень з Гродзеншчыны светла-шэры, нават блакітнаваты з няроўна афарбаванымі палосамі. На Пасожжы ён шэры ў белыя дробныя кропачкі. У Паазер'і свайго крэменю мала, тут на стаянках сустракаецца матэрыял, прывезены з розных куткоў Беларуси тут жа і фіялетавы валдайскі крэмень.

Колер крэменю мае немалое значэнне ў археалогіі. Паглядзеўшы на прылады працы з якога-небудзь паселішча, даследчык можа сказаць, з якімі тэрыторыямі вёўся абмен у мясцовых плямёнаў, або адкуль яны сюды перасяліліся.




*Крамянёвыя прылады працы з неалітычных стаянак Панямоння і Падняпроўя;*
*1 — праколка, 2-4 — наканечнікі стрэлаў, 5 — разец, 6 — скрабалка 7 — наканечнік дзіды, 8 — скобля, 9, 10 — нажы.*

Крэмень — амаль адзіная горная парода на Беларусі, якая пры разбіванні дае вострыя рэжучыя грані, да таго ж ён вельмі моцны і цвёрды — да нядаўняга часу ім рэзалі нават шкло. Такія карысныя

якасці крэменю заўважылі яшчэ ў самай сівой старажытнасці, і з таго часу на працягу соцень тысяч гадоў крэмень быў незаменным матэрыялам для вырабу прылад працы. Пры адсутнасці запасаў, дзе-нідзе яго спрабавалі замяняць пародамі падобных фізічных якасцей — сланцам, халцэдонам, яшмай. Але ва ўсіх выпадках крэмень быў па-за канкурэнцыяй, І толькі ў раннім жалезным веку яго выцесніў метал.

Прайшло ўжо больш як мільён гадоў, калі чалавек навучыўся ўжываць вострыя крамянёвыя абломкі для выкопвання ядомых каранёў, забівання дробнай дзічыны, абароны ад ворага. З цягам часу ён налаўчыўся вырабляць больш складаныя прылады працы і да канца палеаліту быў распрацаваны амаль увесь набор крамянёвых вырабаў — скрабалак, разцоў, нажоў, праколак, пракрутак, наканечнікаў стрэл, дзідаў і дроцікаў.

III тысячагоддзе да н. э.

У далінах Ніла, Тыгра і Еўфрата ўзнікаюць рабаўладальніцкія дзяржавы, нараджаецца пісьменнасць, будуюцца вядомыя на ўвесь свет піраміды Егіпта і палацы Месапатаміі. У гэты час быў напісаны першы вядомы эпічны твор чалавецтва — паэма пра Гільгамеша. У пісцовых школах Вавілона вывучаліся матэматыка, астраномія, хімія...

А што ж у той час было на тэрыторыі сучаснай Беларусі, пакрытай непраходнымі лясамі і балотамі, дзе на берагах азёр і рэк туліліся буданы тубыльцаў? Няўжо ўсё было такім безнадзейна дзікім і адсталым у параўнанні з маладымі бліскучымі цывілізацыямі Блізкага Усходу і Егіпта?

Не, нашы далёкія продкі таксама маглі тым-сім пахваліцца.

Шахцёр — прафесія ў рэспубліцы новая, стала звычайнай толькі ў апошнія гады з адкрыццём саляных радовішчаў. Але аказваецца, гарняцкая справа мае ў нас даўнюю, хоць і забытую за працяглы час, традыцыю, бо яшчэ ў каменным веку на тэрыторыі Беларусі існавалі шахты! Так, не здзіўляйцеся, сапраўдныя шахты!

Больш як 200 000 гадоў таму назад магутны ледавік вырваў з марскога дна і прысунуў на Гродзеншчыну адорвені крэйды. Ледавік растаў, а крэйда засталася ляжаць велізарнымі глыбамі, засыпанымі пяском ды жвірам. Адзін з такіх адорвеняў, трэснуты на кавалкі, залягае цяпер у ваколіцах пасёлка Краснасельскага, што на правым беразе ракі Росі ў Ваўкавыскім раёне. Кавалкі гэтыя немалыя, найбольшы з іх дасягае каля двух кіламетраў у даўжыню і некалькі дзесяткаў метраў у таўшчыню. Зверху крэйду пакрывае глеба і тонкія адклады пяску. Месцамі парода выходзіць на самую паверхню зямлі.

Жыхары навакольных вёсак здаўна капалі крэйду для сваіх гіатрэб — найчасцей, каб пабяліць печ або хату. Затым тут узнікла маленькае прадпрыемства, якое з цягам часу ператварылася ў буйны цэментны завод. Пачалася інтэнсіўная распрацоўка, і цяпер замест некаторых кавалкаў адорвеня сінеюць сапраўдныя азёры на дне глыбокіх кар'ераў.

У дваццатых гадах бягучага стагоддзя на тады яшчэ малых кар'ерах пабываў геолаг Б. Рыдзеўскі. Мясцовыя сяляне паказалі яму аленевыя рогі, знойдзеныя ў час працы, і сказалі, што ў тоўшчы крэйды сустракаюцца нейкія як бы пячоры... Геолаг агледзеў гэтыя месцы, а затым пра ўсё паведаміў археолагу З. Шміту. Вучоны не стаў доўга чакаць і хутка быў у Красным Сяле. Як жа ён здзівіўся, калі ўбачыў перад сабой рэшткі шахтаў першабытнага чалавека!

Так пачалося адкрыццё, лёс якога доўгі час быў няўдалы. Неўзабаве Шміт памёр, пакінуўшы свае ненадрукаваныя рукапісы пра папярэдняе знаёмства са старажытнымі распрацоўкамі, а ў тагачасным перыядычным друку з'явілася ўсяго некалькі кароткіх паведамленняў.

Толькі пры Савецкай уладзе пачалося шырокае вывучэнне гэтага цікавейшага помніка археолагамі. І асаблівая заслуга ў гэтым належыць нястомнаму даследчыку старажытнасці Н. М. Гурынай.

Што ж уяўлягаць сабой гэтыя шахты?

Як мы ўжо адзначалі, найбольш прыдатны для вырабу прылад працы крэмень знаходзіцца ў крэйдзе. Тут ён «мокры», гэ'та значыць, утрымлівае вільгаць І лёгка паддаецца апрацоўцы. У адорвенях каля пасёлка Краснасельскага крэменю многа, дзе ён залягае цэлымі пластаМі, радзей россыпамі. Пласты гарызантальныя, а часам яны залягаюць вертыкальна. Гэта залежыць ад таго, як «паклаў» ледавік розныя часткі адорвеня. Увогуле, у бліжэйшым наваколлі і на паворхні крэменю колькі хочаш.

Тут ён патрэсканы, сухі і непрыдатны для апрацоўкі. Нашы далёкія продкі ведалі пра ўсё гэта і даставалі патрэбны сабе матэрыял з зямной глыбіні.

Спачатку распрацоўка вялася адкрытым спосабам — раскопваўся верхні пласт крэйды і даставаўся крэмень, У такіх месцах сустракаюцца пласты раструшчанай пароды і мноства кавалкаў бітага крэменю. Калі значныя часткі паверхні былі перапрацаваны, людзі ў неаліце перайшлі да больш дасканалага спосабу—шахтавага.

Для гэтага выкопваліся вертыкальныя ямы, якія часам дасягалі глыбіні 6 м. Дыяметр іх быў у сярэднім 1,5-2 м. Дакапаўшыся да першага краменяноснага пласта, працу не спынялі. Распрацоўку звы-

чайна працягвалі ўглыб, стараючыся даставаць ніжэйшыя пласты пароды. Іншы раз гэта не ўдавалася зрабіць, тады на дне шахты заставаліся вузкія да 80 см шырынёй паглыбленні пошукавага характару.



*Выгляд старажытных шахт на краі крэйдавага кар'ера каля пасёлка Краснасельскі Ваўкавыскага раёна.*

Знойдзеныя пласты пачыналі распрацоўвацца па ходу залягання сістэмай падбояў, якія мелі форму ніш шырынёй 60-70 см і былі не асабліва доўгія, бо інакш іх мяккае крэйдавае скляпенне магло б абваліцца. Каб пазбегнуць абвалу, між падбоямі пакідаліся выступы пароды — у плане такія шахты, з некалькімі падбоямі, выглядаюць як нейкія амёбы з кароткімі і тоўстымі шчупальцамі.

Распрацаваўшы адзін пласт, браліся за другі. І тут узнікалі такія ж падбоі і ўзмацняльныя выступы, а сама шахта рабілася як бы двухпавярховая. Часам выкопвалі яшчэ і трэці паверх.

Блізка размешчаныя між сабою выпрацоўкі злучаліся вузкімі ходамі — штрэкамі. Часам у вялікіх і складаных шахтах меліся невялікія адтуліны, якія вялі ў суседнія выпрацоўкі. Некаторыя з іх маглі з'яўляцца вентыляцыйнымі вокнамі. Між шахтамі часам сустракаюцца і пустыя даволі вялікія камеры з адным або некалькімі ходамі. Гэта былі памяшканні, у якіх людзі адпачывалі або хаваліся ў непагадзь. У такіх камерах захаваліся рэшткі вогнішчаў, ля якіх грэліся шахцёры. І наогул, сляды вогнішчаў сустракаюцца і ў іншых месцах шахт. Нярэдкія знаходкі вугалёў ад лучын, якімі асвятляліся цёмныя куткі выпрацовак.

Форма шахт заўсёды залежала ад размяшчэння крамянёвых залежаў. Там, дзе канкрэцыі знаходзіліся ў гарызантальных або крыху нахіленых пластах, шахты былі круглыя і размяркоўваліся на плошчы больш-менш раўнамерна. Калі ж крэмень залягаў ланцужкам, то такім жа чынам выцягваліся і выпрацоўкі. На некаторых участках адорвеня, дзе пласты былі вертыкальныя, шахты мелі форму шчылін, часам злучаных між сабой.

Перш чым даследаваць шахты, трэба было іх ачысціць ад крэйдавай крошкі і бітага крэменю. Асабліва іх многа было ў вусцях ствалоў, дзе крэйда, змешаная з пяском, літаральна цэментавалася. Даводзілася ламамі і кіркамі дзяўбці гэтую надзвычай цвёрдую масу. Пуста было толькі пад скляпеннямі гарызантальных участкаў, Але глыбей справа ішла лелей. Гут знаходзілася больш рыхлае запаўненне, і яго можна было выбіраць звычайнымі шуфлямі.

...Вось выбрана ўся крошка, сценкі і дно асцярожна падмецены пэндзлем, і археолаг з хваляваннем азіраецца. З глыбінь выпрацоўкі на яго быццам дыхае холад тысячагоддзяў. Здаецца, што нядаўна старажытны шахцёр скончыў сваю мазольную працу і вылез наверх адпачыць — так добра захаваліся шахты і такімі здзіўляюча свежымі выглядаюць тут сляды дзейнасці чалавечых рук. Літаральна ўсе сценкі выпрацовак пакрыты рознымі драпінамі, якія засталіся ад капальных інструментаў. Пры ўваходах у падбоі і штрэкі і ў іншых вузкіх месцах участкі крэйды зашмальцаваныя вопраткай шахцёраў: тут яны, згінаючыся, прабіраліся па ходах, цягнучы за сабой выкапаную пароду або цяжкія кавалкі крэменю. На дне шахт сляды інструментаў невыразныя, затаптаныя нагамі ледзь не пяць тысяч гадоў таму назад...

Сценкі расчышчанай археолагамі шахты хутка пачынаюць сохнуць і трэскацца. Кавалкі крэйды асыпаюцца. Дождж канчаткова змывае сляды тысячагоддзяў. Калі шахту не засыпаць зноў або не закрыць векам, то яна за нейкі месяц разбурыцца і ператворыцца ў бясформенную яму. Чаму ж тады выпрацоўкі ў такім выдатным стане захаваліся аж да нашых дзён і праміну ўшыя доўгія стагоддзі іх амаль не кранулі? Таму, што іх самі шахцёры запаўнялі крэйдавай крошкай адразу пасля таго, як заканчвалася здабыванне крэменю. Вядома, рабілі яны гэта не дзеля таго, каб даць магчымасць палюбавацца справай сваіх здольных рук,— свайму будучаму далёкаму нашчадку. Краменездабытчыкі, выкопваючы новую шахту, каб не завальваць паверхню адорвеня, прагледжаную пароду ссыпалі ў суседнюю кінутую выпрацоўку. У саміх шахтах таксама спачатку выбіраліся ніжнія падбоі, а затым людзі пераходзілі да працы ў верхніх гарызонтах, а крошку ссыпалі ўніз.

Пры вывучэнні шахт удалося заўважыць, што ў іх запаўненнях часам меліся круглыя пустзчы, выцягнутыя ў напрамку да вусцяў стваloў. Гэта сляды камлёў дрэў з коратка абсечанымі сукамі. Людзі ўлазілі ў выпрацоўкі і вылазілі з іх. Часам для такой мэты рабілі нават нешта накшталт лесвіцы, утыкаючы тоўстыя палкі супрацьлеглымі канцамі ў сценкі выпрацоўкі. Мяркуецца, што крэйдавую пароду і крэмень выцягвалі на паверхню ў скураных мяшках. У шахтах сустракаюцца тоўстыя касцяныя іголкі для сшывання і рамонту мяшкоў. А аднойчы быў знойдзены і кавалак вяроўкі.



*Шахцёрскае кайло.*

У некаторых выпрацоўках натрапіліся гарняцкія інструменты. Гэта найчасцей былі аленевыя рогі, апрацаваныя ў форме кайла. Даўжэйшы адростак служыў рукаяткай, карацейшы і завостраны — рабочай часткай. Сустракаліся і больш складаныя прылады — свідраваныя кіркі, якія насаджваліся на драўляныя рукаяткі. Сярод іх быў знойдзены незакончаны экземпляр, на якім з абедзвюх плашчынь выдзеўбаны копачкі, але самую адтуліну чамусьці не паспелі зрабіць.

Кіркамі можна было капаць толькі ў больш прасторнейшых месцах. У вузкіх падбоях і штрэках размахнуцца не было дзе, таму тут прымяняліся вострыя кавалкі рагоў, якія заганялі ў пароду масіўнымі рагавымі ўдарнікамі — даўбешкамі.

Большасць прылад працы, знойдзеных археолагамі, паламаныя і моцна спрацаваныя. Гэта і зразумела, бо ў шахтах пакідаліся толькі сапсаваныя, не прыгодныя для далейшага ўжытку інструменты.

Самая першапачатковая апрацоўка крамянёвых канкрэцый праводзілася непасрэдна ў шахтах. З іх збіваліся розныя непатрэбныя выступы, якія не маглі быць выкарыстаны пры вырабе прылад працы. Такім чынам, наверх не трэба было выцягваць увесь крэмень, а падымаліся самыя лепшыя кавалкі. Не браліся таксама дробныя і крывыя канкрэцыі.

Далейшая апрацоўка крэменю праводзілася ў спецыяльных майстэрнях. Імі часам служылі напаўзасыпаныя шахты. Некалькі такіх аб'ектаў было раскапана вучонымі непасрэдна паміж выпрацоўкамі. У іх на глыбіні 1,5-2 м прасочваўся моцна ўтаптаны пласт

крэйдавай крошкі, які служыў падлогай, тут жа сустракаліся буйныя камяні — кавадлы, рэшткі агнішчаў, косткі жывёл і мноства крамянёвых адшчэпаў. Такія месцы хутчэй за ўсё мелі спецыяльныя павеці і былі адначасова майстэрнямі і жытлом, у якім апрацоўшчыкі крэменю маглі адпачыць і падсілкавацца, пагрэцца каля агню.

За межамі крэйдавых залежаў на пясчана-гравійных узгорках размяшчаліся сезонныя пасёлкі, дзе жылі шахцёры. На такіх месцах сустракаецца мноства кавалкаў крэменю і нарыхтовак прылад працы. І калі каля шахт непасрэдна знаходзілі амаль выключна нарыхтоўкі сякер, то на тэрыторыі пасёлкаў сустракаюцца скрабалкі, нажы і іншыя рэчы, якія былі неабходны ў паўсядзённым жыцці старажытнага чалавека.

У 1962 годзе пад час распрацоўкі кар'ера на дне адной з выпрацовак удалося знайсці пахаванне шахцёра.

Дзякуючы крэйдзе яно добра захавалася. Нябожчык ляжаў на баку і меў падкурчаныя ногі. Каля яго стаяў пласкадонны гаршчок з наразным арнаментам і ляжала касцяная іголка для сшывання скураных мяшкоў. Менавіта гэта іголка і сведчыць, што перад намі было пахаванне найстаражытнейшага на тэрыторыі сучаснай Беларусі шахцёра. Мяркуючы па форме гаршка і яго арнаментацыі, гэта быў прадстаўнік племя культуры шнуравой керамікі або баявых сякер, якое з'явілася тут у канцы неаліту — пачатку бронзавага веку.

Але хіба толькі гэты народ здабываў тут крэмень у той далёкі час? Мабыць, не. Велізарная колькасць шахт — некалькі тысяч, розная іх форма і ступень дасканаласці сведчыць, што распрацоўкі на рацэ Росі існавалі надзвычай доўга. Аналіз вугалёў, знойдзеных у выпрацоўках, паказаў, што вогнішчы тут гарэлі і ў III і ў II тысячагоддзях да н. э. Значыць, амаль два тысячагоддзі давала людзям мясцовая зямля каштоўнейшую сыравіну.

Вырабы з краснасельскага крэменю сустракаюцца не толькі на неалітычных помніках у заходняй частцы сучаснай Беларусі, але і ў паўднёвай Літве.

Усё гэта гаворыць аб тым, што ў розны час ро'зныя плямёны займаліся тут крэмнераспрацоўкамі. Толькі ў раннім жалезным веку, калі крамянёвыя прылады былі заменены жалезнымі, краснасельскія шахты заняпалі і былі забыты.

Па сваёй тэхнічнай дасканаласці краснасельскім шахтам пакуль што не знойдзена роўных старажытных помнікаў на тэрыторыі ўсяго СССР, хоць выпрацоўкі крэменю сустракаюцца і ў іншых кутках нашай краіны, напрыклад у Сярэдняй Азіі, на Днястры. У Цэнтральнай і Заходняй Еўропе вельмі падобныя на краснасельскія шахты

ёсць у Польшчы, Венгрыі, Чэхаславакіі, Бельгіі, Англіі і ў некаторых іншых краінах.

Чалавек, які браў у рукі кірку і пачынаў капаць шахту, павінен быў мець цэлы шэраг спецыяльных навыкаў.

Яму трэба было ведаць характер залягання канкрэцый, найбольш рацыянальныя спосабы працы ў вертыкальным ствале і гарызантальных падбоях і штрэках, сачыць, каб не абвальваліся скляпенні. Такія заняткі вымагалі пэўнай спецыялізацыі. Таму няма сумненняў, што распрацоўкай крамянёвых залежаў займаліся сталыя групы людзей — спецыялістаў, Адны з іх раздрабнялі крэйду і даставалі крамянёвыя канкрэцыі, другія выцягвалі ўсё гэта на паверхню, трэція рабілі нарыхтоўкі вырабаў.

Асновы шахцёрскага майстэрства былі распрацаваны яшчэ ў каменным веку. Тады ж узніклі і гарняцкія інструменты. Існавала і тэхніка бяспекі. На працягу наступных тысячагоддзяў адбываліся тэхнічныя ўдасканаленні, пашыраліся аб'ёмы работ, з'явіліся металічныя інструменты. Толькі ў XX стагоддзі з выкарыстаннем складаных машын наступілі сапраўды рэвалюцыйныя змены ў горнараспрацоўчай справе.

Насельніцтву, якое жыло ў бліжэйшым наваколлі шахт, не патрэбна было такое мноства крэменю, якое здабывалася. Таму большую частку атрыманай сыравіны яно абменьвала з суседнімі плямёнамі. А на што абменьвала, цяжка сказаць: можа, на мяса ці на збожжа. Вельмі магчыма, што і з аддаленых раёнаў прыходзілі сюды групы горназдабытчыкаў, якія, вяртаючыся ў родныя мясціны, неслі з сабою запасы крэменю.

Вучоныя мяркуюць, што і ў іншых мясцінах Беларусі ёсць нязнойдзеныя старажытныя шахты, бо крамянёвых залежаў на яо тэрыторыі багата. Перспектыўнымі на такія помнікі з'яўляюцца ваколіцы Гродна, Лідскі і Навагрудскі раёны. Дарэчы, непадалёку ад пасёлка Красносельскага, ля вёскі Карпаўцы, нядаўна была знойдзена яшчэ адна трупа краменездабываючых шахт з новага каменнага веку.

Як упаміналася вышэй, у раёнах, багатых на крэмень, знаходзяцца майстэрні па вырабу прылад працы. Найбольш значныя такія помнікі вядомы ў ваколіцах пасёлка Красносельекага, ля вёскі Даржы Лідскага раена і ля вёскі Пескі Мастоўскага раёна, на поўнач ад Гродна, а таксама ў ваколіцах Крамянца на рацэ Іллі ў Лагойскім раёне. Звычайна ў вялікіх майстэрнях, якія гірацавалі на базе недалёкіх крэйдавых запасаў крэменю, вырабляліся нарыхтоўкі прылад. Затым яны распаўсюджваліся па блізкіх і далёкіх паселішчах, дзе іх канчаткова дапрацоўвалі па густу мясцовых жыхароў. У адных

майстэрнях выраблялiся пераважна нарыхтоўкi сякер i цяслаў, у другiх — розных адшчэпаў i ножападобных пласткоў. Такая спецыялiзацыя тлумачыцца рознай якасцю крамянёвай сыравiны.

## З КАМЕНЮ, РАГОЎ, КОСТАК, ГЛIНЫ...

Пры вырабе прылад працы старажытны чалавек карыстаўся разнастайнымi прыёмамi i спосабамi апрацоўкi крэменю. Найбольш раннiм з iх — абiўкай — ён авалодаў яшчэ ў самым пачатку сваёй гiсторыi, у палеалiце. Такiм спосабам з буйных крамянёвых канкрэцый або з iх кавалкаў атрымлiвалiся масiўныя прылады працы, у прыватнасцi палеалiтычныя ручныя секачы. Таксама i ў неалiце вырабу кожнай сякеры, цяслы або долата папярэднiчала першапачатковая абiўка кавалка крэменю. Гэта аперацыя праводзiлася з дапамогай адбойнiкаў, для якiх найбольш падыходзiлi каменныя галькi выцягнутай формы. На супрацьлеглых канцах такiх прылад добра прыкметны зношаныя паверхнi са слядамi шматлiкiх удараў.

Калi нарыхтоўцы хацелi надаць больш дасканалую форму, то прымянялi ўдарны рэтуш, якi наносiўся лёгкiмi ўдарамi адбойнiка па краях вырабу. Гэтым звычайна i заканчвалася апрацоўка буйных прылад. Сякеры, апрацаваныя такiм чынам, можна было шлiфаваць.

Амаль усе меншыя прылады, як нажы, скрабалкi i г. д., выраблялiся з адшчэпаў i пласткоў, якiя адколвалiся ад так званых нуклеусаў — адпаведным чынам падрыхтаваных крамянёвых канкрэцый. Для гэтага браўся кавалак крэменю i ў iм бакавым ударам збiвалася вяршыня. Так утваралася своеасаблiвая пляцоўка. Пры моцным нацiску спецыяльнага прыстасавання — драўлянага або касцянога стрыжня з крамянёвым наканечнiкам — з краёў пляцоўкi адколвалiся тонкiя i здзiўляюча падобныя на нож пласткi i адшчэпы.

Адшчэп або пласток — гэта яшчэ не прылады для ўжытку. Iх трэба было адпаведным чынам апрацаваць. Доўгай i тонкай крамянёвай прыладай — рэтушорам з краёў iх адколвалiся тонкiя лусачкi, гэта значыць, наносiўся так званы рэтуш. Бакi вырабаў набывалi выгляд пiлачак, якiя добра рэзалi.



*Адбойнiк i нуклеус.*

Найбольш распаўсюджаныя знаходкi на стаянках каменнага веку, асаблiва


*Палеалітычны ручны сякач. (Вёска Падлужжа Чачэрскага раёна)*

неалітычных — рэжучыя прылады. Гэта звычайна былі доўгія ножападобныя пласткі або нават адшчэпы з плоскім завастраючым рэтушам па краях. У познім неаліце з'явіліся сапраўдныя крамянёвыя нажы розных формаў — з завостранымі канцамі, выгнутым! лёзамі, а таксама і сапраўдныя кінжалы. Некалькі добра апрацаваных кінжалаў лістападобнай формы было знойдзена на стаянцы Асавец у Бешанковіцкім раёне. Тут жа натрапілася і касцяная рукаятка да аднаго з іх. На канцы рукаяткі была выразана галоўка, а таксама прасвідраваны адтуліны для замацавання шнура, якім кінжал прывязваўся да пояса.

Адшчэпы або абломкі ножападобных пласткоў, у якіх край закругляўся і апрацоўваўся стромкім рэтушам, служылі скрабалкамі. Такая прылада з'яўлялася універсальнай, ёй можна было чысціць рыбу, здзіраць мяздру са скуры, рэзаць скуру жывёл і кару дрэў, апрацоўваць унутраныя часткі драўляных лыжак і місак.

Завостраныя і рэтушаваныя пласткі і адшчэпы служылі пракалкамі. Імі рабіліся невялікія адтуліны ў скуры або кары. Адпаведным чынам апрацаваныя еупрацьлеглым рэтушам вострakанечнікі былі пракруткамі, якімі свідраваліся розныя тонкія адтуліны ў костках, дрэве, ракавінах, гліняных гаршках і нават у каменнях.

Сярод крамянёвых прылад працы адносна невялікую групу складалі разцы, якія пераважна прымяняліся для апрацоўкі костак. І па сваёй форме, і па спосабу прымянення крамянёвыя разцы здзіўляюча падобны на сучасныя разцы, з той толькі розніцай, што апошнія прыводзяцца ў дзеянне не рукамі, а спецыяльнымі станкамі,

Наканечнікі дзідаў і стрэлаў таксама выраблялі з крэменю. Для гэтага звычайна выкарыстоўваліся шырокія пласткі, якім з дапамогай бакавога ўдарнага рэтуша надавалася лістападобная форма.

Вялікае захапленне выклікаюць крамянёвыя наканечнікі стрэлаў, якія часта сустракаюцца на старажытных помніках. У канцы палеаліту, калі і быў вынайдзены лук, наканечнікі стрэлаў мелі адносна значныя памеры. У мезаліце ж у якасці наканечнікаў прымянялі і так

званыя мікраліты — розныя дробна пасечаныя пласткі і адшчэпы, рэтушаваныя па краях.

У пачатку неаліту наканечнікі былі пераважна лістападобныя, але на захадзе і поўдні нашай рэспублікі ў той час з'явіліся і трохвугольныя экземпляры. Пазней тут пачал! вырабляць наканечнікі з увагнутай падставай, паабапал якой выдзяляліся вострыя зазубні. З цягам часу такая форма распаўсюдзілася па ўсёй тэрыторыі.

З чым жа было звязана з'яўленне розных наканечнікаў стрэлаў і змяненне іх формы?

Страла была незаменнай зброяй на паляванні. І не толькі на дробную дзічыну або птушак. З моцнага, добра зробленага лука можна было выпускаць стрэлы з вялікім імпэтам, дастатковым для паражэння буйной жывёліны. Калі кінутае кап'ё пралятала 30-40 м, то страла — больш чым 100 м. Этнографам вядома, што дальнасць бою з цяжкага індзейскага лука даходзіла да 450 м. Непараўнальная была і яго ўбойная сіла: напрыклад, эскімосы з блізкай адлегласці прабівалі аленя навылет, а за 300 м індзеец з племені апачаў мог наскрозь прабіць чалавека. У час заваявання іспанцамі Цэнтральнай Амерыкі здараліся выпадкі, калі канквістадары аказваліся літаральна прыбітыя стрэламі да сваіх коней.

Паляўнічы, забіўшы здабычу, вымаў з яе цела стралу разам з наканечнікам і мог выкарыстаць яе зноў. Таму было мэтазгодна рабіць наканечнік лістападобнай, абцякальнай формы. З развіццём земляробства і жывёлагадоўлі пашыраліся ўзброеныя сутычкі паміж плямёнамі. Зброя паляўнічага ўсё часцей пачынала скіроўвацца на чалавека. Вось якраз тады і пайшлі ў ход трохвугольныя з зазубнямі наканечнікі — паранены мог вызваліцца ад дрэўка стралы, але яе наканечнік чапляўся зазубнямі за мышцы і заставаўся ў целе пацярпеўшага, прычыняючы яму несупынныя пакуты.

Яшчэ ручны сякач ранняга палеаліту мог ужывацца як сякучая прылада. Аднак адначасова ён ужываўся і для рэзання і для выкопвання ядомых каранёў і клубняў. У познім жа палеаліце з'яўляюцца першыя сапраўдныя сякеры. Але найбольш яны распаўсюдзіліся ў пачатку неалітычнай эпохі з развіццём апрацоўкі драўніны. У гэтай справе іх дапаўнялі цяслы і долаты. Першыя крамянёвыя дрэваапрацоўчыя прылады былі грубыя і недасканалыя, з іх бакоў тырчэлі розныя вострыя выступы, якія чапляліся за драўніну ў час працы. Пасгупова людзі навучыліся зашліфоўваць выступы. Затым у прыладах шліфавалася ўся паверхня.

Шліфавалі на каменных плітах, падсыпаючы мокры пясок. Вастрыі рэжучых прылад тачылі невялікімі брускамі.

У тых месцах, дзе прылады выраблялiся з мяккiх парод каменю, знойдзены сведчаннi яго пiлавання. На Беларусi ж слядоў гэтага спосабу апрацоўкi камянёў няма, бо тут паўсюдна меўся цвёрды крэмень. Гэты камень не паддаецца i свiдраванню. А вось у канцы неалiту i асаблiва пазней, у бронзавым веку, было шмат свiдраваных сякер, вырабленых з менш цвёрдых парод.

Свiдраванне ракавiн, костак i нават камянёў пачалося яшчэ ў палеалiце. Яно рабiлася ўручную завостраным кавалкам крэменю — пракруткай. Адтулiны атрымлiвалiся малымi i няроўнымi.

У неалiце, з вынаходствам спецыяльнага станка можна было свiдраваць глыбокiя i вялiкiя адтулiны. Станок нагадваў прыстасаванне для здабычы агню, гэта значыць, асноўнымi часткамi яго былi лучок i стрыжань, якi круцiўся з дапамогай абматанай цецiвы. На канцы стрыжня прымацоўваўся кавалак трубчастай косткi, якiм i праводзiлася свiдраванне. Косткай свiдравалi камень? Так, свiдравалi, i нават атрымлiвалiся адтулiны шырынёй у некалькi сантыметраў. Справа ў тым, што пад касцяны свердзел падсыпалi буйны пясок i фактычна менавiта пясчынкi «вымолвалi» адтулiну. Прымяненне трубчастай косткi давала карысць у працы, бо свiдраванне адбывалася толькi па перыметру адтулiны, цэнтр жа яе заставаўся цэлы i выпадаў у выглядзе акуратнага цылiндрыка.



*Каменная цясла.*

*(Зацэнне.)*

Для свiдравання вузейшых адтулiн ужывалася бояыш лёгкае прыстасаванне — дрыль. У ёй стрыжань круцiўся гарызантальнай гiеракладзiнай, прымацаванай да стрыжня вяровачкай, i грузiка — махавiка.

Напэўна нiкому не трэба тлумачыць, для чаго старажытнаму чалавеку служыла сякера. Але ўзнiкае пытанне, як можна было ссекчы дрэва каменнай сякерай, i асаблiва тады, калi яна не мела адтулiны для тапарышча? Сякера замацоўвалася ў дзяржаннi даволi складана. Яна вузейшай абушковай часткай устаўлялася ў касцяную або рагавую муфту, якая ў сваю чаргу прымацоўвалася да тапарышча. Так атрымлiвалася даволi зручная прылада.



*Касцяныя шылы. (Асавец.)*

*Касцяныя наканечнікі стрэлаў з тарфянікавых стаянак.*

З муфтамі прымяняліся таксама цяслы і долаты. Матыкі ж для апрацоўкі зямлі, якія мелі свідравальныя адтуліны, насаджваліся на рукаяткі.

Ужо на палеалітычных стаянках сустракаюцца касцяныя прылады працы. Гэта былі розныя біячкі — доўбенькі, наканечнікі дзідаў, кінжалы, землекапалкі, якімі выкопеаліся спажыўныя карані і клубні раслін, а таксама рыхтаваліся лавецкія ямы.

У мезаліце з'явіліся касцяныя і рагавыя сякеры з адтулінамі для рукаятак, цяслы, наканечнікі стрэлаў і іншыя прылады з гэтых матэрыялаў.

Даследчык неалітычных паселішчаў паўднёвай часткі Беларусі можа падумаць, што прылады працы і зброя ў той час выраблялiся толькі выключна з каменю. Але гэта далёка не так, проста тут у пясчанай глебе за вельмі працяглы час не захаваліся вырабы з іншых матэрыялаў. Раскопкі на тарфяніках Беларускага Паазер'я даюць нам мноства сведчанняў, што камень у неаліце шмат калі замяняўся

косткай і рогам. Тут знойдзены рагавыя сякеры, долаты, цяслы, касцяныя праколкі, шылы, гарпуны, наканечнікі стрэлаў і мноства іншых вырабаў. Няма толькі касцяных разцоў і нажоў, бо крэмень з яго падатнасцю рэтушаванню і з асаблівай цвёрдасцю тут быў незаменны.

Цяжка было ссекчы дрэва рагавой сякерай, для гэтага лепш служыла каменная прылада, а вось калі трэба было рассекчы мяса на кавалкі,— тут ужо і з рагавой можна было даць рады.

Калі ўзнікала неабходнасць зрабіць якую-небудзь прыладу з рога, ён спачатку падзяляўся на асобныя кавалкі — нарыхтоўкі. Для гэтага матэрыял надсякаўся каменнай сякерай або надразаўся крамянёвым нажом і разломваўся. Затым разламаныя часткі зачэсваліся і зашліфоўваліся на каменных плітах, чым надавалася нарыхтоўкам патрэбная форма.

Свідраванне адбывалася падобным спосабам, як і пры вырабе каменных сякер і матык.

Наканечнікі стрэлаў і невялікія гарпуны выраблялiся з расшчапаных уздоўж сценак тоўстых трубчастых костак. Такія нарыхтоўкі затым абстругваліся нажамі і загладжваліся. Для праколак і іголак выкарыстоўваліся тонкія рэбры дробных звяроў і, увогуле, драбнейшыя косткі. З шырокіх рэбраў іншы раз выраблялiся масіўныя кінжалы, але часцей для гэтай мэты выкарыстоўваліся адросткі спінных пазванкоў зубра або тура.

Найбольш дробныя рэчы, як малыя рыбацкія кручкі або некаторая аздоба, выразаліся з касцяных пласцінак. З тазавых костак рабіліся лыжкі. А вось відэльцаў не знойдзена, бо яны ў Еўропе з'явіліся значна пазней, і да вядомых крыжовых паходаў нават каралі елі мяса рукамі.

Косткі і асабліва рогі значна цвярдзейшыя за дрэва, і таму яны цяжка паддаваліся апрацоўцы каменнай прыладай. Іх нават жалеза бярэ з цяжкасцю і хутка ад іх тупіцца. Дасканалая ж апрацоўка знаходак з гэтых матэрыялаў без сумнення сведчыць аб тым, што косткі і рогі папярэдне распарваліся. Пры высокай тэмпературы яны лёгка рэжуцца, а астываючы, набываюць ранейшую цвёрдасць.

Рагавыя і касцяныя вырабы ў адных мясцінах былі больш распаўсюджаны, у другіх менш. На Прыдняпроўі, у басейне Немана і Прыпяці, дзе сустракаецца мноства крэменю, не было патрэбы шырока ўжываць рог і косткі. Затое ж на бедным на крэмень Паазер'і гэтыя рэчывы былі асноўным матэрыялам для вырабу прылад працы і зброі. Тут у некалькі разоў менш сустракаецца каменных рэчаў, чым на ўсёй астатняй частцы нашай тэрыторыі.

Найстаражытнейшы чалавек мог пераплысці раку, трымаючыся за бервяно, Некалькі звязаных бярвенняў утваралі плыт. Маюцца бясспрэчныя сведчанні, што ў новым каменным веку на тэрыторыі Беларусі выраблялiся і лодкі. Ладны кавалак адной з іх быў знойдзекы на неалітычнай стаянцы каля вёскі Зацэнне Лагойскага раёна. Цяпер ён захоўваецца ў Дзяржаўным гістарычным музеі БССР.

Пры асушэнні Крывінскага тарфяніка побач са старажытным паселішчам Асавец была знойдзена нават цэлая неалітычная лодка. Пры раскопках стаянак сустракаюцца і кавалкі драўляных вёсел. Лодкі выдзяўбаліся з аднаго тоўстага — найчасцей ліпавага — камля каменнымі цясламі. Як сведчаць этнаграфічныя даныя, асяродак дрэва папярэдне выпальваўся, што паскарала марудную і нялёгкую працу...

Лодку спачатку выкарыстоўвалі пераважна для рыбацтва. Лавіць рыбу можна вудай і з берага, але гэта амаль што дзіцячая забава, бо буйная здабыча ля берага бярэцца рэдка. Іншая справа на глыбіні, дзе плаваюць пудовыя самы ды вялікія шчупакі... Тут без лодкі не абысціся. Цяжка без яе і пры лоўлі сеткай.

Лодка ў тую даўнюю пару, асабліва пры бездарожжы, была і важным сродкам транспарту. На ей плавалі ў суседнія паселішчы і нават у больш аддаленыя мясцовасці. Чалавеку на лодцы менш пагражала небяспека — дзікі звер або воін з варожага племені...

У неаліце шырока выкарыстоўваліся сеткі, і гэтаму ёсць не адно сведчанне. На стаянцы Асавец знойдзена шмат грузіл — гэта плоскія камяні з прасвідраванымі адтулінамі або экземпляры, зьлепленыя з гліны. У адным з раскопаў на самым дне культурнага пласта ланцужком ляжала каля дзесятка такіх гліняных грузіл. Сама сетка згніла, а грузілы засталіся на тым месцы, дзе першабытны рыбак паклаў сваю снасць, ды так яе чамусьці і не падняў...

Саміх старажытных сетак у Беларусі пакуль што не знойдзена, а вось у суседняй Літве на стаянцы Швянтоі знойдзены іх цэлыя кавалкі, сплеценыя з ліпавага лыка.

Акрамя сетак, старажытныя рыбакі ўжывалі і іншыя прыстасаванні, змайстраваныя з дрэва. Ад іх засталіся розныя лучынкі, лазовыя пруткі і аплеценыя карой каменныя грузілы.

На Панямонні не знойдзена ад неалітычнага часу гліняных або каменных грузіл. Можа там наогул у той час яшчэ не ўжывалі сетак? Не, мабыць ужывалі, хоць там і не было столькі, як на Падзвінні, азёр, бо вядома, што менавіта на азёрах лепш лавіць сеткай. Пры вывучэнні стаянак на тэрыторыі заходняй часткі Беларусі знойдзена адносна шмат круглых камянёў памерамі з добры яблык. Прызна-

чэнне іх пакуль што нам невядома. Магчыма, та кія камяні, загорнутыя ў скуру або бяросту, падвешваліся да сетак як грузілы.



*Касцяны гарпун. (Асавец.)*

Гарпун, як можна меркаваць, адна з найстаражытнейшых прылад для рыбнай лоўлі. Разам з тым яна складаная ў сваім вырабе і выкарыстанні. Вастрыё гарпуна з зубцамі свабодна замацоўвалася ў дрэўку і было дадаткова злучана з ім доўгім шнурам. Раненая рыба ныраЛа, гарпун вылузваўся з дрэўка, і яно, раскручваючы шнур, як буйком, адзначала месца, дзе схавалася здабыча.

Найбольш архаічныя гарпуны вядомы нам з канца палеаліту. Гэта былі масіўныя прылады, прызначаныя хутчэй не для рыбацтва, а для палявання на буйнога звера.

Гарпуны шырока ўжываліся ў мезаліце. Іх значэнне захоўвалася і ў наступную эпоху.

Неалітычныя гарпуны былі невялікія, мелі адзін або два, зрэдку больш, вострых зубцоў. Выраблялiся гэтыя прылады з сценак трубчастых костак.

Знойдзеныя на неалітычных паселішчах рыбацкія кручкі самыя разнастайныя па сваёй форме і памерах. Найбольш старажытнымі лічацца так званыя састаўныя экземпляры, у якіх да стрыжанька прывязвалася вастрыё. З тонкіх касцяных пласцінак выразаліся мініяцюрныя кручкі з зазубнямі і патаўшчэннямі на падставе стрыжанькоў, за якія прывязвалася леска, Іх памеры не перавышалі 3-4 см. Такія прылады прызначаліся толькі для лоўлі дробнай здабычы; для лоўлі ж буйнейшай прызначаліся масіўныя крукі, зробленыя з скiвічных костак жывёлін, у шырэйшай частцы якіх свідраваліся адтуліны для прывязвання за шнур. Даўжыня такіх вырабаў часам дасягала дзесяці і больш сантыметраў.

Цяпер уявіце сабе, якой велічыні была тая рыбіна, што магла глынуць такі крук з прынадай?

На Крывінскім балоце, непадалёку ад Асаўца, можна змайсці мноства кавалкаў жэрдак, калоў і слупоў. Спачатку вучоныя думалі, што гэта рэшткі палевых пабудоў, якія ў неаліце ўзводзіліся на азёрах і балотах Германіі, Швецыі і Швейцарыі. Нейкае падабенства такіх

пабудоў знойдзена і пры раскопках некаторых тарфянікавых стаянак у Сазецкім Саюзе.

Што ж уяўлялі сабой палевыя пабудовы?

У дно возера ўбіваліся тоўстыя завостраныя слупы, на якіх умацоўваліся лежні з дашчатым насцілам. На насціле затым і будавалася жыллё. Не з выгоды людзям даводзілася ладзіць там сабе паселішча. Гэта чалавек рабіў для абароны ад ворагаў або дзікіх звяроў.

У Асаўцы ж трапляліся завостраныя слупы, але былі ўвагнаны ў зямлю чамусьці па адной лініі. А як жа ў такім выпадку пакласці насціл? Ды і адлегласць паміж слупамі была занадта вялікая, каб іх можна было лічыць палямі. А вакол гэтай лініі за паўдзесятка метраў ад яе знаходзіліся рэшткі мноства жэрдак, нахіленых у напрамку слупоў. Іх падставы ўтваралі нейкае падабенства вялікага авала, што акружаў слупы.

Безумоўна, гэта былі не палевыя пабудовы, але што тут меліся рэшткі нейкага жылля — несумненна. Яго заходнюю частку мы яшчэ не паспелі раскапаць, але ўжо можна было ўявіць канструкцыю і форму хаціны.

Пабывайце ва ўцалеўшых ад пажараў апошняй вайны вёсках Сенненскага або Бешанковіцкага раёнаў, і вы там абавязкова дзенідзе ўбачыце саламяныя заімшаныя ад часу чатырохскатныя стрэхі. У думках адкіньце ад такой пабудовы сцены, зрабіце авальную страху, прарэжце збоку нізкі ўваход, а дзе-небудзь уверсе дзірку для дыму — і вось вам гатова жыллё старадаўняга тубыльца з Крывінскага балота!



*Калы, зачэсаныя каменнымі сякерамі. (Асавец.)*

Падобнае ж жыллё ў старажытнасці будавалася наступным чынам. Спачатку ў зямлю ўбіваўся рад тоўстых завостраных слупоў, якія ўверсе мелі раздваенні. Затым на раздваенні клалася доўгае падстропнае бервяно. Да яго і прыстаўляліся нахіленыя жэрдкі, што ўтваралі каркас страхі. Цяжэй сказаць, чым страха такой хаціны накрывалася. Магчыма, асакой або аерам, бо шмат іх рэштак знойдзена на месцах старажытных паселішчаў.

Рэшткі неалітычнага жылля — цудоўныя сведчанні цяслярскага ўмельства нашых далёкіх продкаў. Тонкія жэрдкі зачэсваліся на адну касую плашчыню, таўсцейшыя — на дзве і больш, Такія завостраныя канцы тоўстых жэрдак і слупоў выглядалі як шматгранныя піраміды. А ўсё ж гэта рабілася прымітыўнай каменнай сякерай! Дарэчы, у жыллі знойдзены і кавалкі чэсаных дошак. Уявіце сабе, колькі даводзілася працаваць чалавеку.

Не дзіўна тое, што крамянёвымі нажамі першабытныя людзі завострывалі розныя калочкі і палачкі, майстравалі дзяржанні да прылад працы, дрэўкі дзідаў і стрэлаў, выразалі розныя драўляныя прыстасаванні, неабходныя ў гаспадарцы. Такая справа была звычайная і сведчанняў яе на тарфянікавых стаянках захавалася шмат. Нашы далёкія продкі былі здатны на большае: на Асаўцы былі знойдзены рэшткі міскі, па-майстэрску выразанай з дрэва, а на суседняй стаянцы ля Галоўска — драўляны апалонік.

Ганчарны круг на тэрыторыі сучаснай Беларусі пачаў ужывацца прыкладна з IX стагоддзя. Тут варта заўважыць, што ў некаторых нашых вёсках яшчэ гадоў пяцьдзесят таму назад гліняныя пасудзіны ляпіліся ўручную. А што ж тады казаць аб тых часах, калі існавалі крывінскія паселішчы?

А наогул, як з'явіліся гліняныя гаршкі?

Найстаражытнейшыя іх абломкі, знойдзеныя археолагамі на тэрыторыі сучаснай Беларусі, адносяцца да V тысячагоддзя да н. э. Да гэтага часу посудам чалавеку служылі розныя драўляныя даўбёнкі, пляцёнкі з травы, прутоў і кары. Такое начынне добрае для жалудоў ці арэхаў, а вось ваду ў ім далека не занясеш. Праўда, этнаграфіі вядомы выпадкі, калі ў некаторых народаў маглі так лоўка змайстраваць пляцёнку, што з яе ні кроплі не выцякала. Але гэта — выключэнне з правіла; у большасці ж выпадкаў шчыліны стараліся чым-небудзь замазаць.

Яшчэ ў «дапатопныя» часы нашы продкі заўважылі цэлы шэраг цікавых асаблівасцей гліны: яна, калі вільготная, робіцца клейкай, лёгка мяняе форму і захоўвае яе пры высыханні. Гэта рабіла яе

унікальным матэрыялам для замазкі. Калі пасудзіна з цягам часу зношвалася, яна пакрывалася новым пластом гліны.

А цяпер уявім сабе, што па чыёй-небудзь неахайнасці такое драўляна-глінянае начынне трапіла ў вогнішча. Дрэва згарэла і — о цуд,— пасудзіна не толькі не развалілася, але, наадварот, стала яшчэ мацнейшая, бо гліна абпалілася... Дык чаму ж тады не паспрабаваць зляпіць нейкае змесціва з адной гліны? Паспрабавалі — атрымалася. Дарэчы, апальванне гліняных гаршкоў — першая хімічная рэакцыя, якой авалодаў чалавек.

Вось так, на думку большасці вучоных, і адбылося вынаходніцтва глінянага посуду — аднаго з найвялікшых дасягненняў першабытнага грамадства.

Навык лепкі гаршкоў хутка распаўсюдзіўся па ўсёй тэрыторыі сучаснай Беларусі.

Ці бачыў хто-небудзь з вас жанчыну-ганчара? Напэўна, не. А вось у каменным веку ўвесь посуд вырабляўся выключна жанчынай. Аб гэтым мы даведаліся па адбітках пальцаў, якія там-сям захаваліся на гаршках. Як вядома, такія адбіткі ў мужчын і жанчын адрозніваюцца паміж сабой.

Мужчына быў рыбаком, паляўнічым і воінам. Жанчына займалася збіральніцтвам, хатняй гаспадаркай, рыхтавала ежу. Для гэтых заняткаў і неабходны былі зручныя пасудзіны, таму няма нічога дзіўнага, што менавіта жанчына магла быць і вынаходнікам керамікі.

Спачатку не ўсё ішло гладка, пасудзіны былі грубыя і нетрывалыя. Паступова заўважылі, што чыстая тлустая гліна пры высыханні і апальванні трэскаецца, а вось дабаўка пяску ці іншых рэчываў робіць яе мацнейшай. Асабліва часта дамешвалі траву або лубяныя валокны. Выраб тады атрымліваўся як бы з арматурай.

Ляпілі гаршкі зазвычай з гліняных жгутоў — доўгіх кілбасак, якія накладваліся па спіралі адзін на адзін, а затым пляскаліся рукамі. Пры гэтым пасудзіне надавалася неабходная форма. Часам гаршкі ляпіліся і з гліняных паясоў.

Розныя плямёны мелі свае асаблівасці ў ганчарнай справе. Насельнікі Крывінскіх паселішчаў у глінянае цеста часта дабаўлялі тоўчаныя ракавіны. Затым рабілі даволі шырокія істужкі, якія злучаліся паміж сабой спосабам тарцовага прылепу, г. зн. адна істужка ўваходзіла ў паз другой і гэтак далей.

Значная колькасць гаршкоў з паўночнай Беларусі маюць вельмі гладкія сценкі. Мяркуюць, што гэта дасягалася наступным чынам: з аднаго боку да сценкі прыстаўлялася дошчачка, якая была як бы кавадлам, а з другога — стукал! драўляным малаточкам. Так сценка


*Гліняныя пасудзіны з стаянак Крывінскага тарфяніка*

рабілася роўнай і гладкай. Часам па нейкай невядомай нам прычыне дошчачку абкручвалі тоўстай ніткай, тады звонку гаршкі быццам арнаментам пакрываліся іх частымі адбіткамі.

У старажытнейшы час пасудзіны аздабляліся вельмі сціпла: некалькі паскаў з адбіткаў грабянца або плыткіх ямак. Пазней на аздабленне «не скупіліся». Уся паверхня вырабаў зазвычай пакрывалася частымі паскамі насечак, грабеньчатых адбіткаў, наколак. Нават донцы арнаментаваліся! Такі гаршчок здалёк нагадваў нейкую адмысловую пляцёнку.

Часамі матэматычная строгасць і насычанасць арнаменту парушалася, тады на паверхнях гаршкоў сустракаліся асобныя арнаментаваныя зоны, ромбы, выгнутыя рысы.

У больш позні час такая ўскладненасць арнаментацыі сустракалася пераважна ў верхніх частках пасудзін. Тут меліся гарызантальныя адбіткі, розныя крыжыкі, ялінкі, зігзагі. Асабліва прыгожы быў гаршчок, калі пад яго брыжам меўся шырокі пасак дужак — быццам вясёлак.

Пасля арнаментавання гаршкі для моцы абпальвалі. Гэта рабілася на вогнішчах так званым адкрытым спосабам. Абпальваліся пасудзіны нераўнамерна, таму колер сценак часам быў плямісты.

Самая архаічная неалітычная кераміка рыхлая, дрэнна абпаленая. Гаршкі часта трэскаліся і рассыпаліся. На некаторых старажытных помніках за прайшоўшыя тысячагоддзі чарапкі пад уздзеяннем сонца, маразоў, вільгаці і іншых фактараў зусім рассыпаліся. Таму нават цяжка сказаць, калі нашы далёкія продкі ў розных мясцовасцях пачал! ляпіць гліняны посуд.

З часам гаршкі навучыліся рабіць мацнейшымі, сталі лепш іх абпальваць. Але і тады ў розных плямёнаў яны адрозніваліся па сваёй моцы. У паўднёвай частцы сучаснай Беларусі гаршкі былі самыя трывалыя. Да нашых дзён на мясцовых паселішчах захаваліся вялікія абломкі пасудзін. Іх можна склеіць паміж сабой і атрымаць цэлыя вырабы.

У Паазер'і, дзе ў большасць керамікі дамешваліся тоўчаныя ракавіны, увесь кеалітычны гюсуд быў вельмі крохкі, Выключэнне,

бадай, складалі толькі вырабы на пасялішчах так званай культуры грабеньчата-ямачнай керамікі. Пры раскопках тарфянікавых паселішчаў у паўночнай Беларусі са знойдзенымі кавалкамі пасудзін трэба абыходзіцца вельмі асцярожна, бо яны лёгка трушчацца і толькі падсохнуўшы, гэтыя кавалкі робяцца мацнейшыя. А каб захаваць такія знаходкі надоўга, іх даводзіцца нават абмазваць спецыяльным клеем. Цікава, што некаторыя кавалкі гаршкоў на тарфянікавых помніках нават выпростваюцца пад цяжарам верхніх пластоў. У такім выпадку звычайна бывае немагчыма вызначыць сапраўдныя памеры пасудзіны.

У далёкія старажытныя часы гаспадыня не спяшалася развітвацца з трэснутым або разбітым гаршком, бо інакш трэба было ляпіць новы, а гэта патрабавала шмат працы. Таму гліняная пасудзіна рамантавалася: бралася «на шво». Рабілася гэта так. Спачатку ўздоўж трэшчыны свідраваліся адтуліны. Затым на пашкоджанае месца з абодвух бакоў накладвалася бяроста і праз адтуліны яна моцна звязвася шнурком.

Пад час раскопак нярэдка сустракаюцца чарапкі з такімі свідраваннямі, а ў Літве на адной з стаянак знайшлі кавалак пасудзіны з цэлым швом. Там захавалася ўсё як мае быць — і бяроста і шнурок.

У падрамантаваным гаршку ўжо нельга было варыць ежу, а вось для захоўвання розных сухіх прадуктаў ён паспяхова выкарыстоўваўся.

Гліняныя пасудзіны мелі самае рознае прызначэнне. На сценках многіх гліняных гаршкоў аж да гэтага часу захаваўся тоўсты пласт нагару — гаспадыні, мабыць, не вельмі турбавалі сябе мыццём посуду. Дарэчы, з дапамогай хімічнага аналізу можна нават даведацца, што варылася ў гаршку. Большыя пасудзіны (а некаторыя з іх дасягалі да паўметра ў папярочніку) служылі замест мяхоў, кублаў або дзежак для захоўванмя прыпасаў: вяленага і вэнджанага мяса, грыбоў, ягад, арэхаў і гэтак далей. Тым больш, што кублаў як такіх і іншага драўлянага начыння яшчэ не было, бо каменнай або рагавой сякерай клёпкі не асабліва вычашаш. Ткацтва таксама было не настолькі развіта, каб хапала палатна на мяхі.

Знаходзяць археолагі і зусім маленькія місачкі, кубкі. Напэўна, яны служылі для піцця, а некаторыя маглі быць і дзіцячымі цацкамі.

Хоць і рэдка, але часам сустракаюцца пасудзіны з дзіркамі ў дне і нават у сценках. Гэта былі першыя друшлякі-цадзілкі.

Наведвальніка гістарычнага музея заўсёды ўражвае форма гаршкоў з новага каменнага веку — яны вастрадонныя! Як жа такі гаршчок можна было на стол або ў печ паставіць, каб ён не

перакуліўся? Справа ў тым, што тады ні сталоў, ні печаў у нашым разуменні не было. Ежу рыхтавалі проста на вогнішчах або на агнішчах, складзеных з камянёў. Вось тут якраз і падыходзіла пасудзіна з вострым дном, яе не ставілі, а ўторквалі між вуталёў або каменне, і як бы дровы ні падгаралі, яна не кулялася. Вострае дно сведчыць яшчэ і пра тое, што ўладальнікі гаршкоў часта перасяляліся з месца на месца, г. зн. ім даводзілася гатаваць страву, як кажуць, у палявых умовах, на звычайных вогнішчах. Успомніце, што і сёння катлы для турыстаў робяць не з плоскім, а з круглым дном. Між іншым, і ў неаліце ў некаторых народаў часамі прымяняліся круглядонныя пасудзіны.

У познім неаліце і ў раннім бронзавым веку, г. зн. з канца III — пачатку II тысячагоддзя да н. э., на тэрыторыі Беларусі амаль выключна запанавала пласкадонная форма гаршкоў. Гэта тлумачыцца паўсюдным распаўсюджаннем сталай аседласці, калі жытлы будаваліся абавязкова з печкамі, прымітыўнымі сталамі і рознымі паліцамі, на якіх мог стаяць толькі пласкадонны посуд.

## У СВЕЦЕ ПРЫГОЖАГА І ...ФАНТАСТЫЧНАГА

Калектыўная працоўная дзейнасць развівала чалавека фізічна і, што найбольш важна, духоўна. Дзякуючы ёй ён пазнаваў навакольны свет, знаёміўся з уласцівасцямі рэчаў і з'яў, з якімі сутыкаўся ў штодзённасці. Яшчэ ў першабытны час нарадзіліся пачаткі батанікі, заалогіі, астраноміі, геалогіі, медыцыны, арыфметыкі. Людзі ўмелі адрозніваць расліны атрутныя ад ядомых, ведалі расліны лекавыя, навучыліся пазнаваць біялагічнае развіццё дзікіх жывёл. Разбіраючы ўпаляваную дзічыну, чалавек пазнаёміўся з яе анатоміяй. Нашы продкі не толькі адшуквалі вохру, гліну, крэмень, але і пачыналі даследаваць мінеральныя багацці зямлі. Жывучы ў асноўным з палявання і рыбацтва, яны павінны былі ведаць навакольныя лясы, балоты і вадаёмы. З вялікай цікавасцю глядзеў чалавек на дзённае і начное неба. Так у выніку вельмі доўгіх назіранняў у яго скла́ліся пэўныя пазнанні пра нябесныя свяцілы. Археалагічныя і этнаграфічныя даныя сведчаць, што першабытныя людзі маглі лячыць і некаторыя хваробы — прастуды, пераломы, раны; спрабавалі накладваць швы, павязкі, прыбягалі да гіпнозу.

У калектыўнай працы развівалася мысленне, мова, зараджалася мастацтва.

Куды б мы ні трапілі — ці то ў афрыканскую саванну, джунглі Амерыкі, ці то на астравы Ціхага акіяна, або ў паўпустыні Аўстраліі—

усюды, дзе яшчэ існуюць першабытныя народы, можна сустрэць у тубыльцаў караля з зубоў дзікіх жывёл. Такія каралі — не толькі аздоба, ёй надаецца і магічнае значэнне. Лічыцца, што воін або паляўнічы, на шыі якога красуюцца іклы тыгра, будзе спрытны і дужы, як гэты звер; аздоба ж з лісіных зубоў павінна прыбавіць іх гаспадару хітрасці. Карацей кажучы, прыпісваючы каралям звышнатуральную чароўную сілу, чалавек хацеў, каб і ў яго былі некаторыя спецыфічныя рысы той ці іншай жывёліны.

Пра гэта могуць добра пасведчыць рэчы з старажытных паселішчаў Крывінскага тарфяніку. Тут знойдзена шмат зубоў мядзведзя, лася, ваўка, сабакі з прасвідраванымі ў прыкаранёвай частцы акуратнымі адтулінамі, праз якія працягваліся ніткі. На паасобных зубах замест адтулін маюцца нарэзкі. Магчыма, гэта знаходкі больш старажытнага часу, калі людзі яшчэ не валодалі ўмельствам свідравання.

Каралі з мядзведжых іклаў сустракаюцца даволі часта, але найбольш ахвотна для гэтай мэты выкарыстоўваліся разцовыя зубы ласёў. Дзіўна, ці не праўда? Бо ласі не выдзяляюцца ні асаблівай кемлівасцю, ні смеласцю. Але ўсё робіцца больш зразумелым, калі ўлічыць, што менавіта лось найчасцей рабіўся здабычай паляўнічага і мясам яго жыхары старажытных паселішчаў не аднойчы ратаваліся ад голаду. Вось чаму каралі з ласіных зубоў, на думку нашага продка, павінны былі даць чалавеку ўладу над гэтай жывёлінай і дапамагчы забяспечыць супляменнікаў ежай.

Каралі-амулеты рабіліся і з зубоў забітых ворагаў. Гэта як бы забяспечвала пераход сілы пераможанага да пераможцы.

Амулетамі часам былі і цэлыя сківіцы бабра, якія таксама прасвідроўваліся і насіліся на шыі. Для разнастайнасці да караляў падвешваліся розныя касцяныя трубачКі — пранізкі, ракавінкі, прасвідраваныя плоскія костачкі або каменьчыкі.

Шмат радасці бывае ў археолага, калі пры расчыстцы культурнага пласта яму трапляюцца вырабы з бурштыну, падобныя на сонечныя кропелькі. Мабыць, яшчэ больш радаваліся і ганарыліся імі іх даўнія ўладальнікі — жыхары неалітычных паселішчаў сучаснага беларускага Паазер'я.

Але спачатку некалькі слоў увогуле пра бурштын.

Бурштын — выкапнёвая зацвярдзелая смала некаторых хваёвых дрэў. Найбольшыя ў свеце яго залежы сустракаюцца на паўднёва-ўсходнім узбярэжжы Балтыйскага мора, дзе бурштынаносны пласт «сіняй зямлі» цягнецца на 340 км. У межах СССР ён маёцца ў Калінінградскай вобласці, Літоўскай і Латвійскай саюзных рэспубліках.

Марскія хвалі тут паступова размываюць бераг і выкідваюць бурштын на сушу.

Вядома гзта смала і ў Беларусі ў Гродзенскай і Мінскай абласцях, але тут яна залягае на даволі вялікай глыбіні.

Бурштын Балтыйскага мора мае розныя колеры: жоўты, руды, мядова-жоўты, часам амаль белы. У Сіцыліі сустракаецца блакітны, чырвоны або зялёны бурштын, у Румыніі — чорны.

Старажытныя грэкі называлі яго электронам, ад чаго і паходзіць слова «электрычнасць».

Бурштын быў вядомы і нашым продкам. На тэрыторыю Беларусі ён трапляў з Прыбалтыкі. Уверх па Дзвіне і яе прытоках, змагаючыся з хуткім цячэннем, паволі падымаліся лодкі-даўбёнкі з каштоўным мінералам. У Прыбалтыку ўзамен за бурштын везлі крэмень, бо там не было залежаў гэтай каштоўнай сыравіны. Такім чынам адбываўся першабытны абмен.

Былі і іншыя шляхі распаўсюджвання жоўтай смалы. Прадстаўнікі якога-небудзь племені, адпраўляючыся ў госці да суседзяў, бралі з сабой падарункі. А які лепшы падарунак ад кавалачкаў бурштыну! Бурштын, здаралася, трапляўся і сярод рознай здабычы, захопленай у час ваенных сутычак.

У той час плямёны гандлявалі не толькі сыравінай, але і вырабамі з яе. На тэрыторыю сучаснага нашага Паазер'я бурштын трапляў пераважна ў выглядзе гатовых рэчаў. А яны былі самыя разнастайныя: каралі з прасвідраванымі адтулінамі, трубачкі, гузікі, кольцы. Кавалачкі смалы спачатку шліфаваліся на пясчанікавых плітках, чым надавалася ім адпаведная форма. Затым вострымі крамянё вымі прыладамі свідраваліся скразныя адтуліны, Калі аздоба ламалася, яе рамантавалі — свідравалі зноў або рабілі нарэзкі для падвязвання.

Таксама як і каралі з зубоў, бурштынавыя вырабы мелі дваякае значэнне для старажытнага чалавека: яны былі як аздоба і як рэчы, якім надавалася нейкая магічная моц. Дарэчы, яшчэ да нядаўняга часу дзе-нідзе знахары «лячылі» бурштынам розныя хваробы.

Бурштынавыя вырабы пакуль што знойдзены толькі на неалітычных паселішчах беларускага Паазер'я. У іншых раёнах Беларусі яны не трапляюцца археолагам, якія даследуюць гэтую эпоху. І гэта няцяжка вытлумачыць. Нашу поўнач, як і паўднёва-ўсходнюю Прыбалтыку, калісьці засялялі плямёны адной культуры, гэта значыць, яны былі паміж сабой крэўныя. І менавіта на гэтай тэрыторыі ў вялікай колькасці распаўсюджваўся бурштын. Басейны Нёмана, Дняпра і Прыпяці засялялі іншыя плямёны, з якімі паазерцы, трэба

меркаваць, часам знаходзіліся ў не зусім мірных адносінах. Таму апошнія стараліся, каб сонечная смала не трапляла да «чужых», бо інакш «чароўнымі» якасцямі бурштыну маглі авалодаць іх патэнцыяльныя ворагі.


*Бурштынавыя аздобы. (Крывінскі тарфянік.)*

У пачатку II тысячагоддзя да н. э., калі тэрыторыі Прыбалтыкі і сучаснай Беларусі ў значнай ступені былі аб'яднаны распаўсюджаннем плямёнаў эпохі бронзы, бурштынавыя вырабы траплялі на ўсе землі, якія цяпер уваходзяць у склад нашай рэспублікі.

Нашым неалітычным продкам былі вядомы і некаторыя музычныя інструменты. На стаянках Крывінскага тарфяніку былі знойдзены кавалкі птушыных трубчастых костак з прасвідраванымі адтулінамі. Гэта былі рэшткі нейкіх духавых інструментаў, падобных да сучаснай беларускай жалейкі,

Бадай, самымі старадаўнімі музычнымі інструментамі з'яўляюцца ўдарныя. Ужо на світанку чалавечай гісторыі ўдарамі палкі аб палку адбіваліся рытмы нашых першых танцаў. Удары па дуплістаму дрэву былі больш гучныя і разнастайныя па тэмбру. З цягам часу сталі спецыяльна выдзёўбваць кавалкі камля і нават абцягваць іх скурай, якая ўтварала мембрану. Так узнік бубен. Няма сумненняў,

што бубен у каменным веку, і асабліва ў меаліцс, быў вядомы ўсім плямёнам на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Без яго, мабыць, не абыходзілася ні адно свята, ні адна важная падзея.

Кожнае племя, ды напэўна і кожная вёсачка, мела свайго чараўніка. А як сведчыць этнаграфія — які ж гэта чараўнік без бубна?!

Шкада, што драўляныя неалітычныя бубны не захаваліся да нашых дзён. Але ці толькі з дрэва яны рабіліся? На тэрыторыі сучаснай Польшчы на помніках неалітычных культур лейкападобных кубкаў і шарападобных амфар сустракаюцца бубны... гліняныя. Такія ж інструменты былі і на тэрыторыі сучаснай Украіны. Плямёны з шарападобнымі амфарамі і лейкападобнымі кубкамі пранікалі і на захад сучаснай Беларусі. Значыць, вельмі верагодна, што гліняныя бубны маглі быць у нашых далёкіх продкаў. Але яны археолагамі пакуль што яшчэ не знойдзены.

Гліняныя бубны на тэрыторыі Польшчы мелі форму своеасаблівага келіха без дна з тоўстай ножкай. Памеры іх невялікія — да 20 см вышынёй. Звычайна на верхняй, большай частцы інструмента меліся налепленыя гліняныя гузы або вушкі, да якіх прывязвалася туга нацягнутая скураная мембрана.

Вядомы беларускі археолаг К. М. Палікарповіч, раскопваючы ў 1935 годзе палеалітычную стаянку ля вёскі Елісеевічы, што на суседняй з БССР Браншчыне, знайшоў статуэтку жанчыны — найстаражытнейшую выяву чалавека на тэрыторыі Верхняга Падняпроўя. Такія знаходкі, хоць з’явы і вельмі рэдкія, але не адзінкавыя для верхнепалеалітычнага часу (40 000-11 000 гадоў таму назад). Яны ўжо сустракаліся і ў СССР і ў іншых краінах свету. Але калі большасць экзэмпляраў адзначалася вялікім скажэннем прапорцый, знаходка з Елісеевіч звяртае на сябе ўвагу сваёй стрыманасцю. Можна сказаць, што манера выканання гэтай статуэткі нагадвае сабой стыль, распаўсюджаны ў сучасным мастацтве, якое імкнецца найперш адлюстроўваць унутраны змест рэчы, падпарадкоўваючы гэтай задачы форму.

У новым каменным веку з распаўсюджаннем жывёлагадоўлі і земляробства ў жыцці першабытнага грамадства ўзрастае значэнне мужчыны. Яго вобраз займае ўсё больш месца ў міфалогіі і рэлігіі першабытнага чалавека. У сувязі з гэтым з'яўляюцца і яго выявы.

Найстаражытнейшая на тэрыторыі сучаснай Беларусі статуэтка мужчыны была знойдзена ў 1966 годзе ўсё на тым жа ўжо вядомым нам тарфяніку ля Асаўца. Выява, выразаная з цвёрдага лістоўнага дрэва, мае даўжыню дзевяць з паловай сантыметраў. Ніжняя частка яе абламаная. Фігурка ўвасабляе сабой рэалістычны вобраз чалавека з выразнымі і нават рэзкімі рысамі твару. Глыбокія вачніцы і



*Драўляная статуэтка. (Асавец.)*

апушчаныя куточкі вуснаў надаюць ёй суровы выгляд. Краі надброўяў закругленыя, пераноссе выяўлена слаба, нос прамы і некалькі сплюшчаны. Відаць, што кончык быў адбіты яшчэ ў старажытнасці. Рэльефна выступаючая ўперад ніжняя частка твару, магчыма, сімвалізуе вусы і бараду. Добра выдзеленая шыя патаўшчаецца да схематычна выразанага корпуса. Рукі адсутнічаюць.

Нельга думаць, што старажытны мастак стварыў партрэтнае падабенства асобы. Гэта хутчэй за ўсё вобраз міфічнага героя або духа, у якім у абагульненай форме выявіліся найбольш характэрныя рысы супляменнікаў скульптара — суровых воінаў і паляўнічых.

Паселішча Асавец вельмі багатае на знаходкі. У раекопкавы сезон 1972 года ў першы ж дзень працы на гэтым помніку нам натрапілася выразаная з рога адламаная чалавечая нага. Яна была так дасканала зробленая і мела такую «жаноцкасць» абрысаў, што члены экспедыцыі напаўжартам ахрысцілі знаходку «ножкай Венеры Асавецкай». Шкада толькі, што астатняя частка статуэткі ие знайшлася. І вось літаральна назаўтра ў той жа раскопцы была знойдзена цудоўная галоўка ад статуэткі... мужчыны. Па дасканаласці выканання і характэрнасці вобраза нялёгка знайсці аналогіі гэтай рэчы ва ўсёй Усходняй Еўропе. Галоўка мела шэра-рудаваты колер і была выразана з рога. Яна ўвасабляе сабой выяву чалавека з высокім ілбом і выцягнутым авальным тварам, вострай бародкай. У глыбокіх вачніцах пазначаны вочы — прасвідраваныя конусападобныя ямкі. Амаль плоскія шчокі сыходзяцца на прамым носе. Пераноссе выяўлена слаба. Злёгку пазначаны вусны, але сам рот выразна акрэслены гарызантальна прарэзаным паглыбленнем. Наогул, рысы твару правільныя, калі не лічыць караткаватай верхняй вусны.

Галоўка яшчэ ў старажытнасці была адламаная ад тулава, але захавалася шыя, у верхняй частцы якой маецца прасвідраваная адтуліна, з дапамогай якой статуэтка, трэба меркаваць, падвешвалася. Даўжыня знаходкі 4,2 см.

Пры параўнанні абедзвюх галовак з Асаўца відаць падабенства манеры іх выканання. Гэта быў, так сказаць, адзін і той жа стыль.

Але як жа адрозніваюцца самі вобразы!

Знаходка 1972 года ўяўляе сабой мужчыну ў росквіце год, які пільна ўглядаецца ў вас і быццам бы пытае: «А хто ты, мой далёкі

нашчадак, як жывеш, што цябе турбуе? Ці хапае дзічыны ў лесе і рыбы ў возеры? Ці не крыўдзяць цябе суседзі?»

Каля паўночна-ўсходняй мяжы Віцебшчыны на тарфяніку непадалёку ад Усвят ленінградскім археолагам А. М. Мікляевым была знойдзена яшчэ адна рагавая скульптурка даўжынёй 9,3 см.

Гэта была выява мужчыны з вялікай галавой, на якой вылзяляліся ў выглядзе паглыбленняў вочы, нос і адкрыты рот. Вушы былі адзначаны бугаркамі з невялікімі копачкамі ў іх. На корпусе меліся выразаныя рукі, прыціснутыя кісцямі да сцёгнаў. Яшчэ ў старажытнасці адна нага была поўнасцю знішчаная, а другая часткова пашкоджаная. Нягледзячы на вялікую колькасць дэталей, па майстэрству выканання скульптурка з Усяччыны ўсё ж уступав асавецкай знаходцы.

У археалагічнай калекцыі з Асаўца маецца яшчэ адно сведчанне таго, што вобраз чалавека ў старажытнейшым выяўленчым мастацтве нашай Зямлі займаў немалое месца. У тым жа 1972 годзе тут былі знойдзены абломкі добра прафіляванага глінянага гаршка, аздобленага на шыйцы гарызантальнымі адбіткамі перавітага шнура. Хоць гэтыя рысы і дазваляюць датаваць знаходку ўжо наступнай эпохай — бронзавым векам, але не ў іх асноўная цікавасць. Ніжэй арнаментаванай шыйкі на пукатым брушку кароткімі адбіткамі таго ж перавітага шнура былі выгравіраваныя дзве чалавечыя постаці. Адна з іх захавалася амаль поўнасцю, ад другой засталіся толькі галава і рука.

Гравіроўкі вельмі схематычныя, але нягледзячы на гэта, яны ўдала паказваюць формы чалавечага цела: галава, шырокія плечы, сагнутыя ў локцях рукі, торс перададзены адной лініяй. Мяркуючы па некаторых дэталях, старажытны выканаўца хацеў паказаць на гэтым гаршку фігуры мужчын.

Гаршчок з фігурамі, безумоўна, выходзіць за храналагічныя рамкі нашай кніжкі, але звесткі аб ім важна ведаць чытачу ў сувязі з іншым матэрыялам, а менавіта, са знаходкай з Ліцвіна.

Пры раскопках неалітычнага паселішча Ліцвін ля мястэчкі Юравічы Калінкавіцкага раёна натрапілася некалькі даволі дробных чарапкоў ад верхняга краю глінянага гаршка. Чарапкі былі звычайныя, тут іх знаходзілі сотнямі — гафрыраваны брыж, шэраг глыбокіх круглых копачак. Але арнамент меў не строгі геаметрычны ўзор, а складаную кампазіцыю, утвораную неглыбокімі наколкамі.

Кавалкі склеілі і бязладныя на першы погляд лініі ўтварылі цэлы малюнак. З правага боку на ім выразна значыліся (чалавечая фігура была акрэслена толькі некалькімі лініямі) рукі, ногі, корпус, галава. Злева на малюнку і ўжо з дапамогай некалькіх ліній наколак віднелася

птушка, хутчэй за ўсё традыцыйная ў неалітычных вераваннях і мастацтве качка.

Малюнак выключна лаканічны: ніводнай лішняй дэталі, разам з тым кожная лінія падкрэслівае характэрныя асаблівасці «дзеючых асоб».

Як вядома, у старажытным мастацтве не было партрэтнасці, яно звычайна не давала ілюстрацый да эмпірычных, выпадковых падзей, і таму індывідуальныя вобразы замяняліся абагульненымі, абстрагаванымі формамі, асабліва калі гэта датычыла міфалогіі.

Так, на знаходцы з Юравіч, бясспрэчна, раскрыты нейкі міфалагічны сюжэт, які, пэўна, перадаваўся з пакалення ў пакаленне, быў вядомы ўсім, таму і хапала тых дэталей, якімі карыстаўся мастак.

На першы погляд, для малюнка птушкі можна было скарыстаць і менш ліній. Але выканаўца, відаць, хацеў падкрэсліць раўназначнасць «персанажаў» міфа — чароўнай птушкі і нейкага легендарнага героя; акрамя таго, у такім выкананні малюнак набывае большую кампазіцыйную выразнасць.

Параўнанне знаходак з Асаўца і Ліцвіна паказвае здзіўляючае падабенства стылю іх выканання. Гэта яскрава сведчыць аб тым, што традыцыі неалітычнага выяўленчага мастацтва на тэрыторыі сучаснай Беларусі працягвалі развівацца і ў наступную эпоху.

Сярод матэрыялаў з неалітычных пасёлішчаў Беларусі сустракаюцца выявы звяроў і птушак. Напрыклад, з Асаўца вядома рагавая статуэтка лася. Жывёліна паказана ў напружанай позе, гатовая да скачка. Форма яе рэалістычная, праўда, галава пазначана толькі невялікім выступам. Але f гэта абумовілася характерам матэрыялу, з якога была змайстравана выява.



*Галоўка касцяной статуэткі. (Асавец.)*

На Крывінскім тарфяніку знойдзена некалькі фігурак птушак, выразаных з расшчапаных вепруковых іклаў. Хоць абрысы выяў даволі прыблізныя, але ўважліва прыгледзішся — і вось быццам чапля, застыглая на балотнай купіне, а другая фігурка падобная на качку, што падрыхтавалася да ўзлёту. У асавецкай калекцыі маецца абломак галоўкі больш дасканалай статуэткі, выразанай з рога. Дарэчы, на неалітычных помніках сустракаюцца выявы звяроў і птушак, змайстраваныя з крэменю. Зразумела, крэмень не той матэрыял, з якога лёгка рабіць скульптуркі, таму яны вельмі прыблізныя.

Пад час раскопак Крывінскага паселішча натрапіўся абломак гаршка, на якім двайным шэрагам дробных наколак была выгравіравана качка. Улічваючы знаходку з Ліцвіна, пра якую гаварылася вышэй, гэта другая падобная гравіроўка, знойдзеная на тэрыторыі нашай рэспублікі. А вось на гаршку з усвяцкага неалітычнага паселішча бачна выгравіраваная складаная арнаментальная кампазіцыя са змеямі.

Сярод рэчаў, якія маюць мастацкую каштоўнасць, варта ўспомніць прыгожыя фігурныя накладкі, касцяныя плоскія кольцы і розныя пласткі з зубчастымі краямі.Усё гэта — знаходкі з Крывінскага тарфяніка.

Пры разглядзе керамікі мы ўжо пісалі пра арнаменты. І сапраўды, з усіх знаходак каменнага веку менавіта на гаршках сустракаюцца найбольш насычаныя і складаныя рэльефныя ўзоры. Праўда, зрэдку арнамент бывае і на вырабах з рога і костак. На стаянцы ля вёскі Зацэнне Лагойскага раёна знойдзена паламаная рагавая матыка з папярэчнымі нарэзкамі і касцяны наканечнік стралы з больш складаным зігзагападобным узорам. Вядомы розныя наразныя арнаменты і на падобных вырабах з Паазер'я і з басейна Віліі.

Арнаментамі аздаблялі рэчы. Адначасова арнаментам надавалася і магічнае значэнне, сэнс якога пакуль што не ўдаецца расшыфраваць. Можна толькі сказаць, што крэўныя трупы плямён мелі падобныя арнаменты, што з'яўлялася адной з важнейшых знешніх адзнак іх культуры (у археалагічным разуменні гэтага тэрміну).

Старажытнейшае грамадства на тэрыторыі сучаснай Беларусі, як і на іншых землях, у познім палеаліце, мезаліце і неаліце развівалася ва ўмовах першабытнаабшчыннага ладу, аснову якога складала агульная ўласнасць на сродкі вытворчасці і на прадукты працы, Формай арганізацыі людзей гэтага часу з'яўляліся мацярынскія роды, якія ўжо ў мезаліце гіачалі аб'ядноўвацца ў плямёны.

Члены роду сумесна палявалі, лавілі рыбу, займаліся збіральніцтвам, а ў познім неаліце — жывёлагадоўляй і земляробствам, будавалі жытлы і лодкі. Калектыўная праца параджала і калектыўную ўласнасць на сродкі вытворчасці і яе прадукты. Здабытае працай пароўну дзялілася між усімі членамі родавай абшчыны. Лясы, рэкі і азёры, палі і статкі жывёлы знаходзіліся ў агульным карыстанні. Уласнасцю паасобных людзей маглі лічыцца толькі некаторыя прылады працы, зброя, вопратка, аздоба. Усё гэта сведчыць аб тым, што ў першабытным грамадстве не было маёмаснай няроўнасці, не было падзелу на антаганістычныя класы і эксплуатацыі чалавека чалавекам.

У эпоху каменнага веку жанчына ў родзе займала раўнапраўнае становішча з мужчынам. Яна вяла хатнюю гаспадарку, гадавала дзяцей, вырошчвала культурныя расліны, памагала мужчыне ў паляванні і рыбацтве, вырабляла посуд, займалася збіральніцтвам. У той час сваяцтва лічылася па мацярынскай лініі. Па гэтай прычыне жанчына выступала і як своеасаблівая аб'ядноўваючая сіла. Большасць вучоных лічаць, што ў неаліце, як і ў папярэдні час, існаваў матрыярхат — гэта значыць, мацярынска-родавы лад.

У канцы каменнага веку з далейшым развіццём жывёлагадоўлі, з паступовым пераходам ад матыкавага да ворыўнага земляробства ўсё большае значэнне пачынае набываць мужчынская праца, а яго роля ў жыцці роду значна павялічваецца. І як вынік усяго гэтага, пачынае фармавацца бацькаўскі род, гэта значыць, матрыярхат паступова замяняецца патрыярхатам, хоць некаторыя перажыткі першага праіснавалі ажно да сярэдневякоўя і нават да больш позняга часу.

Пазнаючы навакольны свет, першабытны чалавек на кожным кроку сутыкаўся з мноствам з'яў прыроды. Ён не ведаў, што такое сонца і зоркі, чаму ноч змяняе дзень і наадварот, чаму растуць дрэвы, нараджаецца і памірае чалавек. У той жа час само існаванне нашага далёкага продка залежала ад сіл прыроды—сонца давала цяпло, лес і вада — ежу, паводка затапляла паселішча, агонь грэў і паліў, маланка забівала. Страх і бяссілле перад сіламі прыроды, якімі чалавек яшчэ не мог кіраваць, з аднаго боку, імкненне неяк вытлумачыць навакольны свет, з другога, прывялі да ўзнікнення рэлігійных вераванняў — скажонага, ненавуковага ўспрыняцця рэчаіснасці.

Сляды зараджэння рэлігійных уяўленняў першабытнага чалавека губляюцца дзесьці ў прыцемках яго першапачатковай гісторыі, але ў новым каменным веку яны ўжо сталі складанай сістэмай вераванняў у розныя звышнатуральныя сілы, якія быццам бы рабілі ўплыў на існаванне нашага далёкага продка і навакольны свет. Гэтыя звышнатуральныя сілы, меркаваў тады чалавек, можна было ўміласцівіць падарункамі і рознымі рытуальнымі абрадамі, а можна было і ўгнявіць...

Нашы старажытныя продкі лічылі, што некаторыя жывёлы з'яўляюцца іх родзічамі, таму яны дапамагаюць родавай абшчыне ў цяжкую хвіліну. Да такіх свяшчэнных істот на тэрыторыі сучаснай Беларусі, без сумнення, адносіліся лось і качка. Таму іх скульптуркі і графічныя выявы знаходзяць археолагі на старажытных паселішчах. Адгалоскі гэтага даўняга культу жывёл засталіся да нашых дзён у паданнях, народных песнях і звычаях. Так, напрыклад, і да сучаснага


*Рагавая статуэтка лася.*

*(Асавец.)*

моманту ў нашага народа асаблівай павагай карыстаецца бусел, немалое месца ў фальклоры займае вобраз мядзведзя, вужа, качкі.

Свяшчэннымі лічыліся не толькі некаторыя жывёлы, але і нежывыя аб'екты — крыніцы, камяні, гаі і г. д. Магічная сіла надавалася таксама розным дробным рэчам — амулетам, як напрыклад зубам жывёл, якія ў выглядзе караляў насіліся на шыі або нашываліся на вопратку. Існаваў у старажытнасці і культ продкаў. Старажытны чалавек верыў, што памершы жыве і «на тым свеце»: рухаецца, ловіць рыбу, палюе на дзічыну, карацей кажучы, паводзіць сябе так, як і пры жыцці, з той толькі розніцай, што «з таго свету» ён можа рабіць уплыў на лес жывых родзічаў, дапамагаць ім, або па нейкай прычыне шкодзіць. Таму памёршым у пахаванні клалі іх зброю, посуд, ежу. Адлюстраваннем культу продкаў у пэўнай ступені з'яўляюцца знаходкі скульптурных выяў людзей, аб чым гаварылася вышэй.

З зараджэннем і развіццём земляробства і жывёлагадоўлі ўсё большае значэнне набывалі культы, звязаныя з нябеснымі свяцiламі, са зменай пораў года, плоднасцю. Асаблівае месца ў вераваннях займала сонца, якое ўяўлялася добрым бажаством, што пасылае на Зямлю цяпло. Без цяпла немагчыма вясна, рост раслін, размнажэнне жывёлы, а значыць, немагчыма існаванне і самога чалавека.

Сляды гэтых так званых касмаганічных культаў мы знаходзім у позненеалітычных арнаментах, дзе пачынаюць з'яўляцца розныя рыскі, кругі з праменнямі, крыжы — вобразы нябеснага свяціла.

Такім чынам, на папярэдніх старонках гэтай кнігі вы даведаліся пра ўмовы жыцця і заняткі людзей у каменным веку, пра іх матэрыяльную і духоўную культуру, пра першабытнае мастацтва.

А цяпер бліжэй пазнаёмімся са шматлікімі плямёнамі, якія калісьці засялялі тэрыторыю сучаснай Беларусі, з асаблівасцямі, што характарызавалі іх і рознілі між сабой, з тагачаснымі гістарычнымі працэсамі.

Вывучаючы рэшткі старадаўніх паселішчаў, шахт і майстэрань на тэрыторыі БССР, археолагі аб'ядналі іх у цэлы шэраг археалагічных культур[3]. Лічыцца, што помнікі адной археалагічнай культуры з матэрыяламі, знойдзенымі на іх, належалі трупам роднасных між сабою плямён, якіх аб'ядноўвала агульнасць паходжання, блізкасць мовы, падабенства прылад працы, хатняга і гаспадарчага ўжытку і нават аднолькавы характар гаспадаркі.

## ПА СЛЯДАХ ПЕРШАБЫТНЫХ ПАЛЯЎНІЧЫХ

Дык калі ж упершыню старажытны чалавек ступіў на зямлю, якую мы з вамі цяпер называем Беларуссю?

Навукай даказана, што першыя сталыя паселішчы чалавека, знойдзеныя тут, існавалі прыблізна 30-20 тысячагоддзяў таму назад. Даказана таксама, што 100 тысяч гадоў таму назад клімат на тэрыторыі нашай рэспублікі быў даволі цёплы, а раслінны і жывёльны свет шмат у чым падобны на сучасны. Таму вельмі верагодна, што яшчэ ў сярэднім палеаліце перад апошнім абледзяненнем чалавек мог знаходзіць тут прытулак і ежу.

Каля вёсак Клеявічы і Свяцілавічы Веткаўскага раёна, Падлужжа Чачэрскага раёна і Абідавічы Быхаўскага раёна на берагах Дняпра, Бесядзі і Сожа знойдзены адшчэпы, скрэблы і іншыя апрацаваныя крэмені, што нагадваюць сярэднепалеалітычныя — мусцьерскія[4] вырабы. Але знайсці ў гэтых мясцінах культурныя пласты паселішчаў, што сведчыла б пра тутэйшае сталае жыхарства, да гэтага часу не ўдалося.

Вось чаму мы можам сцвярджаць, што каля 100 тысячагоддзяў таму назад чалавек упершыню пачаў пранікаць на тэрыторыю сучаснай Беларусі, а засяліў яе толькі ў познім палеаліце.

Паміж першым з'яўленнем старажытнага чалавека на нашым Падняпроўі і часам яго вылучэння з жывёльнага свету як істоты, вырабляючай прылады працы, прайшло больш чым мільён гадоў, таму тут, мабыць, варта коратка ўспомніць папярэдні шлях развіцця ўсяго чалавечага грамадства.

Як вядома, чалавек паходзіць ад вышэйшых чалавекападобных малпаў, а рухаючай сілай яго вылучэння з жывёльнага свету і

---

[3] Археалагічнай культурай называюць групу адначасовых помнікаў, аб'яднаных агульнай тэрыторыяй і агульнымі характэрнымі рысамі.

[4] М у с ц ь е р с к а я к у л ь т у р а — археалагічная культура сярэдняга палеаліту, якая выдзелена па знаходках з пячоры Ле-Мусцье ў Францыі.

далейшага развіцця была грамадска-працоўная дзейнасць. Праца і, менавіта, праца калектыўная стварыла чалавека, развіла яго мысленне, прывяла да ўзнікнення чалавечай мовы. Працэс ачалавечвання меў некалькі этапаў. На першым далёкія продкі чалавека перайшлі ад надрэўнага да наземнага існавання, сталі ўсяеднымі, пачалі ўжываць палкі, косткі і нават камяні ў якасці прылад працы. Новы этап пачаўся з наўмыснага сістэматычнага вырабу прылад. У гэтым адно з асноўных адрозненняў першых людзей ад малпаў, бо апошнія таксама маглі ўжыць палку або камень, але толькі пры выпадку.

У 1960 годзе ў Афрыцы былі знойдзены рэшткі істоты, якая, мяркуючы па яе костках, перайшла да простастаячай хадзьбы і мела адносна вялікі аб'ём мозгу. Разам з косткамі былі знойдзены і абабітыя камяні — першыя несумненныя прылады працы! Вучоныя назвалі гэту істоту Homo habilis — чалавек умелы. Менавіта ён і быў ля калыскі чалавецтва. З часу яго існавання,— а гэта амаль 1000 000 гадоў таму назад,— і пачынаецца ўласна чалавечая гісторыя.

Больш як праз мільён гадоў «чалавека ўмелага» змянілі так званыя архантрапы — архаічныя людзі (пітэкантрапы, сінантрапы і інш.). У іх развіваецца ўсё больш устойлівая простастаячая хадзьба, аб'ём мозгу павялічыўся з 900 да 1200 кубічных сантыметраў.

Архантрапы жылі ў пячорах, выраблялі каменныя прылады працы, вялі калектыўнае паляванне, умелі карыстацца агнём, навучыліся членараздельна размаўляць.

К гэтаму часу чалавек ужо засяліў большую частку Афрыкі, поўдзень Азіі і Еўропы.

У сярэднім палеаліце, каля 100 тысяч гадоў таму назад, з'явіліся неандэртальцы — непасрэдныя папярэднікі сучаснага чалавека. Назва «неандэртальскі чалавек» паходзіць па месцы першай знаходкі ў даліне Неандэрталь, паблізу Дзюсельдорфа, у Германіі, у 1856 годзе.

Неандэртальцы былі сярэдняга росту, сутулыя, але вельм! дужыя. У будове іх чэрапа яшчэ захавалася шмат рысаў ад малпы. Яны былі нізкімі, з пакатымі лбамі, масіўныя надбооўі выступалі ўперад. Хоць мозг неандэртальца па аб'ёму і набліжаўся да мозга сучаснага чалавека, але яго лобныя долі, у якіх размешчаны цэнтр мыслення і тармажэння, былі развітыя слаба.

Чалавек сярэдняга палеаліту ўжо вырабляў з каменю і костак некалькі дзесяткаў тыпаў прылад працы, умеў здабываць агонь і будаваць жыллё, меў некаторыя рэлігійныя ўяўленні.

Неандэртальцы рассяліліся на значных прасторах Еўропы, Азіі і Афрыкі. У СССР вядомы знаходкі гэтых выкапнёвых людзей у Крыму

і Узбекістане, а іх паселішчы — на тэрыторыях паўночнай Украіны, Браншчыны, Паволжа.

У познім палеаліце, які пачаўся каля 40 тысячагоддзяў таму назад, з'явіўся чалавек сучасны або Homo sapiens — чалавек разумны. У гэты ж перыяд адбываецца пераход ад першабытнага чалавечага статка да родавай абшчыны.

Адкрыццё стаянак позняга палеаліту ў Беларусі звязана з імем вядомага даследчыка К. М. Палікарповіча.

У 1926 годзе ён быў яшчэ маладым і мала вядомым археолагам, але за яго плячыма ўжо меўся не адзін дзесятак кіламетраў, пройдзеных па берагах прытокаў Дняпра. Там ён адкрыў шмат розначасовых помнікаў. У жніўні таго ж года, у час аднаго з такіх падарожжаў, на высокім беразе Сожа за два кіламетры ад Бердыжа Чачэрскага раёна Канстанцін Міхайлавіч знайшоў абломак зуба мамата, а ў верасні дапытлівы вучоны правёў тут невялікія раскопкі, дзе на глыбіні 4-х метраў яму ўдалося выявіць культурны пласт старажытнага паселішча з крамянёвымі прыладамі працы і косткамі жывёл.



*Выгляд на палеалітычную стаянку каля вёскі Бердыж Чачэрскага раёна.*

Бердыжская стаянка даследавалася найбольш грунтоўна з усіх палеалітычных помнікаў Беларусі. Амаль на працягу дзесяці раскопачных сезонаў тут было даследавана каля трохсот квадратных метраў.

Асаблівую цікавасць гэты помнік уяўляе сваімі жытламі. Першае з іх было знойдзена яшчэ ў раскопе 1927 года. Яно было авальнае ў плане і адносна невялікае — чатыры з паловай метры ў даўжыню. Яго сцены ўнізе былі ўмацаваныя буйнымі косткамі маманта: чарапамі, лапаткамі, тазавымі і трубчастымі косткамі. Падлога крыху заглыблялася ў зямлю. Навокал збудавання прасочваліся рэшткі агнішчаў.

Жытло, раскапанае ў наступных гадах, было таксама авальнае і паўзямлянкавае, але дасягала ў даўжыню 11 м. Сцены знізу таксама былі ўмацаваны косткамі маманта, але агнішча на гэты раз знаходзілася ўнутры збудавання, а таўшчыня пласта вуглю ў ім была больш як паўметра.

У агнішчах як бердыжскай, так і іншых познепалеалітычных стаянак Беларусі археолагі знайшлі шмат вуглю ад спаленых костак. І нічога тут дзіўнага няма, бо лясоў у прыледавіковай зоне было мала і таму даводзілася дровы замяняць косткамі.

Збоку ад жытла на бердыжскай стаянцы размяшчаліся гаспадарчыя ямы, у якіх, відавочна, захоўваліся запасы мяса. І зразумела, чаму гэтыя кладоўкі не выкопваліся ў саміх збудаваннях. Там было цёпла і мяса хутка псавалася б, а ў схованках за жытлом, выкапаных у вечнай мерзлаце, яно ляжала, нібы ў своеасаблівым халадзільніку.

Археолагі мяркуюць, што палеалітычныя жытлы накрываліся шкурамі мамантаў, якія падтрымліваліся «жэрдкамі» са звязаных рэбраў гэтых жывёл. Вы можаце здзіўлена запытаць: адкуль гэта археолагі даведаліся пра такія падрабязнасці? Але ўявіце самі сабе, што вы апынуліся на раскопе, на нашым месцы. Ужо расчышчаны нажамі і падмецены пэндзлямі — парушынкі нідзе няма — авал жытла, па краях якога захавалася сценка з костак маманта вышынёй ледзь не да метра. Унутры ж жыллёвага авала буйных костак, якімі мацавалася сценка, няма. Затое тут мноства рэбраў. Дык для чаго ж такія рэбры маглі спатрэбіцца, калі навокал ні аднаго добрага дрэўца, каб высекчы жэрдку?.. А для таго, каб трывалей стаяла жыллё, каб не абвальвалася яго «страха».

Вядома, найбольш мяса бердыжцы мелі ад упаляваных мамантаў, але, мяркуючы па знойдзеных костках, жыхары гэтай мясцовасці палявалі і на дзікіх коней, быкоў, бурых мядзведзяў, аленяў, ваўкоў, суслікаў, пясцоў.

Адзін знойдзены на паселішчы зуб маманта прадатавалі радыёвугляродным метадам. Аказалася, што гэты зуб праляжаў у зямлі 23 430 гадоў. Вось прыблізна столькі гадоў назад і існавала Бердыжскае паселішча.

Наступная цікавая палеалітычная стаянка была выяўлена крыху пазней.

Гарачым ліпенем 1929 года К. М. Палікарповіч разам з беларускім археолагам А. Дз. Каваленяй шукаў па берагах Прыпяці стаянкі каменнага і бронзавага вякоў. Шлях уздоўж паўнаводнай палескай ракі прывёў іх у мястэчка Юравічы Калінкавіцкага раёна. У мястэчку археолагі сустрэлі мясцовага настаўніка Ю. Ю. Попела, які паказаў ім костку мамаита, знойдзеную на стромкім схіле недалёкага яру.

Археолагі ў той жа дзень узяліся за рыдлёўкі. У шурфе натрапілася мноства патрушчаных костак. А вось расшчапаных чалавекам крэменяў, якія б сведчылі, што тут старажытнае паселішча, не было. Але надзея не пакінула даследчыкаў, і яны пачалі ўважліва аглядаць бліжэйшыя схілы яру і непадалёку ад шурфа сустрэлі цэлы пласт выкапнёвых костак, якія выходзіў на паверхню. Зноў узяліся за рыдлёўкі і на вузкай расчышчанай пляцоўцы ўздоўж схілу ім адкрыліся рэшткі некалькіх маладых мамантаў, а сярод іх ляжалі і крамянёвыя прылады працы.

Прайшло лета. У верасні ў Юравічах зноў з'явіўся Канстанцін Міхайлавіч і пачаў грунтоўныя раскопкі новага помніка. Потым стаянка яшчэ даследавалася ў 1931, 1959 і 1960 гадах.

Раскопкі далі даволі шмат цікавых матэрыялаў. Былі ўскрыты рэшткі жыллёвага збудавання з умацаванымі каменнем падставамі сцен. Тут жа знаходзіліся агнішчы, абкладзеныя валунамі розных памераў і пясчанікавымі пліткамі, на якіх, напэўна, было зручна падсмажваць рыбу і мяса. А ў вогнішчах знаходзілася мноства касцянога вуглю — і тут косткі былі асноўным палівам.



*Крамянёвы востраканечнік з Юравіцкай палеалітычнай стаянкі Калінкавіцкага раёна.*

Знойдзеныя на гэтым помніку крамянёвыя прылады працы былі падобныя да матэрыялаў з іншых познепалеалітычных стаянак. Сярод знаходак асаблівую ўвагу звярталі на сябе пласткі з крута рэту-

шаваным краем і масіўная апрацаваная пласціна, якая магла выкарыстоўвацца і як наканечнік дзіды і як нож.

Сярод касцяных вырабаў сустрэты зламаная землекапалка і фрагмент прылады, арнаментаваны прадрапанымі шасцівугольнікамі і лукаткамі.

Узрост Юравіцкай стаянкі таксама быў вызначаны па зубу мамантa — 26 470 гадоў таму назад.

Яшчэ да самага нядаўняга часу пра сярэдні каменны век можна было сказаць вельмі мала.

Знаходкі неалітычнага часу на Беларусі вядомы з XIX стагоддзя. Першыя палеалітычныя стаянкі былі адкрыты ў 20-х гадах бягучага стагоддзя. А што можна сказаць пра мезалітычныя? Зрэдку на пясчаных дзюнах непадалёку ад рачных берагоў знаходзілі крамянёвыя прылады з гэтай эпохі. Вось, бадай, і ўсё. Сярод некаторых вучоных нават усталявалася думка, што мезалітычнае насельніцтва з'яўлялася вельмі рухавым і ўслед за дзічынай часта перамяшчалася з месца на месца. Таму, маўляў, і не захавалася слядоў яго больш-менш доўгачасовых паселішчаў.

Але, калі ўдумацца, дык хочацца сказаць: навошта былі тыя частыя вандраванні! Гэта ж не ў тундры, дзе паўночныя алені ў пошуках корму ў розныя поры года перамяшчаюцца на сотні кіламетраў. Нашы ж продкі і 7 тысячагоддзяў таму назад палявалі ў навакольных лясах на ласёў, высакародных аленяў, тураў, зуброў, дзікоў, зайцоў і на іншую «аседлую» дзічыну. Ці ж патрэбны былі ў такім выпадку самім паляўнічым гэтыя вандраванні?

Не, мабыць, асноўнай прычынай малой даследаванасці мезаліту з'яўлялася тое, што вучоныя спачатку мала звярталі ўвагі на яго вывучэнне. Бо знаходкі былі сціплыя — крэменьчыкі і толькі. Гэта ж не палеалітычная стаянка — там мноства костак мамантa, часам цэлыя нагрувашчванні. Такое ўражвае. На неалітычных паселішчах рэштак мамантa, безумоўна, няма, але затое там шмат арнаментаванага посуду.

А на мезалітычных стаянках, што сустракаліся археолагам, ні костак, ні керамікі не было. Тлумачыцца гэта тым, што культурныя пласты эпохі мезаліту звычайна залягаюць на пясках, дзе ўсе арганічныя рэчывы даўно знішчыліся, а гаршкоў тады яшчэ не ляпілі.

Толькі ў самы апошні час даследчыкі грунтоўна заняліся мезалітам, бо трэба было шукаць вытокі пазнейшых археалагічных культур. І адкрыцці не прымусілі сябе доўга чакаць. Было знойдзена шмат мясцін, дзе працяглы час жылі людзі сярэдняга каменнага веку, дзе захаваліся культурныя пласты і дзе цяпер сустракаецца мноства кра-

мянёвых вырабаў, характэрных для гэтага часу,— наканечнікаў стрэлаў і дзідаў, дробных мікралітычных вырабаў, скрабалак, разцоў і г. д.

Бадай-што адна з багацейшых на Беларусі мезалітычнымі знаходкамі мясцін знаходзіцца ў Гродзенскай вобласці на правым беразе Нёмана паміж вёскамі Збляны і Беліца Лідскага раёна. Ваколіцы Зблян упершыню даследаваў настаўнік мясцовай школы Ф. Ф. Барташэвіч, а каля Беліцы працаваў акадэмік Г. І. Гарэцкі.




*Характэрныя тыпы мезалітычных крамянёвых вырабаў са стаянак Беларусі: 1, 2 — наканечнікі стрэлаў, 3, 6 — вастрыі, 4 — скрабалка, 5 — трапецыя, 7 — скобля, 8 — сякера.*

...Праходзіш паміж гэтымі вёскамі па краі высокай надрэчнай тэрасы і ледзь не на кожным кроку сустракаеш апрацаваныя чалавекам крэмені — яго прылады працы. І гэта на ўчастку даўжынёй каля трох кіламетраў!

А пасярод гэтай вялікай тэрыторыі тэрасу перараэзае яр з аплыўшымі схіламі. Мясцовы яр — сучаснік людзей, што жылі тут больш як шэсць тысяч гадоў таму назад. Толькі тады ён быў «малады», дажджавая вада падмывала яго стромкія берагі і мутная збягала ў недалёкі Неман. Паступова Неман адступіў ад берага і паглыбіў сваё рэчышча. І нарэшце так выйшла, што вада аказалася далека ад паселішча. Жыць тутэйшаму насельніцтву стала нязручна, і яно перасялілася ў іншыя мясціны. Але гэта адбылося ўжо ў пачатку неаліту.

Мноства каменных прылад наводзіць на думку, што знаходак тут было б значна болей, каб захаваліся вырабы з костак, рагоў і дрэва. Шкада, што вялікая колькасць рэчаў нашых продкаў згніла, рассыпалася ў пыл, загінула беззваротна.

Але бываюць выпадкі, калі ў рукі археолагу трапляюцца не толькі каменныя вырабы.

Не даязджаючы да Смаргоні кіламетраў шэсць па шашы Мінск — Вільнюс, непадалёку ад вёскі Міхневічы, на левабярэжным поплаве Віліі размешчаны кар'ер. Цяпер яго правільней было б назваць штучным возерам, бо плошча выпрацоўкі дасягае некалькіх квадратных кіламетраў, а глыбіня болей чым 10 м. Кар'ер злучаны з Віліяй вузкай пратокай і, адпаведна, поўны вады, у якой развялося безліч рыбы. Ажно з самога Мінска сюды прыязджаюць рыбакі. Сядзяць яны на беразе і, калі пашанцуе, ловяць рыбу. А пасярод кар'ера-возера плаваюць спецыяльныя ўстаноўкі, што здабываюць жвір і пясок для патрэб мясцовага завода будаўнічых матэрыялаў. Сядзяць на беразе рыбакі і не ведаюць, што гэтыя ўстаноўкі час ад часу разам са жвірам «вывуджваюць» нешта каштоўнейшае, чым якія там плоткі або шчупакі.

Вілія тысячагоддзямі адкладала пясок і жвір на поплаве, ды і цяпер нямала наносіць іх паводкамі. ! таму ў намытым землясмокамі матэрыяле сустракаюцца старыя галёшы, кавалкі дроту, іржавыя гранаты часоў першай сусветнай вайны. Але для даследчыкаў старажытнасці маюць цікавасць іншыя знаходкі з кар'ера — каменныя сякеры бронзавага веку, косткі даўно вымершых жывёлін і... вырабы з рога і костак, што датуюцца мезалітам.

Самыя прыгожыя са знаходак — сякеры, змайстраваныя з рога высакароднага аленя. Яны маюць доўгі абушок і вузкае завостранае з аднаго боку лязо. У прыладах прасвідраваны або прадзяўбаны адтуліны для замацавання рукаятак. Карацейшыя сякеры адтуліны не маюць. Яны, як і некаторыя цяслы і матыкі, замацоўваліся ў рукаятцы з дапамогай муфтаў. Сустрэта сярод знаходак і адна такая муфта.

Шмат якія рогі і косткі маюць сляды апрацоўкі ў выглядзе розных нарэзак і насечак. Некаторыя знаходкі моцна адпаліраваныя. Яны, магчыма, ужываліся як землякопныя прылады.

Большасць рагоў і костак з кар'ера захавалася. Так, відаць, атрымалася таму, што рэчы пасля іх вырабу ў хуткім часе былі засыпаны тоўстым пластом зямлі, дзе адсутнічалі ўмовы для гніення. А магло быць і інакш.

Адказаць на гэта пытанне нам дапамог высокі ўзгорак, які часткова захаваўся ў выглядзе тэрасы на краі кар'ера. На яго паверхні сустрэліся апрацаваныя крэмені мезалітычнага часу, што сведчылі аб наяўнасці тут у старажытнасці чалавечай стаянкі.

І мабыць усё было так...

Нейкіх 8 тысячагоддзяў таму назад гэты ўзгорак быў большы, а можа ўвогуле тут да самай ракі падыходзіў клін высокай тэрасы, і

толькі пазней плынь адрэзала яго, ператварыўшы ў востраў пасярод балоцістага поплаву. I вось на краі гэтага ўзгорка размяшчалася стаянка мезалітычных паляўнічых, рыбакоў і збіральнікаў — некалькі шалашападобных пабудоў, накрытых шкурамі або трыснягом. У кожную паводку з Смаргонрака падмывала бераг і частка яго абрушвалася ў ваду разам з тым, што на ім знаходзілася — дрэвамі, рэшткамі пабудоў, вогнішчаў. Часам напор вады быў такі імклівы, што жыхарам у паніцы даводзілася ўцякаць на больш бяспечную мясціну, не паспеўшы захапіць з сабой прылады працы і рэчы хатняга ўжытку.

Вось такім чынам гэтыя ўсе сякеры, матыкі, цяслы, востраканечнікі, муфты і да т. п. апынуліся на дне ракі, а затым былі замытыя яе адкладамі.

У палеаліце стала быў заселены толькі поўдзень і паўднёвы усход сучаснай тэрыторыі рэспублікі. У басейны Нёмана і Дзвіны чалавек у гэты час толькі пачынаў пранікаць, ды і то ў самым канцы эпохі. У мезаліце ж тэрыторыя цяперашняй Беларусі ўжо поўнасцю была асвоена нашымі продкамі. Помнікі сярэдняга каменнага веку сустракаюцца не толькі на Дняпры, Прыпяці, Дзвіне і Немане, але і на берагах невялікіх прытокаў і азёраў.



*Рагавая сякера з Смаргонскага мезалітычнага месцазнаходжання.*

У пачатку мезаліту ўсю заходнюю тэрыторыю сучаснай Беларусі засялялі плямёны так званай свідэрскай культуры, якія яшчэ ў самым канцы папярэдняй эпохі праніклі сюды з тэрыторыі сучаснай Польшчы. Уплывы «свідэрцаў» распаўсюджваліся і на астатнюю частку Беларуси Іх прыладамі з'яўляліся лістападобныя наканечнікі стрэлаў з рэтушаваным чаранком і з падрэтушоўкай на вастрыі, разцы і скрабалкі, змайстраваныя з пласткоў. Пасля свідэрскіх пасяліліся плямёны, якія ўжывалі як дробныя прылады працы, так і буйныя — крамянёвыя ўкладышы для стрэлаў, гарпуноў, нажы, сякеры, матыкі, цяслы. На ніжняй Прыпяці былі распаўсюджаны больш дробныя крамянёвыя вырабы, а на Падняпроўі — буйнейшыя.

А цяпер пазнаёмімся з тым, што адбывалася на тэрыторыі сучаснай Беларусі ў неаліце — новым каменным веку.

## У ЛЯСАХ ПАНЯМОННЯ І ЗАХОДНЯГА ПАЛЕССЯ

З паўднёвых схілаў Мінскага ўзвышша пачынае свой бег Нёман. Спачатку гэта ручай, але з кожным кіламетрам ён набірае сілу і разгон і пад Стоўбцамі падобны на ладную раку.

У Налібоцкай пушчы берагі Немана нізкія, паміж Лідскім і Навагрудскім узвышшам рачная вада бурліць пад стромкімі абрывамі і падмытыя яліны, як маўклівыя рыцары нейкага зачараванага воінства, нахіляюцца над вадою. У вясеннія паводкі з глухім шумам яны іншы раз падаюць на ваду, і нясе іх імклівая плынь на захад, у бок далёкага салёнага мора.

Там, дзе ў Нёман злева ўліваецца зялёнабярэжная Шчара, на шмат кіламетраў сярод паплавоў раскінуліся дубовыя гаі. А між дубамі буяюць дзікія парэчкі.

Ледзь не да самага Гродна Нёман шырокі, цячэ з нейкім упэўненым спакоем, але там, дзе яго рэчышча крута паварочвае на поўнач, ракі не пазнаць. Яна пеніцца і віруе між страшэнна стромкіх і высокіх берагоў, быццам хоча вырвацца з іх абдымкаў. Імкне ўдалечыню, каб ужо перад літоўскай зямлёй зноў шырока разліцца і адпачыць, загаіць раны ад вострых гродзенскіх камянёў.

Дзе б вы ні прайшлі нёманскім берагам, усюды сустрэнеце сляды жыцця. Кучаравяцца зялёнымі прысадамі маляўнічыя вёскі, узвышаюцца гарады, глядзяцца ў люстра ракі рэшткі любчанскага замка, спрэс расселіся на паплавах стагі. У глухім лесе пад Ярэмічамі сустрэнеце грыбнікоў, а вакол незлічоных старыц у Налібоччыне звіваюцца рыбацкія сцежкі. Найбольш, здавалася б, пустэльны бераг між Лебядой і Котрай ці вышэй вусця Шчары, але і тут, калі седзіце ля вогнішча на пясчаным беразе, бачыце, як буксір цягне плыты, або як дзед на дзюбатай пласкадонцы абкошвае рачныя астравы. Можа толькі на сярэднім цячэнні Шчары, там, дзе яна блізка падыходзіць да Выганаўскага возера, чалавеку часам можа здасцца, што на свеце больш нічога няма, акрамя бяскрайняга нізкарослага хвойніку, хлюпкага балота і каняў, чый плач трывожыць сэрца. Але вось выходзіце з высокай травы да канала Агінскага, і зноў відаць справы чалавечых рук, і зноў уецца рыбацкая сцяжынка.

Ідзе археолаг берагам Нёмана, азіраецца па баках і бачыць, што тут пяцьсот, тысяча і нават пяць тысяч гадоў таму назад жылі людзі. Вось на разараным полі ляжаць кавалачкі абпаленай гліны, шэрыя чарапкі гаршкоў, іржавы цвік кавальскай работы, а то і жалезны наканечнік дзіды — калісьці тут стаяла веска ці мястэчка часоў

Альгерда або Вітаўта — а воддаль зелянеюць парослыя травой валы нейкага феадальнага ўмацавання.

На краі глыбачэзнага яру, акружанае рвамі віднеецца гарадзішча, а каля яго ў маладым дубняку гарбацяцца курганы — гэта ўжо сведкі другой паловы I тысячагоддзя.

Пасля спорнага летняга дажджу вада прамыла раўчук. Археолаг зазірае ў яго і бачыць шэры пласт пяску, з якога тырчаць крамянёвыя адшчэпы, а то нават і наканечнік стралы — тут рэшткі паселішча каменнага веку.

Прырэчны край выспы на поплаве перакапычаны статкам кароў. Напэўна, і тут ёсць нешта цікавае. Так, і тут дробныя кавалачкі глінянага арнаментаванага гаршка і крамянёвыя вырабы.

Вучоныя не толькі знайшлі на Панямонні шмат рэштак паселішчаў неалітычнага чалавека, але некаторыя з іх і раскапалі.

За два кіламетры на захад ад вёскі Апечкі Стаўбцоўскага раёна і за кіламетр на поўдзень ад вёскі Кругліца на правабярэжжы Нёмана знаходзіцца высокі парослы маладым хвойнікам узгорак, які мясцовыя жыхары называюць «Лысая Гара».

Неман тут вельмі звілісты і падмывае бераг. У абрыве былі і заўважаны сляды старажытнага паселішча, а ў выкапаных шурфах — паўметровы культурны пласт.

У 1962 годзе на гэтым помніку, які ў археолагаў атрымаў умоўную назву «Лысая Гара», і была закладзена першая невялікая раскопка. Вывучэнне аб'екта працягвалася ў 1964 і 1965 гадах. Раскопкі выявілі сотні крамянёвых прылад працы, тысячы розных каменных адшчэпаў і абломкаў. Тут жа натрапіліся рэшткі каменных агнішчаў, скапленні вугалю і попелу, розных памераў ямы, якія хутчэй за ўсё былі гаспадарчымі.

Знойдзеныя на стаянцы чарапкі паходзілі ад гаршкоў двух тыпаў.

Меншую групускладалі абломкі вастрадонных ляпных пасудзін, у сценках якіх мелася шмат дамешкау нейкіх раслінных валаконцаў. Гаршкі мелі выпуклыя бакі і крыху завужаны верх, дыяметр якога па брыжу дасягаў 30 см і больш. Паверхні пасудзін яшчэ перад апалам загладжваліся шыроказубчастым штампам, ад чаго засталіся выразныя паралельныя рысы. Літаральна кожны гаршчок пад самым брыжам быў аздоблены шэрагам глыбокіх круглых копачак. Арнаментацыя ж сценак была сціплая — розныя паглыбленні, адбіткі грабянца, пракрэсленыя рысы. Значныя паверхні былі без арнаменту, а некаторыя гаршкі зусім не мелі ўпрыгожванняў.

Значна часцей на паселішчы «Лысая Гара» сустракаліся абломкі пасудзін іншага вырабу і арнаментацыі. Гэта былі гаршкі таксама вастрадонныя, але ў верхняй частцы яны мелі завужаную шыйку і расшыраны ў выглядзе лейкі брыж. У сценках прасочваюцца дамешкі пяску, раслінных рэшткаў і жарствы. У некаторых чарапках маецца толькі жарства.



*Гліняныя гаршкі з стаянак Панямоння каля вёсак Русакова і Апечкі.*

Усе пасудзіны добра абпалены, моцныя, паверхні іх загладжаныя. Праўда, знойдзена і пэўная колькасць чарапкоў з заштрыхоўкай.

Такія гаршкі гусцей пакрываліся арнаментам. Гэта былі рады адбіткаў, пракрэсленых рысак, зробленых канцамі розных палачак. Пад брыжамі меліся глыбокія наколкі, ад якіх на супрацьлеглых паверхнях узнікалі ланцужкі бугаркоў.

У адным месцы раскопкі натрапілася цэлае скапленне падобных між сабою чарапкоў. Было такое ўражанне, што ўсе яны ад адной пасудзіны. Сталі іх склейваць і атрымаўся ладны гаршчок, упрыгожаны пракрэсленай сетачкай.

У раскопках на гэтым помніку разам з фрагментамі керамікі былі знойдзены разнастайныя крамянёвыя вырабы: скрабалкі, разцы, наканечнікі стрэлаў, ножападобныя пласткі і іншыя рэчы. Сярод іх выдзяляліся мікраліты ў выглядзе трапецый, выцягнутых трохвугольнікаў і нажы з выгнутымі лёзамі, трохвугольныя наканечнікі стрэлаў з роўнай і ўвагнутай падставай. Немалую колькасць сярод знаходак складалі крамянёвыя сякеры.

Падобныя знаходкі былі выяўлены і пад час раскопкі іншых неалітычных паселішчаў у басейне Немана. Пры вусці Сэрвачы, там, дзе стаіць невялікая пакінутая электрастанцыя, на поплаве знаходзіцца каля паўдзесятка выспаў. І на кожнай з іх у неаліце было размешчана паселішча. Два з іх — «Трахімавы Кусты» і «Бабінка» — даследаваны і раскаманы. Цікава, што на тутэйшай зямлі найбольш пашырана кераміка першага тыпу, гэта значыць абломкі гаршкоў з дамешкамі ў сценках раслінных рэшткаў. Іх суправаджалі і архаічныя формы крамянёвых вырабаў.

Яшчэ адна вялікая група такіх жа старажытных помнікаў маецца на Шчары між вёскамі Добры Бор і Падгорная Баранавіцкага раёна.

Сярод неалітычных паселішчаў для дэтальнага вывучэння было выбрана адно, на грудку, пад назван «Гарадок», і раскапана амаль поўнасцю.

Тут было ўскрыта каля тысячы квадратных метраў культурнага пласта. Пры гэтым натрапіліся дзве поўзямлянкі і некалькі гаспадарчых ям. Сабраны былі шматлікія матэрыялы, вельмі блізкія па характару да знаходак на ўжо названых намі помніках. Але ў адрозненне ад «Бабінкі» і «Трахімавых Кустоў» на «Гарадку» амаль выклгачна траплялiся абломкі добра абпаленых гаршкоў з лейкаватымі венцамі.

Сярод крамянёвых прылад працы не было такіх архаічных вырабаў, як мікраліты, затое часта сустракаліся сярпастыя нажы, сякеры з акуратнай апрацоўкай і шліфаваным лязом.

Але бадай-што самым значным неалітычным помнікам у Панямонні з'яўляецца стаянка ля вёскі Русакова Слонімскага раёна, адкрытая мясцовым краязнаўцам В. Р. Супруном. Праўда, рэшткаў жытлаў, тут нам не трапілася, але ў культурным пласце захавалася некалькі агнішчаў, складзеных з перапаленых камянёў. А паміж камянямі — вугольчыкі і попел, перамешаныя з зямлёй, навокал — кавалкі гліняных гаршкоў і прылады працы.

Жыхарамі стаянкі ўжываліся пасудзіны і гладкасценныя і са слядамі загладжвання зубчастым штампам, карацей кажучы, як і на іншых вядомых паселішчах. Але ля Русакова надзвычай багата прадстаўлены іншы тып керамічных вырабаў — танкасценных, добра абпаленых вастрадонных гаршкоў з высокімі лейкаватымі венцамі. Паверхня гаршкоў яшчэ перад апалам старанна загладжвалася канцом пучка травы, ад чаго ўзнікала выразная падгарызантальная заштрыхоўка. Сярод арнаментаў, якімі былі аздоблены верхнія часткі пасудзін, звяртаюць на сябе найбольшую ўвагу розныя кампазіцыі з адбіткаў тарцом вузкай чатырохвугольнай лапаткі.

Чаму ўзніклі такія адрозненні ў матэрыяльнай культуры ўсіх гэтых панямонскіх паселішчаў?

Справа ў тым, што ў раннім неаліце, у IV і пачатку III тысячагоддзя да н. э., ужывалася больш архаічная, слаба арнаментаваная кераміка з раслiннымі дамешкамі ў гліняных сценках, а ў пазнейшы час, у III тысячагоддзі да н. э., гаршкі сталі добра загладжвацца, лепш абпальвацца і набылі характэрную лейкаватую форму венцаў.


*Неалітычная крамянёвая сякера Панямоння.*

Прыкладна ў канцы гэтага тысячагоддзя распаўсюджваецца новы тып керамікі — з заштрыхоўкай на паверхні.

Не адразу ўдалося даведацца, чаму з цягам часу змянялася матэрыяльная культура мясцовага неалітычнага насельніцтва, толькі параўнанне керамікі і крамянёвых вырабаў з матэрыяламі суседніх раёнаў паказала, што змены наступілі ў значнай ступені дзякуючы ўплывам з паўднёвага захаду, з тэрыторый, якія былі заселены ў III тысячагоддзі плямёнамі лейкападобных кубкаў і шарападобных амфар.

Неалітычныя помнікі беларускага Панямоння ўтвараюць нёманскую археалагічную культуру. Плямёны гэтай культуры займалі таксама левабярэжжа верхняй Прыпяці, дзе даследавана вельмі цікавае паселішча ля вёскі Камень Пінскага раёна, землі паўночна-усходняй Польшчы (у межах сучаснай Беласточчыны) і паўднёвай Літвы.

У новым каменным веку значную частку заходняй Украіны і паўднёва-заходняй Беларусі займала культура лейкападобных кубкаў. Яе носьбіты праніклі таксама на тэрыторыі сучаснай Цэнтральнай Еўропы. Назву гэтую культура атрымала па найбольш распаўсюджанай форме посуду — пласкадонных кубках з верхам у выглядзе шырокай лейкі. Вядома, меліся і іншыя пасудзіны — міскі, збанкі, амфары, але найбольш характэрным быў лейкападобны кубак.

Керамічныя вырабы ляпіліся з добра вымешанай гліны і старанна абпальваліся. Мы прывыклі, што на тэрыторыі сучаснай Беларусі большасць неалітычнай керамікі была багата арнаментаваная, а вось жыхары паселішчаў гэтай культуры свае гаршкі ўпрыгожвалі надта сціпла. Элементамі ўзораў з'яўляліся розныя рыскі, адбіткі прамакутнага тонкага штампа і пальцаў.

Прылады працы выраблялiся не толькі з высакаякаснага крэменю, але і з рогу і костак. Плямёны культуры лейкападобных кубкаў былі знаёмыя з металам, ужывалі медныя долаты, сякеры.

Мясцовыя жыхары займаліся земляробствам і жывёлагадоўляй. На гаршках археолагі знаходзяць адбіткі зярнят, на паселішчах — зерняцёркі, ямы з запасамі зерня, крамянёвыя спрацаваныя сярпы. Пад час раскопак натрапілася гліняная фігурка пары быкоў, запрэжаных у ярмо. Пра жывёлагадоўлю сведчаць і знаходкі шматлікіх костак

свойскіх жывёл. Першае па колькасці месца ў статку займалі каровы высакарослай пароды. Апрача іх, разводзілі свіней, авечак і коз. Удзялялася вялікая ўвага развіццю земляробства і жывёлагадоўлі, распрацоўцы залежаў крэменю шахтавым спосабам, выплаўцы медзі. У той жа час у адрозненне ад сваіх суседзяў, плямёны лейкападобных кубкаў не надавалі асаблівай увагі аздобам, не клалі для памершых багатых падарункаў. Цікава тое, што на паселішчах сустракаюцца цудоўна апрацаваныя сколамі сякеры, але шліфоўкі маюцца толькі на лёзах, хоць, безумоўна, тубыльцы з поспехам маглі шліфаваць і ўсю прыладу. Такія сякеры нічым не ўступалі поўнасцю адшліфаваным экземплярам, але на выраб першых затрачвалася менш часу. Як бачым, носьбіты культуры лейкападобных кубкаў рацыянальна падыходзілі да жыцця.

На нашай тэрыторыі найбольш значныя помнікі гэтай культуры вядомы ля вёсак Цытылля Маларыцкага і Наскі Пружанскага раёнаў Брэсцкай вобласці. Рэшткі жыццядзейнасці «лейкападобнікаў» сустракаюцца і ў іншых мясцінах паўднёва-заходняй Беларусі.

У другой палове III тысячагоддзя да н. э. культура лейкападобных кубкаў спыніла сваё існаванне. На захадзе ў гэты час з'явіліся загадкавыя плямёны новай культуры — шарападобных амфар. Дзе яны ўпершыню жылі, як этнічна сфарміраваліся — цяжка сказаць, хоць іх помнікі навуцы вядомы ўжо болей за сотню гадоў. Асноўны свой наступ яны скіравалі на тэрыторыю плямёнаў культуры лейкападобных кубкаў. Гэта, як лічыць большасць археолагаў, і прывяло да заняпаду апошніх.

Беларускія археолагі аж да апошняга часу раскопвал! Неалітычныя паселішчы, дзе знаходзіліся ўжо звычныя абломкі вастрадонных пасудзін, крамянёвыя скрабалкі, разцы, наканечнікі стрэлаў... Па матэрыялах не заўважалася, каб асабліва прыкметна перамяшчалася насельніцтва. Людзі нараджаліся, палявалі на дзічыну, лавілі рыбу і паміралі, пакідаючы месца пад сонцам новым пакаленням. Плямёны ахоўвалі свае межы і не трывожылі чужыя. Тэрыторыя сучаснай Беларусі ўяўлялася яе далёкім тубыльцам зялёным лясным берагам, на поўдзень ад якога разліваўся акіян стэпаў і лесастэпаў і там жылі народы — спакойныя, калі зямля давала багата травы для жывёлы, жорсткія і ваяўнічыя, калі засушлівыя гады прымушалі здымацца з наседжаных родных мясцін.

Непраходныя лясы і балоты Палесся ды вострыя дзіды нашых продкаў спынялі нашэсці на землі сучаснай Беларусі. Вучоных толькі здзіўляла тое, што вельмі мала археалагічных помнікаў народа нёманскай культуры захавалася на крайнім захадзе нашай тэрыторыі.

Якая вялікая роля ў археалагічных адкрыццях іншы раз належыць краязнаўцам! Гэта іх дапытлівае вока часта першым заўважае дзе-небудзь на рачным беразе костку маманта, гліняны чарапок. І аказваецца, што там пад тоўшчай зямлі пахавана ўнікальная палеалітычная стаянка або рэшткі старажытнага горада.

Чэрвеньскім днём 1971 года мы атрымалі, напэўна, вельмі дзіўную для паштароў тэлеграму: «Знайшоў скапленне костак, пляцоўка вымашчана рэбрамі, абломкамі арнаментаваных пасудзін». Паведамленне было з Краснасельскага пасёлка Ваўкавыскага раёна ад мясцовага краязнаўца М. У. Верацілы.

І вось мы на месцы знаходак.

Больш за сотню тысяч гадоў таму назад ледавік прывалок сюды, на сучасны левы бераг ракі Рось, магутны крэйдавы адорвень. Такія цяпер распрацоўваюць для патрэб прамысловасці. Адорвень пакрыты невялікім пластом глебы і жвіру, таму крэйду перад здабычай «зачышчаюць» бульдозерам!. На падобным зачышчаным месцы за 2 км ад ракі і знайшоў Міхаіл Уладзіміравіч тое, пра што паведамляў у тэлеграме. Дарэчы, на гэтым адорвені знаходзяцца і вядомыя краснасельскія крэмнездабываючыя шахты.

Сярод белай, аж вачам балюча, крэйды — цемнава» тыя плямы: патрушчаныя ланцугамі бульдозера чарапкі гліняных пасудзін і косткі. Што гэта — магілы, зямлянкі?

Пачаліся раскопкі, якія і дазволілі зразумець характар адкрытага помніка. Перад намі былі рэшткі старажытнага могільніка з чатырма пахавальнымі ямамі. Тры з іх былі моцна пашкоджаны, а чацвёртая захавалася амаль поўнасцю.

Дзень пры дні мясцовыя школьнікі сталовымі нажамі і пэндзлямі расчышчалі пахаванні. Праца была нялёгкая. Лета выдалася гарачае. Да таго ж ямы былі па самыя берагі напоўненыя косткамі. Тое, што выявілася пасля расчысткі, пераўзышло ўсе нашыя спадзяванні. Магіла, якая захавалася некранутай, мела прамавугольную форму і памеры прыблізна 2 X 4 м. У ёй было каля дзесятка шкілетаў свойскіх жывёлін: быкоў, авечак, коней. Шкілеты ляжалі ўздоўж сценак, нагамі да цэнтра ямы. Як вядома, у крэйдзе добра захоўваюцца арганічныя рэчывы; таму ўсе шкілеты аказаліся цэлымі, хоць ты іх выстаўляй у заалагічным музеі.

Сярод костак грудной клеткі аднаго з быкоў удалося знайсці два масіўныя касцяныя наканечнікі — цэлілі ў сэрца, але адной стралы аказалася мала. Між шкілетаў стаялі чатыры пласкадонныя гаршкі, вылепленыя ўручную. Арнаменту на іх амаль не было, толькі пад самым брыжам і на шыйцы — плыткія адбіткі пальцаў і рыскі. Гаршкі



*Гліняныя гаршкі культуры шарападобных амфар. Пасёлак Краснасельскі.*

пры раскопках даводзілася змацоўваць клеем і высушваць. Ля ўсходняга краю ямы ляжаў валун, на ім была сківіца быка. У магіле таксама ўдалося выявіць невялікія крамянёвыя адшчэпы і кавалачак бурштыну.

Усё быкі, авечкі, свінні, а дзе ж чалавек?

Некалькі абпаленых чалавечых костак пашчасціла знайсці ў суседняй магіле. Родзічы нябожчыка ў свой час паленаваліся выкапаць глыбейшую яму, таму бульдозер пакінуў нам толькі з дзесятак патрушчаных костак і пару гліняных чарапкоў, аздобленых адбіткамі тонкага прамавугольнага штампа. Ля краю пахавання — рэшткі каменнай выбрукоўкі.

Больш пашанцавала з трэцяй магілай. Яна была меншая, чым першыя дзве, і тут сярод костак ляжалі абломкі амфары. Хоць пасудзіна не ўяўляла сабой грэчаскай танкасценнай арыстакраткі з лебядзінай шыяй і завостраным донцам, аднак і наша знаходка мела сваю пэўную прыгажосць — пукатыя бакі падымаліся над плоскім донцам, крутыя плечыкі корпуса пераходзілі ў стромкую шыйку з невялікімі вушкамі на ёй. Пасудзіна была арнаментавана хвалістымі адбіткамі шнура.

Перад намі быў несумненны старадаўні могільнік. Але народу якой археалагічнай культуры ён належаў? Кераміка не мела ніякага падабенства да вядомых ранейшых знаходак. Не было на тэрыторыі Беларусі і аналогій такога пахавальнага абраду. У той жа час знаходкі з пасёлка Краснасельскага вельмі нагадвалі матэрыялы, знойдзеныя на тэрыторыі Польшчы і паўночна-заходняй Украіны. Прыйшлося ўзяцца за спецыяльную літаратуру, і ўсё стала зразумела: перад намі быў тыповы могільнік носьбітаў культуры шарападобных амфар, якая так названа па характэрнай форме посуду. І тады мы перасталі здзіўляцца, чаму тут, у гэтых пахаваннях, столькі шкілетаў свойскай жывёлы.

Тутэйшае насельніцтва займалася пераважна жывёлагадоўляй, ад чаго ў асноўным і залежала яго існаванне. Мабыць, свойскія жывёлы вельмі цаніліся, таму іх хавалі ў магілах людзей. Іншы раз у ямах адначасова трапляліся шкілеты чалавека і жывёл. Перад тым, як пахаваць нябожчыка, яго часам абпальвалі на вогнішчы або пасыпалі

вохрай. Гэта павінна было дапамагчы нябожчыку «ўваскрэснуць на тым свеце».

Вывучаючы могільнікі культуры шарападобных амфар у Польшчы і Германіі, археолагі даведаліся і шмат іншага аб рытуальных абрадах у прадстаўнікоў гэтай культуры. Напрыклад, нябожчыка павінен быў суправаджаць не толькі жывёльны статак — падначаленых ранейшаму гаспадару людзей таксама забівалі і складвалі ля ног памёршага.

На вялікай прасторы ад ГДР да паўночна-ўсходняй Украіны сустракаецца шмат могільнікаў гэтых плямёнаў, аднак іх паселішчаў знойдзена пакуль што мала. Мабыць, людзі не асабліва доўга жылі на адным месцы: жывёлагадоўчая гаспадарка вымагала вандровак.

Хоць на захадзе рэспублікі археолагі заўважалі сляды побыту прышэльцаў, але знаходка ля пасёлка Краснасельскага была першым несумненным помнікам культуры шарападобных амфар на тэрыторыі Беларусі.

Дарэчы, у тым жа 1971 годзе ў суседнім Бераставіцкім раёне, ля вёскі Малыя Едкавічы натрапіліся рэшткі яшчэ іншага могільніку гэтай культуры. У найбольш цэлай магіле на каменнай пліце, абстаўленай меншымі камянямі, знаходзіўся шкілет нябожчыка, косткі свінні, чатырохвухая амфара. На разбуранай экскаватарам частцы могільніку былі сабраны дзесяткі абломкаў гаршкоў, каменныя і касцяныя вырабы і фігурная спражка ад паса.

Знаходка могільнікаў на Гродзеншчыне таксама, як і некаторыя знаходкі з Брэстчыны, сведчаць, што насельніцтва культуры шарападобных амфар пранікла і на крайні захад тэрыторыі сучаснай Беларусі, прыблізна да басейнаў Росі і Ясельды. На Зальвянцы, што цячэ на ўсход ад Росі, ужо не сустракаюцца сляды прышэльцаў, тут густа размешчаны рэшткі паселішчаў мясцовага насельніцтва нёманскай культуры, але далей на захад яны трапляюцца значна радзей. Мяжой уладанняў гэты* дзвюх груп плямёнаў стаў водападзел між Россю і Зальвянкай, а паляўнічыя сцежкі ў мясцовых лясах ператварыліся ў сцежкі вайны.

Аднак ужо ў пачатку II стагоддзя да н. э. «шарападобнікі» падпалі пад уплыў тубыльцаў і новых прышэльцаў з поўдня — плямёнаў культуры шнуравой керамікі — і змяшаліся з імі.

## НА БЕРАГАХ ДНЯПРА, ПРЫПЯЦІ І ДЗВІНЫ

Палессе!..

У каго з вас пры вымаўленні гэтага слова не ўзнікаюць асацыяцыі з бясконцымі балотамі, камарамі, пясчанымі выспамі, мохам ля камлёў старых ялін. Шырокая Прыпяць цячэ між зялёных паплавоў на ўсход, да Дняпра, а злева і справа ад яе гіганцкімі коскамі і дужкамі рассыпалася безліч затокаў і старыц. Веснавой паводкай усе паплавы заліваюцца вадой, і тады рака нагадвае сабой мора, толькі дзесьці далека на пясчаных буграх ледзь прыкметна сінее лес. Сушэйшыя месцы з вёскамі, вёсачкамі на іх ператвараюцца тады ў сапраўдныя астравы, між якімі толькі адна сувязь — на чоўне.

Здаўна прывыклі думаць, што Палессе — гэта нейкая закінутая зямля, амаль зялёная пустыня, дзе толькі плодзяцца жабы, казуркі і дзікія звяры, а людзей там можна на пальцах пералічыць. Нават не так даўно некаторыя вучоныя безапеляцыйна заяўлялі, што ў старажытнасці Палессе ўвогуле было не заселена чалавекам.

Але калі тут пачаліся сапраўдныя археалагічныя даследаванні, то выявілася зусім іншае — гэты край яшчэ ў глыбокай старажытнасці быў заселены людзьмі, прытым даволі густа.

У чым жа найбольшую патрэбу меў першабытны чалавек? У дзічыне і рыбе. А ў лясах і балотах Палесся, у шматлікіх прыпяцкіх затоках і старыцах усяго гэтага было хоць адбаўляй. Таму і чалавеку тут хапала ежы. Амаль на кожным грудку ўздоўж Прыпяці сустракаюцца рэшткі неалітычных паселішчаў. Археолаг і тут знаходзіць абломкі гаршкоў, крамянёвыя вырабы, рэшткі агнішчаў...

Як мы ўжо казалі, заходнюю частку Палесся ў новым каменным веку засялялі плямёны нёманскай культуры. На ўсходнім Палессі жылі плямёны, родасныя панямонскім. Іх помнікі ствараюць асобную, так званую днепраданецкую культуру. Такая назва яе паходзіць ад таго, што паселішчы гэтага народа займалі вялікую тэрыторыю ад сучаснай Міншчыны на поўначы і аж да Дняпроўскіх парогаў на поўдні, ад правабярэжных прытокаў Дняпра аж да басейна Дона.

У раннім неаліце, гэта значыць, у IV тысячагоддзі і першых стагоддзях III тысячагоддзя да н. э., між нёманскай і днепраданецкай культурамі было шмат чаго агульнага. Але з сярэдзіны III тысячагоддзя да н. э. пачынаюць выразна праяўляцца і адрозненні. У той час тэрыторыя днепра-данецкай культуры значна скарацілася, бо паўднёвую яе частку ледзь не да сучасных межаў БССР занялі іншыя плямёны, якія прыйшлі з поўдня. Адчуваўся націск суседзяў і на ўсходніх граніцах культуры. У сваю чаргу на захад тэрыторыі

сучаснай Беларусі прасочваюцца ўплывы культур лейкападобных кубкаў і шарападобных амфар. Такія акалічнасці і прывялі да таго, што ў матэрыяльнай культуры позненеалітычных плямёнаў заходняй і паўднёва-ўсходняй Беларусі ўзніклі адрозненні, якія асабліва назіраліся ў кераміцы.



*Гліняныя гаршкі з Ніжняй Прыпяці. (Юравічы.)*

На ніжняй Прыпяці, таксама як і на поўдні сучаснай тэрыторыі Гомельшчыны, у раннім неаліце ўжываліся вастрадонныя пасудзіны з простымі сценкамі. Сціплая арнаментацыя складалася з адбіткаў грабянца, розных плыткіх копачак і пракрэсленых рысак. Як і на Немане, брыж гаршкоў падкрэсліваўся нязменным шэрагам глыбокіх круглых ямак. У пазнейшы час пры лепцы посуду ў гліну ўсё радзей дабаўлялі раслінныя рэшткі. Іх пачалі замяняць пяском або жарствой. Гаршкі, хоць паранейшаму вастрадонныя, пачалі набываць большую ўскладненасць формы — брыж крыху адгінаўся вонкі, з'явіліся шыйка і рабрыстасць на корпусе. У арнаментах значнае месца пачалі займаць наколкі канцом розных штампаў — палачак, пласткоў...

Сярод прылад працы ў мясцовага насельніцтва былі шырока распаўсюджаны розныя скрабалкі, нажы, разцы, сякеры... Ужываліся трохвугольныя наканечнікі стрэлаў, хоць сустракаліся, асабліва на ўсходзе, і лістападобныя экземпляры, У познім неаліце з'явіліся шліфавальныя прылады.

Каля пасёлка Юравічы Калінкавіцкага раёна ў левабярэжжы Прыпяці размешчана старыца даўжынёй больш за кіламетр, злучаная з Прыпяццю рэчкай Закотай. Гэты заціпшны і рыбны вадаём мясцовыя палешукі называюць возерам, як, дарэчы, называюць і амаль кожную рачную старыцу.

Але справа не ў самім возеры, а ў пясчаных выспах, якія прытуліліся вакол яго. Іх тут шмат, і амаль на кожнай захоўваюцца сляды існавання першабытных людзей. Там, дзе старыца звужаецца і непрыкметна пераходзіць у рэчку Закоту, знаходзяцца дзве выспы з найбольш багатымі рэшткамі жыццядзейнасці неалітычнага чалавека. Гэтыя пункты ў археолагаў атрымалі па назве возера ўмоўныя назвы «Ліцвін-1» і «Ліцвін-2».

Пад час раскопак гэтых паселішчаў было знойдзена некалькі тысяч абломкаў разнастайных гаршкоў, больш паўтысячы апрацаваных крэменяў. Тут жа меліся рэшткі наземных жытлаў з агнішчамі, складзенымі з камянёў. Асаблівую цікавасць уяўляе адкрыццё поўзямлянкі авальнай формы, прыблізныя памеры якой былі 5x3,5 м, а глыбіня да 1 м.

Хоць у паўднёва-ўсходняй Беларусі даследавалася яшчэ некалькі цудоўных помнікаў днепра-данецкай культуры, але найбольш яны вядомы на Украіне, дзе іх грунтоўна вывучалі. Праца ўкраінскіх вучоных дазволіла значна папоўніць звесткі па гэтай культуры. У прыватнасці, там былі знойдзены старажытныя могільнікі. Памёршых закопвалі ў выцягнутым становішчы, пасыпаўшы вохрай. З касцямі ляжала шмат розных падвесак з зубоў жывёл, касцяных пласткоў — відаць, жыхары паселішчаў днепра-данецкай культуры любілі багата аздабляць сваю вопратку і цела.

Ёсць сведчанні і таго, што ім, апрача палявання, былі вядомы рыбацтва, збіральніцтва і вытворчыя формы гаспадарання. На некаторых помніках выпала знайсці косткі свойскага быка, свінні і сабакі, матыкі і чарапкі посуду з адбіткамі ячных зярнят.

Верхняе Падняпроўе ў неаліце было кутком, куды пранікалі розныя культурныя ўплывы. Але справа, напэўна, не заўсёды абмяжоўвалася толькі ўплывамі...

Неалітычныя матэрыялы тут знаходзілі даўно, яшчэ ў мінулым стагоддзі. З таго часу выяўлена каля сотні неалітычных помнікаў.



*Гліняны гаршчок з Падняпроўя, Хадосавічы Рагачоўскага раёна.*

Некаторыя з іх нават раскопваліся. Але ў мясцовай культуры пакуль што шмат чаго маецца незразумелага і невядомага.

На верхнедняпроўскіх неалітычных паселішчах сустракаецца разнастайная кераміка: гаршкі з вострым або закругленым дном, з простымі або крыху зведзенымі ўнутр верхнімі часткамі сценак. Часамі на пасудзінах меліся патаўшчэнні — каўнерыкі. Дамешкі ў гліне, з якой ляпіліся гаршкі, былі розныя — трава, пясок, жарства. Сценкі гатовых керамічных вырабаў упрыгожваліся рознымі грабянцовымі адбіткамі, ямкамі, наколкамі, насечкамі. На некаторых вырабах сустракаюцца мала вядомыя для асноўнай тэрыторыі Беларусі рысы — паверхні спрэс арнаментаваліся глыбокімі круглымі або падоўжанымі ямкамі, адбіткамі шыраказубага штампа. Не менш характэрнымі былі і так званыя лапкавыя ўзоры— адбіткі канцом палачкі, густа абкручанай ніткай.

Калі ўважліва разглядзець форму пасудзін і яе арнаментацыю, то можна ў іх прыкмеціць рысы і днепраданецкай культуры і культуры ямачна-грабеньчатай керамікі, плямёны якой у неаліце засялялі Волга-Окскае міжрэчча. На Верхняе Падняпроўе рабілі ўплыў і некаторыя іншыя культуры.

Што адметна вылучае мясцовыя помнікі, дык гэта мноства крамянёвых вырабаў і ўвогуле розных расшчапаных крэменяў і абломкаў, якія звычайна бываюць пры вырабе прылад працы. І не дзіўна, бо тут сустракаецца шмат крэмненосных крэйдавых радовішчаў. Мясцовае насельніцтва не адчувала недахопу ў сыравіне, як гэта было, напрыклад, на Ніжняй Прыпяці і асабліва на тэрыторыі Беларускага Паазер'я.

На найбольш даследаваным у Верхнім Падняпроўі помніку — паселішчы Стрэліца ля вёскі Рудня Шлягінская Веткаўскага раёна толькі адных крамянёвых адшчэпаў знойдзена амаль тры тысячы, тут жа ў раскопцы мелася больш за 450 несумненных крамянёвых прылад-скрабалак, нажоў, наканечнікаў стрэлаў.

Калі «Стрэліца» цікава вялікай колькасцю знаходак, то на помніках «Востраў» каля вёскі Залессе Чачэрскага раёна і «Сасонка» ля вёскі Лучын Рагачоўскага раёна, апрача крамянёвых вырабаў і фрагментаў керамікі, знойдзены рэшткі жытлаў. На «Востраве» гэта была нейкая наземная хаціна, унутры якой на паўметровай глыбіні

размяшчалася вогнішча, выкладзенае патрэсканымі камянямі. У «Сасонцы» жытло было некалькі іншае. Яно крыху заглыблялася ў зямлю і мела памеры 3,4Х2,4 м. У яго цэнтры знаходзілася вялікае агнішча. Па краях жытла прасочаны рэшткі шасці слупоў, якія ўтваралі каркас сцен і падтрымлівалі страху.

Неалітычныя помнікі Верхняга Падняпроўя вучоныя аб'ядноўваюць у верхнедняпроўскую археалагічную культуру. Апрача таго, яны мяркуюць, што ў IV і III тысячагоддзях да н. э. сюды пранікалі носьбіты і іншых культур.

Усё беларускае Паазер'е, якое займае поўнач рэспублікі, у неаліце засялялі плямёны з вельмі своеасаблівай культурай. Рэшткі іх паселішчаў вучоныя адкрываюць пераважна ў нізкіх балоцістых мясцінах, а найчасцей у тарфяніках. Усе знаходкі звычайна пакрыты зверху тоўстым пластом торфу. Такія ўмовы ператваралі помнікі ў своеасаблівыя шчыльна закрытыя, як бы закансерваваныя слоікі, дзе, на шчасце археолага, захаваліся не толькі гліняныя чарапкі пасудзін і крамянёвыя прылады, але і вырабы з дрэва, кары, рагоў, костак.

Якое мноства самых разнастайных знаходак чакае тут даследчыка! Ускрывае ён пласт за пластом і быццам чытае інвентарную кніжку Зямлі.

Усё гэта радуе, але засмучае іншае — вельмі ж ужо на нізкіх мясцінах знаходзяцца тут рэшткі паселішчаў, вада літаральна залівае раскопкі, чэрпай яе і чэрпай, калі што хочаш знайсці. Часта бывае ў бліжэйшай рэчцы або возеры вада стаіць вышэй, чым на помніку залягае культурны пласт. У такім разе вадаём і раскопка ператвараюцца ў сазлучаныя сасуды...

Не ўсюды бываюць аднолькавыя ўмовы для раскопак. Напрыклад, капаеш сабе на Немане паселішча каменнага веку на высокім беразе або на якім-небудзь сухім грудку, дзе поплаў, а вакол зеленеюць ці лес, ці поле, ці луг. Сонца, птушкі, кветкі — прыгажосць!

А на Паазер'і сядзіш дзе-небудзь на тарфяным балоце і бачыш, як у раскопцы пласт паступова пачынае ператварацца ў нейкую брудную мешанку і рабочыя не паспяваюць вычэрпваць ваду. Глянеш убок — як вокам акінуць хмызняк, асіны чэзлыя, трава балотная ледзь не ў рост чалавека... Зірнеш пад ногі — нейкіх казурак незлічонае мноства поўзае, а то і гадзюка бачна на купоне. Скруцілася і быццам пільнуе таямніцы тысячагоддзяў.

У сонечны дзень балота хутка выпараецца і робіцца душна, як у лазні. Пачынаеш пацець, і тут над табой з'яўляецца хмара куслівых аваднёў... У рэчцы паратунак слабы: у ёй шмат гразі, а калі пракладзены канал на асушаным тарфяніку,— яна плыткая.

Характер ранняй неалітычнай культуры на тэрыторыі паўночнай часткі сучаснай Беларусі можна ўявіць, прагледзеўшы матэрыялы з тарфянікавага паселішча ля вёскі Зацэнне Лагойскага раёна.

Гадоў з дзесяць таму назад рашылі асушыць тарфянікі, што паміж вёскамі Ліпкі і Зацэнне. Прыйшлі экскаватары, і праз нейкі час балота было перарэзана сеткай каналаў, а рэчка Цна паглыблена і выпрамлена. Якраз ля новага моста праз Цну, паблізу шашы Барысаў — Плешчаніцы, коўш экскаватара выцягнуў з-пад двухметровай тарфяной тоўшчы нейкія кавалкі струхлелага дрэва, вуголле, косткі, чарапкі глінянага посуду. Ляжалі гэтыя рэчы на паверхні і паступова разбураліся ад сонца s ветру. І напэўна зніклі б яны зусім, каб на іх не звярнуў увагу жыхар Зацэння Сяргей Шубара. Ён сабраў знаходкі і паведаміў у райцэнтр. У сваю чаргу рэдактар лагойскай газеты Б. Сасноўскі напісаў пра адкрыццё ў Акадэмію навук, і праз некалькі дзён на Цне ўжо былі археолагі.

А матэрыял тут быў сапраўды унікальны. Абломкі гаршкоў выглядалі як вельмі старажытныя. Яны былі тонкія, рыхлыя, з дамешкамі травы і тоўчаных ракавін у гліне. Мяркуючы па фрагментах, пасудзіны мелі вострыя донцы і крыху зведзеныя ўверсе сценкі, арнаментаваныя толькі рэдкімі паскамі грабянцовых адбіткаў або плыткіх копачак пад брыжам. Сярод касцяных і рагавых знаходак звярталі на сябе ўвагу долатападобныя прылады з расшчапаных уздоўж тоўстых трубчастых костак, свідраваныя матыкі і канічныя наканечнікі стрэлаў. Крамянёвых вырабаў было адносна мала — скрабалкі, пласткі з рэтушам, некалькі лістападобных наканечнікаў.



*Касцяныя кінжалы з стаянак Зацэнне і Асавец.*

У Зацэнні праводзіліся і некаторыя раскопкі, але капаць тут вельмі цяжка, бо культурны пласт залівaецца тарфяной вадой.

Знойдзеная на гэтым помніку кераміка шмат якімі рысамі нагадвае раннeнеалітычныя матэрыялы з украінскага Падняпроўя, з заходняй Беларусі і паўднёва-ўсходняй Прыбалтыкі. Менавіта ў Прыбалтыцы знойдзены бліжэйшыя аналогіі вырабаў з костак і рагоў.

Больш-менш такая ж, як і ў Зацэнні, кераміка знойдзена ў іншых месцах Паазер'я — ля вёскі Сосенка на

Віліі, Бабінавічы Лёзненскага, Лаўкі Чашніцкага раёнаў. Але паколькі ўсе гэтыя стаянкі на пясках, то там не захавалася знаходак з арганічных рэчываў. Такім чынам, мы маем падставу сказаць, што ў раннім неаліце беларускае Падзвінне, значную частку верхняй Віліі і Бярэзіны Дняпроўскай займалі плямёны з аднолькавай культурай, якая мела шмат агульнага з іншымі тагачаснымі культурамі на тэрыторыях рэспублікі, паўночнай Украіны і паўднёва-усходняй Прыбалтыкі.

Улічваюцы найбольшае падабенства з прыбалтыйскімі матэрыяламі, дзе ў той час былі распаўсюджаны помнікі так званай нарвенскай культуры, мы, хоць і з пэўнай перасцярогай, і сучасную паўночную частку Беларусі ўключаем у яе арэал, вылучаючы тут асобны крывінскі варыянт нарвенскай культуры.

Трэба было даведацца, калі існавалі ў Паазер'і раннeнеалітычныя плямёны. Для гэтага з культурнага пласта паселішча Зацэнне ўзялі вугаль і зрабілі аналіз. І тады аказалася, што чалавек тут упершыню пасяліўся ў сярэдзіне IV тысячагоддзя да н. э., гэта значыць, каля пяці з паловай тысячагоддзяў таму назад.

У III тысячагоддзі да н. э. з ужытку людзей паазерскіх стаянак знікаюць рагавыя свідраваныя матыкі і долатападобныя прылады з трубчастых костак. У гэты час па невядомых яшчэ нам прычынах тутэйшыя жыхары пачынаюць ужываць кераміку, сценкі якой вырaўноўваліся малаточкамі. У арнаментацыі гліняных вырабаў грабянцовыя адбіткі адыходзяць на другі план, саступаючы месца розным насечкам, наколкам і нават пракрэсленым рысам.

З канца III — пачатку II тысячагоддзя ў «гаршкалепнай» справе на тэрыторыі сучаснага Паазер'я зноў наступаюць змены. Асартымент керамічных вырабаў павялічыўся: апрача гаршкоў, з'явіліся міскі, кубкі, мініяцюрныя пасудзінкі. Сценкі посуду пачалі густа штрыхаваць, зверху наносіўся арнамент з частых паскаў адбіткаў розных штампаў, завостраных палачак, пласткоў, грабянца, трубчастых костак. У гэты час сустракаюцца і гіласкадонныя гаршкі, арнаментаваныя спрэс або толькі ўверсе.

Тарфянікавыя помнікі III і II тысячагоддзяў характарызуюцца незвычайным багаццем рэчаў з рога, костак, дрэва. Але пералічваць іх не будзем, бо менавіта пра гэтыя знаходкі мы ў асноўным і гаварылі, калі характарызавалі матэрыяльную культуру неалітычнага насельніцтва на сучаснай тэрыторыі нашай рэспублікі.

Важна адзначыць, што ў першай палове II тысячагоддзя да н. э. сюды пранікаюць моцныя ўплывы з Падняпроўя. Гэта тлумачыцца перасяленнем на поўнач часткі дняпроўскага позненеалітычнага насельніцтва. Крыху пазней тут з'явіліся і плямёны культуры шнуравой керамікі.

Калі матэрыялы III тысячагоддзя ўсё яшчэ маюць характэрныя рысы нарвенскай культуры, то для першай паловы II тысячагоддзя археолагі палічылі патрэбным Ьылучыць у нашым Падзвінні асобную паўночна-беларускую культуру, пачаткі якой адносяцца яшчэ да новага каменнага веку, а далейшае развіццё праходзіла ўжо ў наступную эпоху — бронзавым веку.

Помнікі нарвенскай і паўночна-беларускай культур на Паазер'і трапляюцца паўсюдна, але найбольш вядомыя знойдзены на Крывінскім тарфяніку якраз на мяжы Сенненскага і Бешанковіцкага раёнаў. Тут паміж вёскамі Галоўск і Асавец спрадвеку было непраходнае балота, праз якое пятляла павольная, але глыбокая рэчка Крывінка.

Ужо ў савецкі час, у 30-х гадах, балота пачалі асушваць. Праз нейкіх 700 м на паўночны захад ад Галоўска землякопы сустрэлі рэшткі неалітычнага паселішча. Сабраныя матэрыялы — некалькі гліняных чарапкоў і костак трапілі да вядомага нашага балатазнаўца У. С. Дактуроўскага, а затым былі перададзены археолагу К. М. Палікарповічу, які пазней пачаў даследаваць помнік. Раскопкі праводзіліся ў 1934 і 1939 гадах і далі шмат цікавых матэрыялаў, але калекцыі ў час вайны былі вывезены ў Германію, а назад вярнуліся толькі ў нязначнай колькасці.

Пасля вайны раскопкі працягваліся. За ўвесь час даследавання помніка было раскапана больш як 500 квадратных метраў і атрымана каля 10 000 розных знаходак — керамікі, вырабаў з костак, рога, дрэва і каменю.

У 1966 годзе непадалёку ад вёскі Асавец на Крывінскім тарфяніку было адшукана яшчэ адно падобнае паселішча. Яно дало надзвычай многа цікавых знаходак, у тым ліку і рэчаў мастацтва — скульптурак, гравіровак на кераміцы, розных упрыгожванняў. На асавецкім помніку ўжо каторы год даследуюцца і рэшткі старадаўняга драўлянага жытла.



*Рагавыя сякеры. (Асавец.)*

Але, як і на ўсіх тарфяніках, частка культурнага пласта на помніках ля Крывінкі залягае ніжэй узроўню вады ў рэчцы. Гэта вельмі ўскладняе раскопкі. Пры вывучэнні асавецкага паселішча аднойчы адбыўся такі выпадак. 'Даследчыкі вычарпалі ваду з раскопкі, зачысцілі яе дно, знялі тарфяны пыл з драўляных канструкцый і вечарам пайшлі адпачываць у свой лагер. Вярталіся раніцой і вачам не верылі — раскопка аж па самыя краі напоўнілася рудой вадой, на паверхні якой плавалі рэшткі калоў, абломкі слупоў і іншыя часткі пабудовы, да якіх нават рукой дакрануцца баяліся, каб не зрушыць з месца.

А здарылася гэта таму, што пры вытоку Крывінкі з Сенненскага возера адкрылі шлюз,вада ў рэчцы паднялася і зусім затапіла нашу раскопку... Добра, што ў папярэдні дзень паспелі замаляваць драўляныя канструкцыі.

Дык можа і сапраўды на Паазер'і ў каменным веку жылі нейкія дзіўныя людзі, якія чамусьці любілі сяліцца ледзь не ў самай вадзе? Таямніцу дапамаглі разгадаць геолагі. У 111 тысячагоддзі да н. э. клімат на тэрыторыі Беларусі быў значна сушэйшы, чым цяпер. А калі выпадала менш дажджоў, то і ўзровень вады ў вадаёмах быў ніжэйшы. Таму ў мясцінах, дзе сёння балота або бераг возера, у неалітычны час меліся сухія і зручныя для засялення ўчасткі зямлі. У II тысячагоддзі да н. э. колькасць ападкаў павялічылася, больш паўнаводнымі сталі рэкі і азёры, утварыліся новыя балоты на значных плошчах.

Але гэта, зразумела, не быў нейкі там біблейскі патоп «за сорак дзён і начэй». Змены берагавой лініі адбываліся вельмі павольна. Людзі пастунова пераносілі сваё жытло на вышэйшыя ўчасткі, а рэшткі ранейшых паселішчаў апынуліся ў вадзе.

Праходзілі сотні гадоў. Плытчэйшыя мясціны вадаёмаў зарасталі, торф пакрыў рэшткі жыццядзейнасці чалавека.

Хоць увільгатненне клімату было найбольш значным менавіта на Паазер'і, але яно адбывалася і на астатняй тэрыторыі сучаснай Беларусі. Справа ў тым, што за межам! апошняга абледзянення., г. зн. у басейнах Дняпра,

Прыпяці і Немана, ужо існавала развітая сістэма вадасцёку. Таму тут амаль і не сустракаецца тарфянікавых помнікаў каменнага

веку. А шкада, бо толькі на такіх аб'ектах можна знайсці найбольш поўны асартымент рэчаў, якімі карысталіся старадаўнія жыхары Беларусі.



*Касцяная аздоба. (Асавец.)*

У 1223 годзе ў бітве на Калцы воіны ўсходнеславянскіх княстваў упершыню скрыжавалі свае мячы з мангольскімі шаблямі. Былі ў той незабыўнай бітве і нашы продкі. У 1238 годзе татара-мангольскія орды ўварваліся і на тэрыторыю Беларусі. Пачалася крывавая барацьба за свабоду і незалежнасць.

Даследаванні археолагаў сведчаць, што гэта было далека не першае з'яўленне выхадцаў з Азіі на нашых землях. За тры з паловай тысячагоддзі да нашэсця хана Батыя тэрыторыя сучаснай Беларусі была месцам, куды пранікалі іншыя людзі з Усходу.

Раскопваючы стаянку на беразе Скемы — маляўнічай пратокі паміж Нараччу і Мястрам, нам удалося знайсці абломкі таўстасценных ляпных гаршкоў, арнаментаваных грабянцовымі адбіткамі і ямкамі, Такія матэрыялы на Беларусі давялося ўбачыць упершыню. Яны сведчылі аб тым, што на Мядзельшчыне напаткаліся сляды невядомай тут археалагічнай культуры. Праўда, у Літве, Латвіі, Эстоніі, Ленінградскай вобласці вучоныя ўжо знаходзілі рэшткі паселішчаў, на якіх сустракаліся абломкі добра абпаленых гаршкоў мехападобнай формы з акруглымі донцамі. Тубыльцы з зайздросным пастаянствам упрыгожвалі свае пасудзіны гарызантальнымі паскамі адбіткаў шыраказубага штампа і глыбокіх круглых ямачак. Сярод крамянёвых прылад працы найбольш характэрнымі былі наканечнікі стрэлаў у выглядзе вярбовага ліста.

Улічваючы характар керамічных вырабаў, археолагі сталі ўмоўна называць культуру такіх помнікаў культу рай тыповай грабеньчатаямачнай керамікі. Чаму менавіта «тыповай»? Таму, што на іншых тэрыторыях сустракаецца кераміка з менш выразнай арнаментацыяй — «нетыповая».

Які ж народ жыў на гэтых паселішчах, каму належалі такія гаршкі? Што ён быў не мясцовага паходжання, вядома, бо да

сярэдзіны III тысячагоддзя да н. э. у паўднёва-ўсходняй Прыбалтыцы, як і на тэрыторыі Беларускай Поўначы, жылі плямёны з зусім іншай культурай.



*Фрагменты гаршкоў культуры тыповай грабеньчата-ямачнай керамікі з стаянкі каля вёскі Мікольцы Мядзельскага раёна.*

Адкуль з'явіліся прышэльцы? Археолагі сцвярджаюць, што з паўночнага ўсходу. Адсюль носьбіты грабеньчата-ямачнай керамікі пачалі распаўсюджвацца на тэрыторыі сучаснай Эстоніі, Латвіі і Літвы. Яны нават дасягнулі нізоўяў Нёмана.

У Прыбалтыцы знойдзены пахаванні гэтага часу. Аналіз чалавечых касцякоў паказаў, што адна частка прышэльцаў мела выразныя мангалоідныя рысы, другая — еўрапеоідныя. Сустракаліся і змешаныя тыпы. Такім чынам, у расавых адносінах прышэльцы былі змешаныя, і сярод іх нярэдка трапляліся асобы, што па свайму знешняму выгляду былі вельмі падобныя на тых, з якімі нашы продкі праз чатыры з паловай тысячы гадоў сустрэліся на Калцы.

Даследаванні на поўначы Беларусі паказалі, што тып стаянкі ля Скемы не адзінкавы на гэтай тэрыторыі. Праз некаторы час былі знойдзены помнікі культуры тыповай грабеньчата-ямачнай керамікі ля вёскі Малмыгі Вілейскага раёна, на Лепельскіх і Ліснянскіх азёрах.

У Прыбалтыцы такіх помнікаў шмат, бо гэтая культура ў другой палове III тысячагоддзя да н. э. тут мясцінамі з'яўлялася дамінуючай, і асабліва ў Эстоніі.

На Віцебшчыне і паўночнай Міншчыне было наадварот — на берагах азёр і рэк па-ранейшаму жылі мясцовыя плямёны нарвенскай культуры, а там-сям знаходзіліся раскіданыя рэдкія паселішчы нешматлікіх прышэльцаў. Гэта была апошняя хваля аднаго з «вялікіх перасяленняў» старажытнасці, якая, аслабленая, дакацілася да рэчак і азёр, што на сучаснай Віцебшчыне, і захлынулася ў мясцовым этнічным моры.

Пакуль што цяжка гаварыць аб узаемаадносінах паміж тубыльцамі і плямёнамі прышэльцаў. Напэўна былі і сутычкі, бо мясцовае насельніцтва не магло абыякава адносіцца да перасяленцаў, якія пачалі паляваць і лавіць рыбу ў тутэйшых лясах і азёрах. Але з цягам часу новыя людзі змяшаліся з носьбітамі нарвенскай культуры і поўнасцю асіміляваліся.

## ЯК НА ЭКРАНЕ МАШЫНЫ ЧАСУ.

Паспрабуем цяпер у агульных рысах сказаць пра каменны век на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Занятак гэты не з лёгкіх. Уявіце сабе працу рэстаўратара старадаўняй фрэскі: на сценах засталіся толькі невялікія фрагменты пафарбаванай тынкоўкі, таму малюнак ледзь згадваецца і рэстаўратару даводзіцца ў друзе пад сцяной вышукваць патрэбныя кавалачкі, падклейваць іх да фрэскі, і вось ужо праступаюць дэталі, угадваецца кампазіцыя. Але многіх кавалкаў яшчэ не хапае і невядома, ці будуць яны калі-небудзь знойдзены — можа, беззваротна зніклі, здрабніліся ў пыл.

Вось так і з агульнай карцінай каменнага веку. Мы ўжо ведаем яго этапы, улавілі напрамак развіцця, пазнаёміліся з сутнасцю цэлага шэрагу культур, якія пакінулі нашы далёкія продкі. Але засталося шмат чаго яшчэ невядомага. І нявысветленых, загадкавых пытанняў у археалогіі засталося, мусіць, не менш, чым пытанняў вырашаных. Але навука няспынна развіваецца, і новыя адкрыцці кожны год запаўняюць існуючыя пустоты ў нашых ведах. Праўда, новыя адкрыцці адначасова, бывае, нараджаюць і новыя пытанні, але яны ўжо, як правіла, не па кардынальных праблемах, а па дэталях. Гэта як на той фрэсцы: якую форму мела вуха ў адной з фігур або ў што гэтая асоба была абута.

Дык вось. Націснем пускавую кнопку на машыне часу. Сачыце за экранам!

А на экране нічога не відаць, быццам хто яго засланіў. Падкруцім дальнамер. Ды гэта ж валасаты насарог! Вось ён ужо бачны зводдаль — стаіць на беразе нейкай вельмі шырокай ракі і п'е з яе

ваду. Тырчаць у жывёліны на носе два вострыя рогі — адзін з метр даўжынёй, другі меншы. Пагрозліва зіркаюць злосныя вочы. Не, лепей з ім не сустракацца на адной сцяжыне.

А за пясчаным берагам падымаецца густы сасновы бор. І каб не гэты насарог, можна было б у першы момант падумаць, што на экране сучасны бераг Дняпра недзе пад Лоевам. Але на хранометры ўнушальны лік—

100 000 гадоў таму назад. А рака — старажытны Дняпро, або Пра-Дняпро, як яго цяпер называюць геолагі.

Блішчаць на сонцы дробныя рачныя хвалі. На небе кучаравяцца воблакі. Адчуваецца спёка. А насарог усё п'е. Колькі ж яму трэба той вады?




*Палеалітычныя і важнейшыя мезалітычныя стаянкі Беларусі.*

*◊—палеалітычныя: 1 — Бердыж, 2 — Юравічы; Δ — мезалітычныя: 1 Кавальцы, 2 — Пужычы, 3 — Зблагны, 4 — Беліца, 5 — Бурносы, 6 — Морына, 7 — Нясілавічы, 8 — Чарэшля, 9 — Дабрынёва, 10 — Бабровічы, 11 - Міхневічы, 12 — Крумплева, 13 — Пятроўцы, 14 — Нова-Лукомль, 15 — Крыжы, 16 — Міраслаўка, 17 — Журавель, 18 — Гайкоўка, 19 — Кісцяні, 20 — Жыхаў, 21 — Воранаўка, 22 — Аношкі, 23 — Рудня Споніцкая, 24 — Прылукі, 25 — Зарэчча, 26 — Опаль, 27 — Моталь, 28 — Заазер'е, 29 — Дарашэвічы, 30 — Юравічы, 31 — Беласарока; Т Т — паўднёвая мяжа апошняга абледзянення.*

Не, з такімі тэмпамі мы мала што ўбачым. Трэба пераключаць хуткасць і павялічваць перспектыву.

І вось на экране ўжо велізарная панарама — ад Балтыйскага мора аж да ўкраінскіх стэпаў і ад вярхоўяў Волгі да Віслы. І спрэс суцэльная зеляніна, толькі, як артэрыі на чалавечай руцэ, малапрыкметна сінеюць тонкія жылкі рэк.

Сярэдняе Падняпроўе, Прыкарпацце і басейн Дзясны заселены першабытнымі людзьмі. Рэдкія паселішчы ў адзін ці два буданы туляцца на ўзлесках па рачных берагах. Дымяцца вогнішчы. Нейкія дымкі бачны і на тэрыторыі сучаснай паўднёва-ўсходняй Беларусі. Гэта гарaць цяпельцы, а навокал іх грэюцца каржакаватыя дужыя людзі — неандэртальцы. Вочы ў іх вельмі падобныя на нашы, але якія вяпікія надброўныя дугі, ну, нібы стрэшкі, празмерна пакатыя лбы. Сядзяць першабытныя паляўнічыя, аглядаюць лясную мясцовасць, а ў іх вузлаватых руках крамянёвыя секачы і абсмаленыя доўбні. Можа тут дзе былі і іх паселішчы, рэшткі якіх пакуль што не знойдзены археолагамі. Але на экране шмат нейкіх цьмяных плям. Ніяк не разгледзець падрабязнасцей.

На хранометры лікі гадоў зліваюцца ў суцэльную белую стужку, нават стагоддзі мільгаюць — цяжка лавіць воку. Там, дзе паўднёвы бераг Балтыйскага мора, нешта белае пачало засцілаць экран. Гэта — ледавік. Вось ён напаўзае далей на поўдзень, а перад ім шырачэзнай хваляй разліваецца шэра-руды колер з рэдкімі зеленаватымі плямамі — колер тундры і халоднага стэпу.

Ледавік дайшоў амаль да сучаснай Вілейкі і спыніўся. Холад і вечная мерзлата прымусілі людзей адступіць на поўдзень. Пагаслі вогнішчы на тэрыторыях сучаснай Гомельшчыны, Браншчыны.

Але ў больш спрыяльных для жыцця раёнах Еўропы чалавецтва працягвала развівацца. І ў гэтым развіцці адбыліся важныя змены — сфарміраваўся краманьёнец, чалавек сучаснага тыпу.

Як толькі ледавік пачаў раставаць і пацяплела, на паўднёвых і паўднёва-ўсходніх землях цяперашняй Беларусі зноў з'явіліся людзі, Пачалася новая эпоха — эпоха позняга палеаліту.

На хранометры: 26 470 і 23 430 гадоў — на беразе Сожа і Прыпяці ў гэты час існавалі Юравіцкае і Бердыжскае паселішчы познепалеалітычных паляўнічых на мамантаў.

Няма сумнення, што такіх паселішчаў было больш, але рэшткі іншых яшчэ не знойдзены археолагамі.

Штосьці зноў стала дрэнна відаць на машыне часу. Адлюстраванне расплываецца і затым знікае зусім. Толькі мільгаюць лічбы:

20000, 19 000, 18 000. ...І так ледзь не да самага канца палеаліту, бо гэты прамежак часу пакуль што зусім не даследаваны.

...Канец палеаліту і ранні мезаліт.

Зноў зялёны экран. Верхняя яго палова пакрыта безліччу блакітных плям самых розных памераў і формаў— гэта пасляледавіковыя азёры.

У той час паўднёва-заходняя і заходняя тэрыторыі Беларусі былі заселены плямёнамі паляўнічых і рыбакоў, што пакінулі пасля сябе помнікі свідэрскай культуры. «С'відэрцы» займалі таксама значныя тэрыторыі Украіны, Польшчы, нават Чэхаславакіі і Венгрыі.

У канцы палеаліту на наша Панямонне з паўночнага захаду праніклі невялікія групы носьбітаў прыбалтыйска-мадленскай культуры, але яны ў хуткім часе, як кажуць, «растварыліся» сярод мясцовага насельніцтва.

...Перад намі зноў той жа бераг Дняпра, дзе ў пачатку нашага з вамі падарожжа на машыне часу мы бачылі насарога. Зразумела, насарога таго няма. Ды і ўсе насарогі даўным-даўно вымерлі. І сам Днепр стаў некалькі вузейшы, але затое за прайшоўшыя тысячагоддзі ён значна паглыбіў сваё рэчышча, і таму бераг ракі ўздымаецца стромкімі ўступамі тэрас. На верхняй пачынаецца лясны гушчар. Ля самай вады цягнецца шыракаватая стужка пяску з лазняком. У лазняку стаіўся з дзесятак мужчын, узброеных дзідамі і цяжкімі доўбнямі. І пазіраюць мужчыны ўверх, дзе край гушчару. Яны кагосьці чакаюць, некага падпільноўваюць. Чужакоў? Падкручваем далычамер — і ўжо бачны ладны кавалак лесу паўз бераг. Хоць лес і густаваты, але не настолькі, каб не прыкмеціць, як паміж хвой і кустоўя рухаецца ў бок Дняпра доўгі ланцуг старых, жанчын і дзяцей. У іх руках паходні, палкі, бубны. Па адкрытых ратах, па ўзмахах рук з палкамі можна ўявіць, які лямант і грукат стаіць зараз у лесе. І ад гэтага шумліва-вогненнага ланцуга напалоханыя звяры імчаць да рачнога абрыву. А пад ім ужо чакаюць здабычу тыя ўзброеныя мужчыны...

Нам пашанцавала натрапіць на загоннае паляванне, але фіналу яго чакаць не будзем. Гэта — хрып забіваемых звяроў, хруст костак, кроў. А калі які стары дзіксякач у апошнім адчаі паверне на ланцуг загоншчыкаў? ...Бяромся за рэгулятар хуткасці.

У V тысячагоддзі да н. э., а верагодней у яго канцы, на поўдні Беларусі пачаўся новы каменны век. На поўнач неалітычныя традыцыі распаўсюдзіліся крыху пазней — у IV тысячагоддзі.

З'явіліся першыя керамічныя вырабы — гліняныя вастрадонныя гаршкі, паўсюдна ва ўжытку распаўсюдзіліся крамянёвыя сякеры.

Паспрабуем падгледзець падрабязнасці.

Запавольваем бег часу і змяншаем перспектыву. Візір кіруем на пэўнае месца, ну, напрыклад, на беразе возера Нарач.

Вось злева на экране водны блакіт з дробнымі грабянцамі пены на хвалях — ветрана. На правым краі таксама сінее возера — гэта Мястра. А між імі цягнецца зялёны пас сухога перашыйку з блакітнай стужкай пратокі ўпоперак. Пратока быццам звязвае азёры-сёстры. На поўдзень яе ашчаціміўся хваёвы векавечны лес, на поўнач, над шырокай балацявінай, уздымаюцца невялікія пясчаныя груды з каржакаватымі рэдкімі хвоямі. Паўз берагі азёр і на балацявіне разлілася серабрыстая зеляніна вербаў і лазы. Шкада, што наша машына часу не ўзнаўляе гук. Мы б, пэўна, пачулі шум ветру ў вяршалінах дрэў і шоргат нарачанскіх хваль аб прыбярэжны пясок.

На вузкай кладцы праз пратоку хлапчук ловіць рыбу. Мусіць, ужо не клюе, бо ён змотвае леску, падымае з травы лазовы пруток з нанізанымі на яго плотачкамі і вузкай сцяжынкай праз лазняк ідзе ў паселішча. Яно невялікае — чатыры буданы, быццам стажкі сена. Яны збудаваны з жэрдак, увагнаных у пясок і звязаных уверсе ў адзін пук. Паверх жэрдак тоўстым пластом прымацаваны трыснёг. У самым версе жытлаў маецца адтуліна, каб выходзіў дым ад агнішча. Але, мабыць, нядаўна быў дождж, таму адтуліны прыкрыты вялікімі кавалкамі бяросты. Летам у жытле не паляць, хіба ў непагадзь.

Зараз на вытаптанай невялікай пляцоўцы між буданоў на кучцы камянёў гарыць ламачча. На агні ў вялікім вастрадонным гаршку, закапцелым і зашмальцаваным да бляску, нешта гатуецца. Старая жанчына сядзіць перад агнішчам і памешвае варыва драўляным апалонікам. Непадалёк маладая жанчына здзірае са шкуры жывёлы мяздру. Дзяўчаты плятуць сетку. У пяску корпаюцца малыя дзеці, брудныя, з парэпанымі нагамі. Усе, хто ў паселішчы, раз-пораз пазіраюць у бок агнішча — час палуднаваць. І толькі мужчыны, якія за буданамі здымаюць шкуру з упаляванага раніцой лася, робяць выгляд, што есці ім яшчэ не хочацца. Лось падвязаны заднімі нагамі да перакладзіны на вярбе. Яго разгалістыя рогі, быццам вялізныя чалавечыя пясці з растапыранымі пальцамі, упіраюцца ў зямлю. Кроў яшчэ капае на траву, і ўзбуджаныя ёю калматыя сабакі мітусяцца вакол мужчын — чакаюць свой кавалак.

А зараз зноў прыспешваем машыну часу.

Крамянёвыя прылады працы ранняга неаліту на тэрыторыі сучаснай Беларусі шмат у чым падобны на вырабы з папярэдняй мезалітычнай эпохі. А вось самыя старажытныя гаршкі, якія тут пачалі ляпіць, некалькі нагадваюць кераміку суседняй Украіны. Там навык

«гаршкалепства» распаўсюдзіўся некалькі раней, і таму лічыцца, што менавіта адтуль і запазычылі яго нашы продкі. Праўда, арнамент і форму керамічнага начыння яны відазмянялі па свайму густу.

У IV і, мабыць, пачатку III тысячагоддзя да н. э. значную частку Усходняй Еўропы засялялі плямёны, матэрыяльная культура якіх была шмат у чым падобная паміж сабой. Вельмі магчыма, што і этнічна яны былі адзіныя.

Стаянкі гэтага насельніцтва вядомы цяпер і пад Ленінградам, і ва ўсходняй Прыбалтыцы, і пад Масквой, і на Кіеўшчыне, і на Беларусі. Спрэе тут жылі паляўнічыя, рыбакі, збіральнікі «дароў лесу, балот і вадаёмаў». У паўднёвых раёнах іх рассялення зарадзілася прымітыўнае матыжнае земляробства і жывёлагадоўля.

У III тысячагоддзі да н. э. у гэтым павольным і «санлівым» (калі падыходзіць з сучаснымі меркамі) гістарычным працэсе адбыліся пэўныя змены. На тэрыторыі сучаснай Беларусі ў тую пару ўжо існавала некалькі археалагічных культур, праўда, роднасных паміж сабой: нёманская на захадзе, днепра-данецкая на Ніжняй Прыпяці, культура Верхняга Падняпроўя. Некалькі адасоблена жылі плямёны Паазер'я. Прыблізна ў сярэдзіне тысячагоддзя на паўднёвы захад сучаснай тэрыторыі рэспублікі пранікаюць носьбіты культуры лейкападобных кубкаў, а на поўначы — невялікія трупы носьбітаў культуры тыповай грабеньчата-ямачнай керамікі.

Пераходны прамежак часу ад новага каменнага веку да бронзавага характэрны новымі значнымі падзеямі. У канцы Ііі тысячагоддзя на крайнім захадзе з'яўляюцца плямёны культуры шарападобных амфар, а ў пачатку II тысячагоддзя ўся тэрыторыя сучаснай Беларусі ўвайшла ў зону распаўсюджання плямёнаў культур шнуравой керамікі, або баявых сякер. Пад напорам «шнуравікоў» дняпроўскае насельніцтва пачало перасяляцца на Паазер'е. Але ўсе гэтыя змены фактычна былі звязаны з наступлением бронзавага веку, з далейшым развіццём земляробства і жывёлагадоўлі, са з'яўленнем першых металічных прылад.

На развітанне зазірнём на бераг Росі дзе-небудзь пад Ваўкавыскам.

Што гэта, чмяліныя соты? У зямлі бачна мноства круглых адтулін. І з адной з іх выпаўзае, здаецца, і сам чмель. Але чмель чамусьці падобны на чалавека, барадатага, у скураных штанах і безрукаўцы, вымазанага ў нешта белае ад доўгіх валасоў на галаве да ліпавых пляцёнак на нагах. Дык гэта ж мы натрапілі на Краснасельскія шахты! А чалавек гэты — шахцёр.




*Неалітычныя культуры на тэрыторыі Беларусі і важнейшыя стаянкі, якія раскопваліся. ≡ — днепра-данецкая культура, /// — верхнедняпроўская культура, \\\ — нёманская культура, III — нарвенская культура, о/о — культура тыповай грабеньчата-ямачнай керамікі, V — культура лейкападобных кубкаў, Θ— культура шарападобных амфар, Δ— стаянкі:*

*1 — Краснасельскі (шахты), 2 — Ніз, 3 — Русакова, 4 — Добры Бор, 5 — Ганчары, 6 — Нясілавічы, 7 — Панямонь, 8 — Ярэмічы, 9 — АпечкI, 10 — Русаковічы, 11 — Сверынава, 12 — Мікольцы, 13 — Малмыгі, 14 — Кастыкі, 15 — Зацэнне, 16 — Лаўкі, 17 — Асавец, 18 — Галоўск, 19 — Бабінавічы, 20 — Гронаў, 21 — Струмень, 22 — Бець, 23 — Хадосавічы, 24 — Лучын, 25 — Залессе, 26 — Рудня Шлягінская, 27 — Цэрабень, 28 — Бакінічы, 29 — Камень, 30 — Пхоў, 31 — Юравічы, 32 — Слабодка.*

Шахцёр цягне за сабой скураны мяшок, затым, ухапіўшыся за ніжнія краі, перакульвае яго. На белую крэйду, якая спрэс ляжыць тут пад нагамі, выпаў вялікі шэры камень — крамянёвая канкрэцыя. Чалавек падняў канккрэцыю і панёс да бліжэйшага дрэва, пад якім каля плоскага каменя сядзіць сівабароды стары. Навокал усё засыпана рознымі крамянёвымі адшчэпамі, абломкамі. Побач на кавалку тоўстага палатна акуратна раскладзены свежыя нарыхтоўкі крамянёвых сякер.

Стары, паглядзеўшы на прынесены крэмень, шырока ўсміхнуўся і нешта сказаў шахцёру. Затым ён паклаў канкрэцыю перад сабой на камень, пакруціў прымерваючыся. Потым узяў каменны адбойнік і ўдарыў ім па крэменю. Канкрэцыя, быццам пераваранaя бульбіна, здзіўляючa лёгка распалася на дзве палавіны. Толькі цьмяна бліснулі пад сонцам цёмна-шэрыя плашчыні расколін. Некалькімі лоўкімі ўдарамі стары раздзяліў палавіны канкрэцыі на плоскія брускі, у якіх ужо ўгадваліся абрысы будучых сякер.

Ну, вось і пара спыніць машыну часу. Пагас экран.

Старажытныя помнікі, магчыма, знаходзяцца і ля вашай вёскі або горада. Калі будзеце ў полі або ў лесе, на беразе возера ці рэчкі, дык абавязкова ўважліва паглядзіце сабе пад ногі і вакол сябе. Можа і вам пашанцуе знайсці наканечнік стралы або каменную сякеру. Старажытныя рэчы можа знайсці і ваш бацька, аручы поле або агарод. Яны часам трапляюцца пры капанні ям, у розных кар'ерах.

Знойдзеныя рэчы неабходна перадаць у школьны або іншы бліжэйшы краязнаўчы музей.

У многіх школах маюцца свае музеі і краязнаўчыя куткі, дзе побач з экспанатамі па гісторыі, нумізматыцы, этнаграфіі таксама сустракаюцца і археалагічныя экспанаты — пераважна розныя каменныя сякеры. Нярэдка здараецца, што ў школе ніхто не ведае, адкуль гэтыя рэчы паходзяць, калі і кім былі яны знойдзены, бо ўсе тыя, хто калісьці прыносіў знаходкі, даўно скончылі школу і раз'ехаліся хто куды. І прычына ўся ў тым, што экспанаты не заўсёды зашыфроўваюцца і не ўсюды вядуцца кнігі аб уліку.

Шыфроўка — справа нескладаная. Вось, напрыклад, знайшлі мы ля вёскі Русакова ў 1976 годзе крамянёвую скрабалку. Тушшу пішам на ёй у скарочаным выглядзе: Рус-76, а калі вядома назва ўрочышча, то дапісваем і яе. Тут жа ставім і нумар, пад якім знаходка будзе занесена ў кнігу ўліку. шыфры лепш наносіць на тыльных частках экспанатаў, каб не псаваць выгляд рэчаў. Вось і зашыфравана скрабалка. Застаецца толькі шыфр асцярожна пакрыць зверху якім-небудзь празрыстым клеем, каб надпіс не сцёрся.

Цяпер запішам у кніжку нумар знаходкі і яе характар — «скрабалка крамянёвая», а таксама адзначым, хто, дзе і калі яе знайшоў.

І яшчэ адна просьба да вас, дарагія школьнікі: пра тое, што знайшлі, абавязкова паведаміце па адрасу:

220072 Мінск, Ленінскі праспект, 66, Інстытут гісторыі Акадэміі навук БССР, сектар археалогіі.

Калі знаходкі акажуцца сапраўды цікавымі для археалагічнай навукі, у вашу мясцовасць абавязкова прыедуць археолагі і пачнуць

раскопкі. Але толькі не раскопвайце самі, бо, не ведаючы методыкі даследаванняў, вы можаце памыліцца і беззваротна сапсаваць, а то і зусім знішчыць каштоўны гістарычны помнік.

Беражы археалагічныя помнікі: стаянкі, селішчы, курганы, гарадзішчы. Гэта памяць пра тваіх далёкіх продкаў, якія жылі, працавалі, ваявалі многа сотняў і тысяч гадоў, таму назад. Дык нясі ж і далей гэту паходню жыцця, якая дайшла да цябе ад спрадвечных часоў, ад закапцелых пячор, ад буданоў, накрытых мамантавымі шкурамі, ад агнішчаў першых земляробаў і жывёлаводаў, ад цеплыж рук тваіх далёкіх прашчураў — бясстрашных паляўнічых і воінаў.

## ЗМЕСТ



Михаил Михайлович Чернявский
ИЗ ГЛУБИН ТЫСЯЧЕЛЕТИЙ
На белорусском языке
Рэдактар В. Ф. Гапановіч,
Мастак М. А, Саулян,
Мастацкі рэдактар А. І. Раманцоў.
Тэхнічны рэдактар М. р. Каліберава.
Карэктар Л. Ф. Савіцкая.
ІБ № 619 АТ 09545. Здадзена ў набор 1/XI 1977 г. Падпісана ў друк 19/1 1978 г. Фармат 70X108Vsi. Пап. друк. № 1. Ум. друк. арк. 5,6. Ул.-выд. арк. 5,67. Тыраж 10 000 экз. Заказ 596. Цана 20 к.
Выдавецтва «Народная асвета» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю.
220600 Мінск, Паркавая магістраль, 11.
Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкария выдавецтва ЦК КП Беларусі. 220041 Мінск, Ленінскі праспект, 79.